*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 27 лютага 1987 г. № 9 (3367) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У Цэнтральным Камітэце КПСС і Савеце Міністраў СССР

**Цэнтральны Камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову «Аб паляпшэнні ўмоў дзейнасці творчых саюзаў».**

У пастанове Цэнтральнага Камітэта КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб паляпшэнні ўмоў дзейнасці творчых саюзаў» адзначаецца, што далейшае развіццё савецкай літаратуры і мастацтва, павышэнне іх ролі ў духоўным жыцці грамадства ставяць перад творчымі саюзамі адказныя задачы па стварэнню значных у ідэйна-мастацкіх адносінах твораў. Намечаны меры па далейшай актывізацыі работы саюзаў пісьменнікаў, кінематаграфістаў, кампазітараў, тэатральных дзеячаў і мастакоў, па ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы гэтых саюзаў, будаўніцтву жылля, дамоў творчасці, а таксама па ўдасканаленню выдавецкай дзейнасці, прапаганды літаратуры і мастацтва.

Прыняты прапановы Саюза кінематаграфістаў СССР аб стварэнні Усесаюзнага таварыства сяброў кіно, Саюза пісьменнікаў СССР і Саюза пісьменнікаў РСФСР — аб стварэнні Усерасійскага бюро прапаганды мастацкай літаратуры.

У сувязі з неабходнасцю далейшага ўдасканалення арганізацыйнай дзейнасці творчых саюзаў пастановай прадугледжваецца ўтварыць пры Саюзе кінематаграфістаў СССР Кінематаграфічны фонд СССР (Кінафонд СССР). Саюзам тэатральных дзеячаў і тэатральным таварыствам саюзных рэспублік дазволена стварыць тэатральныя фонды. Устаноўлена, што сродкі Кінафонду СССР і тэатральных фондаў саюзных рэспублік утвараюцца ад адлічэнняў за паказ кінафільмаў і збораў з тэатральных спектакляў, ад даходаў прадпрыемстваў, якія належаць ім, а таксама ўступных і членскіх узносаў. Прадугледжваецца таксама ўтварэнне Літаратурнага фонду РСФСР.

Намечана выданне раман-газеты для падлеткаў і юнацтва, адкрыццё аддзяленняў выдавецтваў «Сучаснік» і «Дзіцячая літаратура» ў Сібіры, расшырэнне выпуску мастацкай літаратуры ў выдавецтве «Маскоўскі рабочы», пераўтварэнне штоквартальнага альманаха «Сучасная драматургія» ў шасціразовы літаратурна-мастацкі часопіс. Саюзу пісьменнікаў СССР даручана распрацаваць прапановы па ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы выдавецтва «Савецкі пісьменнік», Дзяржаўнаму камітэту СССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю і Міністэрству будаўніцтва ў паўночных і заходніх раёнах СССР— ажыццявіць рэканструкцыю Тульскай друкарні, якая забяспечвае выпуск кніжнай прадукцыі выдавецтва «Савецкі пісьменнік», а Саюзу пісьменнікаў СССР, Дзяржкамвыду СССР і Масгарвыканкому — рэканструкцыю рэдакцыйна-выдавецкага корпуса і друкарні «Литературной газеты» ў Маскве. Агенцтву друку «Новости» даручана выдаваць па заказу і на сродкі Саюза кінематаграфістаў СССР кнігі, брашуры, буклеты па кінамастацтву на замежных мовах. Дзяржкамвыду СССР — павялічыць пачынаючы з 1988 года ў паўтара раза ліміты на друк, прадастаўляемыя Саюзу кампазітараў СССР для забеспячэння выпуску нотнай літаратуры Ленінградскім аддзяленнем выдавецтва «Савецкі кампазітар».

Дзяржкамвыду СССР і творчым саюзам па ўзгадненню з зацікаўленымі арганізацыямі прапанавана распрацаваць і ўнесці ў ЦК КПСС у 1987 годзе прапановы аб далейшым развіцці літаратурна-мастацкай перыёдыкі — друкаваных органаў творчых саюзаў краіны, маючы на ўвазе паляпшэнне іх ідэйна-мастацкага зместу, упарадкаванне структуры, аб'ё-

(Заканчэнне на стар. 2).



У Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка за чвэрць стагоддзя займаліся тысячы таленавітых дзяцей. Многія менавіта тут вызначылі сваю дарогу ў жыцці. Сярод іх — лаўрэаты прэміі Ленінскага камсамола Беларусі скульптар Святлана Гарбунова, мастак Уладзімір Крываблоцкі, лаўрэаты рэспубліканскіх конкурсаў музыкантаў-выканаўцаў Сяргей Багачоў і Святлана Кульпа, іншыя.

Сёння тут вучыцца больш за чатырыста дзяцей з усіх канцоў Беларусі. Іх дзень гранічна насычаны: урокі музыкі і малюнка, харавыя спевы і дырыжыраванне, вывучэнне агульнаадукацыйных прадметаў, заняткі спортам.

Першыя крокі ў мастацтва даюцца хлопчыкам і дзяўчынкам нялёгка. Палюбіць свет цудоўнага памагаюць сваім выхаванцам вопытныя педагогі.

На здымку: педагог Таццяна Іванаўна МАЗАНАВА і першакласнік Саша ЯРОХІН на занятках па класе віяланчэлі.

Фота А. ДАВІДОВІЧА (БЕЛТА).

# У Цэнтральным Камітэце КПСС і Савеце Міністраў СССР

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

маў, тыражоў, штатаў рэдакцый, ганарарных фондаў. Саюзу пісьменнікаў СССР дазволена ўвесці ў штаты рада часопісаў пасады кансультанта або загадчыка аддзела міжнароднага жыцця; Саюзу кампазітараў СССР — павялічыць аб'ём часопіса «Музыкальная жизнь».

Прынята прапанова Саюза кінематаграфістаў СССР і Саюза тэатральных дзеячаў СССР аб павелічэнні з 1 студзеня 1988 года суботняга нумара газеты «Советская культура» на 4 паласы мэтавым прызначэннем для больш шырокага асвятлення праблем развіцця кіно і тэатра, жыцця творчых саюзаў кінематаграфістаў і тэатральных дзеячаў.

Вызначаны меры, накіраваныя на ўдасканаленне дзейнасці Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага. Намечана стварыць у гэтым інстытуце кафедру літаратурна-мастацкай крытыкі, павялічыць штогадовы прыём у аспірантуру да 10 чалавек. Масгарвыканкому даручана ў 1987—1988 гадах знайсці магчымасці для выдзялення Літаратурнаму інстытуту імя А. М. Горкага дадатковай плошчы, а таксама аказаць дапамогу ў капітальным рамонце інстытута і расшырэнні студэнцкага інтэрната.

Міністэрству культуры СССР па ўзгодненасці з Акадэміяй навук СССР і Саюзам кампазітараў СССР прапанавана стварыць ва Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце мастацтвазнаўства сектар-лабараторыю агульнай тэорыі музычнага фальклору народаў СССР з функцыямі кансультатыўна-каардынацыйнага цэнтра.

Міністэрству культуры СССР, Дзяржаўнаму камітэту СССР па кінематаграфіі, Дзяржаўнаму камітэту СССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню, Дзяржаўнаму камітэту СССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю, Міністэрству юстыцыі СССР, Усесаюзнаму агенцтву па аўтарскіх правах, творчым саюзам рэкамендавана распрацаваць прапановы, накіраваныя на ўдасканаленне аўтарскага права ў галіне літаратуры і мастацтва.

Дзяржаўнаму камітэту СССР па працы і сацыяльных пытаннях, Міністэрству фінансаў СССР, Дзяржкамвыду СССР, Міністэрству культуры СССР, Дзяржтэлерадыё СССР, творчым саюзам, Усесаюзнаму агенцтву па аўтарскіх правах па ўзгадненню з Саветамі Міністраў саюзных рэспублік і Дзяржпланам СССР даручана ўнесці ў 1987 годзе ў Савет Міністраў СССР прапановы: аб упарадкаванні аўтарскага ганарару за творы літаратуры, іх перавыданне, публічнае выкананне; аб змяненні ставак ганарару і парадку аплаты за выкарыстанне апублікаваных твораў на радыё, тэлебачанні, у тэатры, у грамзапісе, за пераклады мастацкай літаратуры; аб вызначэнні зыходных тыражоў выданняў, якія выходзяць на мовах малых народнасцей.

Міністэрству фінансаў СССР даручана прадугледжваць у фінансавых планах Саюза пісьменнікаў СССР неабходнае павелічэнне грашовых асігнаванняў за кошт уласных сродкаў саюза і адпаведных выдавецтваў на капітальны рамонт і эксплуатацыю аб'ектаў Саюза пісьменнікаў СССР (уключаючы рэдакцыі літаратурна-мастацкіх часопісаў), а таксама сродкаў, якія выдзяляюцца на камандзіроўкі пісьменнікаў з творчымі мэтамі, на арганізацыю работы з маладымі і пачынаючымі літаратарамі.

Дзяржплану СССР прапанавана прадугледзець у праектах планаў выдзяленне Саюзу кінематаграфістаў СССР неабходных лімітаў капітальных укладанняў на завяршэнне будаўніцтва Усесаюзнага кінацэнтра ў Маскве і вытворчага корпуса для Бюро прапаганды кінамастацтва ў Ленінградзе.

Дзяржплану СССР і Масгарвыканкому даручана забяспечыць праектаванне і будаўніцтва ў Маскве Дома музыкі, а таксама Дома мастацкай творчасці для калектываў Дзяржаўнага акадэмічнага рускага народнага хору РСФСР імя М. Я. Пятніцкага, Дзяржаўнага акадэмічнага рускага народнага аркестра імя М. П. Осіпава і Дзяржаўнага акадэмічнага ансамбля народнага танца СССР; Савету Міністраў РСФСР — ажыццявіць праектаванне і будаўніцтва Цэнтральнага Дома акцёра.

Намечаны меры па капітальнаму будаўніцтву і рэканструкцыі дамоў творчасці, паляпшэнню матэрыяльна-бытавых умоў дзеячаў літаратуры і мастацтва. Прызнана неабходным: упарадкаваць пенсіённае забеспячэнне членаў творчых саюзаў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, а таксама тых, хто, знаходзячыся на пенсіі, працягвае творчую дзейнасць; адрэгуляваць пытанні выплаты аўтарскага ўзнагароджання членам Саюза пісьменнікаў СССР, Саюза кампазітараў СССР, Саюза мастакоў СССР, якія жывуць і працуюць у раёнах Крайняй Поўначы і мясцовасцях, прыраўнаваных да іх, і не знаходзяцца ў штатах прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў.

Міністэрству культуры СССР і Дзяржкампрацы СССР рэкамендавана сумесна з Дзяржпланам СССР, Міністэрствам фінансаў СССР, ВЦСПС унесці прапановы ў Савет Міністраў СССР аб паляпшэнні матэрыяльнага забеспячэння і аплаты працы творчых работнікаў тэатраў юнага гледача і тэатраў лялек.

За кошт сродкаў творчых саюзаў у XII і XIII пяцігодках будзе ажыццёўлена будаўніцтва Дома ветэранаў сцэны ў Калініне, Усерасійскага Дома ветэранаў кіно ў Ленінградзе, гасцініцы ў Маскве.

Прадугледжан рад іншых мер, накіраваных на паляпшэнне ўмоў дзейнасці творчых саюзаў.

Цэнтральны Камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР абавязалі ЦК Кампартый саюзных рэспублік, крайкомы і абкомы партыі, Саветы Міністраў саюзных і аўтаномных рэспублік, крайвыканкомы і аблвыканкомы разгледзець пытанні развіцця матэрыяльнай базы мясцовых арганізацый творчых саюзаў, забеспячэння дзеячаў літаратуры і мастацтва жыллём, майстэрнямі, лячэбнымі ўстановамі.

Па данаму пытанню прынята таксама распараджэнне Савета Міністраў СССР адносна паляпшэння матэрыяльна-бытавых умоў дзеячаў савецкай культуры, упарадкавання аплаты іх працы, забеспячэння арганізацый і прадпрыемстваў творчых саюзаў абсталяваннем, сродкамі аргтэхнікі і транспарту.

Цэнтральны Камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР выказалі ўпэўненасць у тым, што прымаемыя меры паслужаць справе далейшага ўмацавання ідэйна-мастацкага патэнцыялу савецкай культуры, стануць плённым стымулам у дзейнасці майстроў літаратуры і мастацтва.

# ПЕРАБУДОВА — КРОЎНАЯ СПРАВА НАРОДА

Ленінскае сцвярджэнне, што прафсаюзы — школа гаспадарання, школа камунізму, набывае сваё першаступеннае значэнне сёння, калі адбываецца перабудова ва ўсіх сферах жыцця нашай краіны. У сувязі з гэтым узрастае і роля, адказнасць самай масавай арганізацыі, якая, будзем шчырымі, да нядаўняга часу нярэдка канкрэтную дзейнасць падмяняла агульнымі разважаннямі і заклікамі.

На гэтыя аспекты была звернута ўвага на XVIII з'ездзе прафсаюзаў СССР, што разгледзеў задачы прафесійных саюзаў краіны ў святле рашэнняў XXVII з'езда КПСС, унёс змяненні ў Статут прафсаюзаў СССР, выбраў кіруючыя органы.

Падзеяй на з'ездзе, як і ў жыцці ўсёй краіны, стала прамова Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова «Перабудова — кроўная справа народа». Год, які прайшоў пасля партыйнага з'езда, дае ўсе падставы сцвярджаць, што перабудову цяпер патрэбна ажыццяўляць практычна, бо сёння па сутнасці вырашаецца лёс яе, закладваецца падмурак паскарэння. Перабудова — ужо не ідэя, а рэальнасць.

«Студзеньскі Пленум, — падкрэсліў Міхаіл Сяргеевіч, — умацаваў перакананне ў грамадстве, што перабудова набывае незваротны характар. Бо гэта моцна цяпер актывізавала пазіцыі многіх слаёў насельніцтва. Нямала яшчэ было чакаючых і назіраючых. Цяпер яны пераходзяць у разрад актыўна дзеючых». Аднак нельга сказаць, што перабудова адбываецца проста — закрануты інтарэсы многіх людзей, у тым ліку і тых, каго задавальнялі старыя парадкі, хто прывык менш працаваць, але больш мець. Сярод апанентаў перабудовы ёсць і людзі сумленныя, бескарыслівыя, але яны застаюцца ў палоне старых уяўленняў, па-сапраўднаму пакуль што не ўсвядомілі вастрыні і крытычнасці праблем, якія ўзніклі перад грамадствам.

«Наш выбар шляху правільны, — зазначыў М. С. Гарбачоў. — Мы ідзём не ў бок ад сацыялізму, а праз перабудову разгортваем патэнцыял сацыялістычнага ладу. Не ў бок ад дэмакратыі, а ў бок разгортвання дэмакратыі ў інтарэсах працоўных». Дэмакратыя, было падкрэслена ў дакладзе, гэта парадак больш высокага ўзроўню, заснаваны не на бяздумным паслушэнстве, сляпой выканальнасці, а на паўнапраўным, ініцыятыўным удзеле членаў грамадства ва ўсіх справах; дэмакратыя — гэта свядомая дысцыпліна і арганізаванасць людзей працы, у аснове якой — пачуццё рэальнага гаспадара краіны, калектывізм, салідарнасць інтарэсаў і намаганняў усіх грамадзян; дэмакратыя — гэта самакантроль грамадства, заснаваны на даверы да грамадзянскай сталасці і разумення грамадскага абавязку савецкімі людзьмі, гэта — адзінства правоў і абавязкаў.

Гаворачы аб задачах прафесійных саюзаў на сучасным этапе, М. С. Гарбачоў адзначыў, што яны перш за ўсё павінны быць своеасаблівай процівагай тэхнакратычным намерам у эканоміцы, актыўна ўдзельнічаць у распрацоўцы сацыяльных раздзелаў плана, а — пры неабходнасці — уносіць свае альтэрнатыўныя прапановы. Поле дзейнасці прафсаюзаў — жыццё чалавека, размеркаванне жылля, барацьба за прадукцыйнасць працы, дзяржаўны падыход да арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва, змаганне з паказухай у ім. Лёс перабудовы вырашаецца не ў кабінетах, а ў практычных справах працоўных калектываў.

У заключэнне М. С. Гарбачоў спыніўся на вузлавых момантах міжнароднай абстаноўкі, вызначыўшы дзве фундаментальныя задачы — выратаваць свет ад ядзернай катастрофы і паставіць на службу чалавеку велізарны патэнцыял ведаў, матэрыяльных і духоўных магчымасцей, якія ён мае, падкрэсліў важнасць уключэння прафсаюзаў у рашучую барацьбу за мір, бо права жыць у міры, спакойна працаваць — першараднае і неад'емнае права кожнага чалавека.

# РАСКЛАД НА ЗАЎТРА

## У прэзідыуме праўлення Саюза тэатральных дзеячаў БССР

Пад старшынствам М. Яроменкі адбылося першае пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза тэатральных дзеячаў рэспублікі. На ім быў разгледжаны шэраг надзённых пытанняў унутрысаюзнага жыцця: вынікі вытворча-фінансавай дзейнасці БТА за 1986 г., структура творчых і грамадскіх фарміраванняў СТД БССР, палажэнне аб творчых камандзіроўках членаў саюза.

Прэзідыум рэкамендаваў да шырокага абмеркавання тэатральнай грамадскасцю праект Статута Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі (праект будзе надрукаваны ў бліжэйшым нумары «Літаратуры і мастацтва»).

Зацверджаны таксама план асноўных мерапрыемстваў СТД БССР на 1987 г., у якім сярод іншага прадугледжаны выязныя пасяджэнні прэзідыума па пытаннях ідэйна-мастацкага ўзроўню бягучага рэпертуару ў тэатрах Магілёва і Гродна, падвядзенне вынікаў сезона ў калектывах, якія працуюць ва ўмовах комплекснага эксперыменту, удзел у аб'яднаным пленуме праўленняў творчых саюзаў рэспублікі, прысвечаным 70-годдзю Кастрычніка, разнастайныя канферэнцыі, семінары, агляды, конкурсы і выстаўкі. Ажыўленае і зацікаўленае абмеркаванне выклікала прапанова В. Маслюка аб стварэнні пад эгідай СТД БССР тэатра, у якім для працы над спектаклямі збіраліся б прадстаўнікі розных сцэнічных калектываў.

Да ўдзелу ў міжрэспубліканскім фестывалі «Прыбалтыйская тэатральная вясна», які адбудзецца ў красавіку ў Мінску, прэзідыум прапанаваў спектаклі «Бура» У. Шэкспіра (Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы) і «Апошні наведвальнік» В. Дазорцава (Рускі тэатр БССР імя М. Горкага).

# НА КАРЫСЦЬ РОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

## 55 гадоў назад выйшаў у свет першы нумар «ЛіМа»

Перагарнуў лісткі лютаўскага календара. На адным з іх — за 26 лютага — чытаю: «55 гадоў з дня (1932) выхаду першага нумара газеты «Літаратура і мастацтва». Сёння ж чытачы атрымаюць газету за нумарам 3367.

Мне, сталаму члену рэдкалегіі «Літаратуры і мастацтва», чалавеку, які сочыць за шляхам газеты вось ужо больш за пяць дзесяцігоддзяў, асабліва яскрава бачна, колькі карыснага зрабіла яна для развіцця культуры рэспублікі. На вачах у «ЛіМа» сталелі пісьменнікі і кампазітары, мастакі і дзеячы кіно, тыя, хто сёння з'яўляецца нашым нацыянальным гонарам. Сталела і сама газета. Мне, як мастаку, прыемна засведчыць, што пазіцыя «ЛіМа» нязменная — сацыялістычны рэалізм. На старонках штотыднёвіка мы першымі чыталі многія новыя творы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Імёны тых, хто рэдагаваў «ЛіМ», увайшлі ў энцыклапедыю. Выхад газеты ў свет у розныя часы падпісвалі вядомыя літаратары І. Гурскі, А. Куляшоў, П. Кавалёў, В. Вітка, М. Ткачоў, Я. Шарахоўскі... А былыя рэдактары штотыднёвіка Н. Пашкевіч, А. Асіпенка і А. Жук і цяпер уваходзяць у склад рэдкалегіі.

Што можна сказаць пра сённяшнюю газету? Так, яна стала больш цікавай, набліжанай да надзённых праблем жыцця. Гаворка пра развіццё роднай мовы і літаратуры, публіцыстычныя выступленні нашых паэтаў і празаікаў, асвятленне шматлікіх пытанняў тэатра і музыкі, выяўленчага мастацтва і аматарскай творчасці, выхад на праблемы сучаснай вёскі, ахова нашай гісторыка-культурнай спадчыны — вось далёка няпоўны пералік тэматыкі, якая адлюстравана ў разнастайных артыкулах, гутарках, інтэрв'ю, нарысах. Вельмі радуе, што і чытачы газеты, тыя, без каго яна не можа існаваць, сталі больш актыўна дасылаць свае пісьмы на адрас рэдакцыі, дзяліцца набалелым, ставіць вострыя пытанні, якія хвалююць грамадскасць. Пра гэта сведчыць новая рубрыка газеты «Служба зваротнай сувязі». Адметна, што сярод аўтараў «ЛіМа» сёння — не толькі дзеячы літаратуры і мастацтва, работнікі культуры, але і ўрачы, інжынеры, рабочыя, студэнты, вучоныя, прычым ёсць сярод іх і тыя, хто жыве за межамі рэспублікі. Гэта, дарэчы, гаворыць пра тое, што газета зрабіла першыя крокі да масавага чытача. Але трэба імкнуцца пашыраць гэтыя сувязі, зразумела, шляхам паглыблення ў надзённыя праблемы сучаснасці, праўдзіва і прафесійна асвятляючы працэсы перабудовы. Менавіта пра гэта ішла гаворка на апошнім партыйна-прафсаюзным сходзе калектыву рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва», на якім абмяркоўваліся матэрыялы сустрэчы М. С. Гарбачова з работнікамі сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды. Быць публіцыстам, трыбунам, трымаць руку на пульсе часу — да гэтага абавязвае газету народ, да гэтага абавязвае «ЛіМ» і ордэн Дружбы народаў, які быў прымацаваны да сцяга рэдакцыі, як знак павагі і даверу да яе асветніцкай, грамадска-палітычнай дзейнасці.

Заір АЗГУР,
народны мастак СССР,
Герой Сацыялістычнай Працы, член рэдкалегіі «Літаратуры і мастацтва».

**З ПОШТЫ «ЛіМА»**

# «ШАНУЙЦЕ РОДНАЕ СЛОВА!»

На Гомельскім абласным радыё — прэм'ера: прагучала першая перадача з новага цыкла пад назвай «Шануйце роднае слова!». Задушэўнай субяседай, высокім вершам, народнай песняй заявіла імяніннiца аб сабе. У прыватнасці, арыгінальна і арганічна ўпісаліся ў перадачу вершы А. Александровіча «Я Леніна пяю!», П. Панчанкі «Родная мова», Н. Гілевіча «Слова», Г. Бураўкіна «Слова наша роднае...», песня М. Чуркіна на словы Я. Купалы «А хто там ідзе?», хор з оперы А. Туранкова «Яснае світанне» і песня лірнікаў з оперы Р. Пукста «Машэка», а таксама выказванні беларускіх пісьменнікаў розных пакаленняў аб найвялікшым духоўным набытку народа — роднай мове.

У новай перадачы прыняў удзел загадчык кафедры беларускай мовы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, доктар філалагічных навук, заслужаны дзеяч навук БССР У. Анічэнка. Спыніўшыся на некаторых пытаннях вучнёўскага і студэнцкага вывучэння роднай мовы, прафесар адзначыў, што па сваёй неабачнасці з некаторага часу мы ўзвялі іх да вострай праблемы, сітуацыі непажаданай, якая павінна выпраўляцца. На думку вучонага, перадачы «Шануйце роднае слова!» зробяць сваю добрую справу.

Рэдактар і аўтар гэтай карыснай і неабходнай перадачы журналіст М. Бандарэнка зазначае:

— Цыклу перадач «Шануйце роднае слова!» мы надаём не часовы характар, а пастаянна прапісваем яго ў эфіры. Шырокі творчы актыў збярэ ён вакол сябе — вядомых мовазнаўцаў, літаратараў, настаўнікаў і студэнтаў, пісьменнікаў, усіх, хто шануе і любіць роднае слова, а разам з ім і зямлю сваіх продкаў.

І. КІРЭЙЧЫК.

**У нядаўняй лімаўскай гаворцы на тэму «Чалавек у «інтэр'еры» горада», у прыватнасці, закранаоліся пытанні гістарычнай горадабудаўнічай спадчыны ў сучасным асяроддзі. Своеасаблівы працяг яе — сённяшні артыкул пісьменніка У. Юрэвіча, у якім аўтар узнімае праблему другога жыцця «бастыёнаў рэвалюцыі» ў сталіцы рэспублікі з тым, каб яны актыўна працавалі на патрыятычнае выхаванне маладога сучасніка.**

Уладзімір ЮРЭВІЧ

# Гэта наша жывая гісторыя




Калі пытаешся пры выпадку ў мінскіх старшакласнікаў, ды і наогул маладых людзей, дзе і як здзяйснялася Кастрычніцкая рэвалюцыя ў нашым горадзе, пэўныя і вынашаныя ў сэрцы адказы пачуеш не часта. Пра Вялікую Айчынную вайну, пра дзейнасць мінскага камуністычнага падполля ў 1941—44 гг. моладзь наслухана больш, называе творы літаратуры, кінафільмы, спектаклі... Пра гісторыю ж даўнейшую, звязаную з перамогай Кастрычніка, дасведчаны горш, калі гаварыць пра яе канкрэтныя сляды ў родным горадзе. Чым вытлумачыць такое становішча?

Мне здаецца, у значнай меры тым, што асяроддзе, якое акружае мінчан і іх гасцей, не акцэнтуе належнай увагі на тых векапомных днях, калі нараджалася новая эпоха — Кастрычніцкая, калі ўсталёўвалася на Беларусі Савецкая ўлада, усталёўвалася ў цяжкіх умовах грамадзянскай вайны. Гэта быў першапачатак рэвалюцыйнага абнаўлення жыцця, успамінаць пра які варта было б часцей. І не толькі ўспамінаць, але і клапаціцца маладзейшым пакаленням пра тыя ўцалелыя мясціны, будынкі горада, што былі асяродкамі рэвалюцыйнага абуджэння мас.

Прывакзальная плошча Мінска яшчэ на пачатку XX стагоддзя праславілася тым, што тут адбылося масавае выступленне чыгуначнікаў, арганізаванае мінскай групай РСДРП у знак падтрымкі Усерасійскай палітычнай стачкі. Апоўдні 18 кастрычніка 1905 года стала вядома пра царскі маніфест, абнародаваны напярэдадні, у якім Мікалай II абяцаў дараваць шэраг дэмакратычных свабод і склікаць заканадаўчую Думу з удзелам усіх слаёў насельніцтва. На плошчу да вакзала рынуліся мінчане з усіх канцоў горада, сабралася каля 10 тысяч чалавек, якія патрабавалі вызвалення палітзняволеных з мінскай турмы. Губернатар Курлоў вызваліў вязняў, але адразу ж аддаў загад войску і паліцэйскім расстраляць няўзброеных рабочых. Было забіта каля сотні чалавек і некалькі дзесяткаў ранена. Мінская група РСДРП выпусціла адозву «Да грамадзян горада Мінска», у якой заклікала да ўзброенага паўстання, запатрабавала звольніць і аддаць пад суд губернатара, вывесці з горада казакаў і перадаць ахову грамадскага парадку ў рукі народнай міліцыі... У Мінску, такім чынам, паўтарылася «Крывавая нядзеля», што разгулялася на пачатку таго ж года ў Пецярбурзе на Дварцовай плошчы, яшчэ раз была падарвана вера ў цара.

Мінчане да 20-годдзя Курлоўскага расстрэлу ў гонар яго ахвяр збудавалі на плошчы сціплы абеліск з пяцікутнай гранітнай зоркай, у цэнтры якой па вечарах запальвалася, як Вечны агонь, электрычная лямпачка. Абеліск быў абнесены на крузе металічнай агароджай, за якой з ранняй вясны да позняй восені цвілі кветкі. Узімку ж жывыя кветкі з'яўляліся час ад часу — ад мінчан, ад гасцей Мінска, што прыходзілі сюды ўшанаваць памяць звяяваных у Першую расійскую рэвалюцыю. Вакол помніка потым было збудавана развароттнае кальцо трамвая, і пасажыры прытуляліся да вокнаў, каб занатаваць у памяці знак Рэвалюцыі.

У вайну акупанты знішчылі абеліск з вечным агнём. Пад час першай пасляваеннай рэканструкцыі плошчы памятная мясціна была наогул скасавана. Толькі праз сорак гадоў пасля вайны мясцовыя ўлады ўспомнілі, што быў Курлоўскі расстрэл, быў памятны знак ушанавання яго ахвяр. Знак аднавілі ў выглядзе мемарыяльнай дошкі, прымацаванай на ўваходзе ў метро. Не падумаўшы, відаць, што людзі тут заўсёды спяшаюцца ці на цягнік, ці дамоў, выйшаўшы з цягніка. Ім няма часу нават прачытаць тэкст на сцяне, не тое, каб сцішыцца і перажыць яшчэ раз урок мінулага...

Калі нельга знайсці месца, каб аднавіць абеліск на Прывакзальнай плошчы (яе дарэчы было б назваць плошчай Рэвалюцыі 1905 года!), можа, варта збудаваць помнік «Барацьбітам рэвалюцыі» ў скверы, што паміж вуліцамі Кірава і Ленінградскай. Тут, на Ленінградскай, захаваўся будынак, праўда, перайначаны, надбудаваны яшчэ адным паверхам, дзе месціўся першы Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, створаны ў сакавіку 1917 года па рашэнню нарады бальшавікоў Мінска і Заходняга фронту. Вечны агонь у гонар ахвяр Рэвалюцыі можна было б запаліць у дні святкавання 70-й гадавіны Вялікага Кастрычніка, даставіўшы яго ад полымя, якое палыхае на Марсавым полі ў Ленінградзе. Вечны агонь патрэбны чалавеку, каб асвятляць уласнае сэрца водсветам тых гераічных дзён, калі над краінай займаўся золак вызвалення з-пад улады капіталу.

Будынак першага Мінскага Савета, дзе быў падпісаны загад № 1 пра перамогу Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, варта рэканструяваць, каб ён меў выгляд таго часу, семнаццатага года, і адкрыць у ім хоць бы мемарыяльны пакой.

Захаваўся непадалёк, на рагу вуліц Карла Маркса і Валадарскага, трохпавярховы дом, дзе ў 1917 годзе «месцілася першая народная міліцыя г. Мінска», як пазначана на мемарыяльнай дошцы, што прымацавана да сцяны. Народная міліцыя была створана ў той самы дзень, як і Мінскі Савет, 17 сакавіка. Узначаліў міліцыю М. В. Фрунзе — выдатны рэвалюцыянер, бальшавік - ленінец. Ён адразу павёў рабочыя баявыя дружыны і салдат, каб раззброіць царскую паліцыю і жандармерыю. Мінчане з вінтоўкамі ў руках вартавалі Саветы і хадзілі ў гэты дом з баявымі данясеннямі. Можа, варта было б пакой, дзе працаваў М. В. Фрунзе, аднавіць. Ды, мабыць, настаў час успомніць і пра помнік аднаму з арганізатараў перамогі Кастрычніка ў Мінску. Камень аб закладзе такога помніка, як і камень на месцы будучага помніка А. Ф. Мяснікову, адстаялі ўжо чвэрць века.

Будынкі, звязаныя так ці інакш з гісторыяй перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, варта, па-мойму, вярнуць да таго выгляду, які яны мелі ў векапомныя дні Семнаццатага года, можа, вылучыўшы іх нават колерам фарбаў. Бастыёнам рэвалюцыйных падзей з'яўляўся будынак гарадскога тэатра (цяпер тэатр імя Янкі Купалы), дзе ў пачатку 1919 года сабраўся Першы ўсебеларускі з'езд Саветаў і прыняў першую Канстытуцыю рэспублікі. Горадабудаўнікі і Міністэрства культуры БССР у свой час пайшлі на тое, каб карэнным чынам перабудаваць фасад тэатра, скасаваць той балкон над уваходам, які дазволіў зрабіць гістарычны здымак усіх дэлегатаў Першага з'езда ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту ў красавіку 1917 года. З'езд гэты ў гісторыі Кампартыі Беларусі застаецца важнай вяхой на шляху барацьбы бальшавікоў за масы.

На сумленні гарадскіх улад застаецца і перабудова двухпавярховага будынка на плошчы Свабоды (былога губернатарскага дома), дзе знаходзіўся часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад БССР, а пазней прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта рэспублікі з яго вядомай на ўсю Беларусь «прыёмнай Чарвякова». Замест таго, каб пабудаваць прыстойнае памяшканне для спецыяльнай музычнай школы пры кансерваторыі, пайшлі на скасаванне гістарычнага помніка — першай рэзідэнцыі вышэйшага органа Савецкай улады на Беларусі. Гэтаму будынку варта было б вярнуць той выгляд, які ён меў на пачатку XX стагоддзя, у тыя дні, калі мінскі пралетарыят пад кіраўніцтвам РСДРП наладжваў адну маніфестацыю за другой перад губернатарскім домам. Здаралася, што ў вокны гэтага дома ляцела каменне, выдранае з бруку рукамі ўзбунтаваных рабочых, каб выказаць свой пратэст супроць царызму. Тут чынілася расправа губернатара з няўзброенымі рабочымі, а брук, схаваны зараз пад асфальт, тоіць сляды крыві, якую неаднойчы пралівалі мужныя пралетарскія змагары.

Менавіта тут, на былой Сабornай плошчы або на Высокім месцы, ішло класавае гартаванне мінскіх пралетарыяў яшчэ ў гады рэвалюцыі 1905—1907 гадоў і пазней, калі рыхтавалася ўзброенае паўстанне... Тут закіпала рабочая нянавісць супроць прыгнятальнікаў, якія намагаліся задушыць рэвалюцыйную свядомасць працоўных, перашкодзіць перарастанню рэвалюцыі буржуазна - дэмакратычнай у сацыялістычную. Адсюль ішлі рэвалюцыйныя калоны маніфестантаў па былой Прэабражэнскай вуліцы (цяпер Інтэрнацыянальнай) да варот мінскай турмы, патрабуючы вызвалення палітзняволеных.

На Сабornай плошчы ў будынку аддзялення Азоўска-Данскога камерцыйнага банка і купецкага клуба ў 1917 годзе збіраліся бальшавікі Беларусі і Заходняга фронту на свае I і II канферэнцыі. Тут было прынята рашэнне дапамагчы пралетарыяту Петраграда — паслаць туды баявую дружыну ўзброеных мінскіх рабочых. І Ленін, выступаючы неўзабаве ў Петраградзе перад членамі Цэнтральнага Камітэта партыі, заўважыў: «Абласны з'езд і прапанову з Мінска трэба выкарыстаць для пачатку рашучых дзеянняў».

У гэтым будынку, які стаіць і цяпер на плошчы Свабоды пад нумарам 4 і ўвешаны шыльдамі розных устаноў, тады, у баявым Семнаццатым, збіраўся на свае пасяджэнні выканком Мінскага Савета, яго бальшавіцкая фракцыя. Тут 25 кастрычніка 1917 г. на пасяджэнні Паўночна - Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б) было прынята рашэнне аб устанаўленні ў Мінску Савецкай улады. Будынак гэты — жывая гісторыя Кастрычніцкай рэвалюцыі, бо тут, па сутнасці, быў яе штаб.

Пасля ўстанаўлення Савецкай улады Мінскі Савет на адным з першых пасяджэнняў прыняў пастанову аб перайменаванні старых назваў вуліц і плошчаў горада. Цэлы вузел цэнтральных вуліц, як бы звязаных у адно на пляцу Волі, атрымаў новыя назвы — Рэвалюцыйная, Вольная, Інтэрнацыянальная, Кастрычніцкая, Ленінская, Энгельса, Карла Маркса, Камуністычная, Камсамольская, Урыцкага, Валадарскага, Свярдлова, Рэспубліканская, Камунальная... Гэта было відавочным пацвярджэннем таго, што Савецкая ўлада ўсталёўвалася трывала і навечна. Многія з гэтых назваў пасля вайны перавандравалі на іншыя вуліцы. Аднак жа мы павінны ганарыцца, што адно са старэйшых прамысловых прадпрыемстваў Мінска носіць імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, што ёсць Кастрычніцкая вуліца і, нарэшце, завяршаецца афармленне Кастрычніцкай плошчы, якая доўгі час заставалася «непрыкаянай», з дзяжурнай назвай — Цэнтральная. Тут нават быў пасаджаны сквер са шматгадовых ліп, які прыжыўся добра. Кажуць, у майскія цёплыя ночы сюды залятаў нават салавей і вёў свой прыгожы спеў.

Давялося ахвяраваць якой паўсотняй дарослых дрэў. Цяпер на месцы сквера будуецца нарэшце Палац культуры рэспублікі. Пра яго будаўніцтва друк, у прыватнасці, штотыднёвік «ЛіМ», паведамляў. І ўсё ж дарэмна праект Палаца столькі часу заставаўся «пад сакрэтам». Варта было б, перш чым закладваць падмурак, наладзіць грамадскае абмеркаванне праектаў вонкавага і ўнутранага вырашэння Палаца, што будуецца на вякі. Якім ён мне асабіста ўяўляецца?

Будучы Палац культуры рэспублікі павінен быў бы сінтэзаваць у сабе старадаўні былінны спеў, гэтак удала выяўлены ў Полацкай Сафіі, памножаны на беларускую народную песню, з якой развівалася б рэвалюцыйная напеўнасць эпохі, адпаведная назве той плошчы, на якой узвышаецца сапраўдны гмах як сімвал сённяшняй явы рэспублікі, народжанай з полымя рэвалюцыі.

Гэткае маё ўяўленне пра будучую плошчу Кастрычніка, як лагічны працяг і завяршэнне плошчы Свабоды, архітэктурнае вырашэнне рэканструкцыі якой трэба прывязаць не толькі да сівой мінуўшчыны, але і да той пары, калі тут у рэвалюцыйным віраванні мінскіх пралетарыяў і салдат Заходняга фронту, што прадстаўлялі сабой вясковую беднату ў шынялях, нараджалася Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусі. Галоўным акцэнтам архітэктурнага вырашэння павінен стаць манумент у гонар змагароў за Кастрычнік, за ўладу Саветаў. І месца для яго як бы прыгатавала сама гісторыя — у цэнтры сквера перад домам, які займае сёння абласны савет прафсаюзаў. Менавіта там у 1917 годзе па праекту архітэктара і скульптара А. Краснапольскага (не шукайце гэтае імя і апісанне яго твора ў «ЭЛіМБел») быў збудаваны першы савецкі помнік Рэвалюцыі, які быў знішчаны кайзераўскімі акупантамі. З'арыентаваны на Дом працы, манумент гэты мог бы загучаць як велічны пралог да плошчы Свабоды, калі ўваходзіш на яе з боку Кастрычніцкай плошчы, які нёс бы, як галоўную, ідэю святла, што прыйшло на Беларусь з усходу.

Як вядома, гадоў дваццаць ці больш таму назад на Цэнтральнай плошчы ў Мінску, насупраць урадавых трыбун быў устаноўлены камень з надпісам, што тут закладваецца манумент у гонар змагароў за Савецкую ўладу. Цяпер, у сувязі з будаўніцтвам Палаца культуры, які зойме асноўную прастору плошчы, мабыць, узнікне праблема месца для манумента. Можа, і варта выбраць гэткім месцам плошчу Свабоды, якая доўгія дарэвалюцыйныя гады слыла арэнай класавых баёў мінскага пралетарыяту.

Перамога Кастрычніка дала магчымасць стварыць у цэнтры Мінска новае мастацкае асяроддзе. На змену гандлёва-прамысловаму губернскаму гораду, якім ён сфарміраваўся пад канец XIX — на пачатку XX стагоддзяў, прыходзіў новы змест — сталіца Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Чырвоныя палотнішчы транспарантаў, пісаныя галоўным чынам на роднай беларускай мове, пано з многаразова паўторанымі матывамі вядомых «Вокнаў РосТА», яркія палітычныя карыкатуры на ворагаў Савецкай улады і гучныя лозунгі, што заклікалі на аднаўленне народнай гаспадаркі, ажывілі пацямнелыя ад часу фасады гарадскіх дамоў, упрыгожылі вуліцы і плошчы.

Сённяшняму чалавеку, нашчадку Вялікага Кастрычніка, трэба вярнуць атмасферу рэвалюцыйнага абнаўлення свету, зару нараджэння новай, сацыялістычнай явы. Добра, калі ансамбль новай Кастрычніцкай плошчы разам з рэканструяванымі ансамблямі плошчы Свабоды, будуць аб'яднаны ідэяй рэвалюцыйнага абнаўлення і духоўнага ўзвышэння беларускага народа.

Ці не пара ўзяць прыклад з Масквы, дзе ствараецца музейны гісторыка - рэвалюцыйны запаведнік «Чырвоная Прэсня»? Чаму б і нам не зрабіць такую запаведную зону хоць бы на плошчы Свабоды, закрыўшы рух гарадскога транспарту, адрэстаўрыраваўшы векапомныя будынкі. А пасля прадоўжыць маршрут Рэвалюцыі па вуліцах Ленінскай, Карла Маркса і завяршыць яго ў скверы па Ленінградскай вуліцы.

**(Заканчэнне на стар. 4).**

Пімен ПАНЧАНКА

## Цыцэроны

Дзед Талаш сказаць павінен слова.
Грамацей ён —
Як і ўсе дзяды калісьці.
Напісалі для яго прамову
І паставілі суфлёра за кулісы.

«За ўраджай змагаемся мы мужна,
І жывём мы багацей, святлей,
дружней...»
А Талаш дык не па тэксту:
«Слушна... слушна...
Трэба сеяць жыта сёлета пазней».

«Дурны мужык, як варона».
Сёння з той адсталасцю пакончана!
Вырасла ў нас многа цыцэронаў,
З мікрафончыкам пя іх—
І цыцэрончыкі.

Ты дырэктар фабрыкі ці трэста,
Дык скажы,
Што добра там, што дрэнна.
А табе патрэбна машыністка з трэскам
І прамоў складальнік,
І арэна.

Разбухаюць, нібы цеста, штаты —
Гадавальнікі складальнікаў прамоў.
Выразкі і вытрымкі. Цытаты.
Тут ужо не да людскіх размоў.

Вочы да паперы:
Што там *напілікана?*
Лозунг, дыяграма — на сцяне.
«План па дзяржпрыёмцы перавыкана...
Ёсць у нас і пос... а ёсць і не...»

Можа, нам заместа тых начальнікаў
Выбраць іх памочнікаў
Ці іншых, з галавой?
Ды супрацiўляюцца адчаянна
І за крэсла распачнуць смяротны бой.

Мы ў адной жа школе ўсе вучыліся,
Нам казалі:
«Да жыцця сябе рыхтуй».
Дзе ж вы і калі вы налаўчыліся
Несці ўсім вядомую лухту?

Ці перавучыць іх, ці адмесці?
Каб загаварылі, як раней:
«Мама, мама,
Бульбы дай пад'эсці,
Тата, тата,
Хлеб за ўсё смачней».

Цыцэроны ўсюды, цыцэроны...
Глухнуць людзі, птушкі і звяры.
А вароны?
З розумам вароны.
Як дзяды.
Як сам Талаш стары.

## Як гінуць паэты

Мы гінем ад злосці,
Хлусні, ананімак.
І густам мяшчанскім
Прыносім даніну.

Мы гінем ад жорсткасці,
Пыхі і сквапнасці,
Таму ў нашых вершах
Так мала прыязнасці.

Мы гінем ад прагнасці,
Лютасці, зайздрасці,
Таму ў нашых вершах
Ні праўды, ні радасці.

Патрэбна майстэрства сваё
Асядлаць,
А нас прызучаюць
Штодня засядаць.

Прыгоннае права
Бюракратызма
Даводзіць людзей
Да ідыятызма.

Няздольнасць рабіць
З найвышэйшай аддачай,
Кіруе да пляшкі,
Кіруе да дачы.

Мы рэдка чытаем
Таварышаў вершы,
Заўсёды здаецца
Свой верш цікавейшым.

Твой лепшы таварыш
Гатовы табой кіраваць,
А таленту пробліск
Не можа табе дараваць.

Пакуль ты пасрэдныя вершы шкрабеш
Пра рэчку і грэчку,
Пакуль ты
Не ўзяў нашай праўды высокі рубеж,
А жонкай залічаны ў культы;

Ты пішаш пра зорку,
Пра крылле буслоў,
Пра сцежку да роднага дома,
Цураемся мы тых заездажаных слоў
І голас нам твой незядомы.

Не плаксы, не крыксы,
Не цямці, не лямці,
А цягне прыўкрасіць,
Бадзёра зманіць.
Халтурныя вершы вы як не рэкламце,
Паэту такому не будуць званіць.

А ты лепш турботай людской захварэй,
Душой дакраніся да гора —
І стануць жывымі твой ямб і харэй,
І, нават, верлібр загаворa.

## Аснова

Невуцтва — агрэсіўнае і злоснае,
Кар'ерызм — паслужлівы і нахабны,
Ляныя рукі і сэрца—
Прагнуць салодкіх пацех і хабару.
А жыццё — цудоўнае і грознае.
Каб стаць чалавекам
У час наш суровы,
Помні жыцця асновы:

Гавары, як вучыла маці,
Рабі, як вучыў бацька,
Жыві, як добрыя людзі,
Усё, на што здольны,
Зрабі для Радзімы;
Злуйся не на сябра ці сяброўку,
А на ворага і бюракрата;
Не сядзі склаўшы рукі,
Калі можаш нешта зрабіць:
Выратаваць чалавека,
Пагасіць пажар.
Ну, а калі не выпадае,
Хоць усміхніся маломy дзіцяці.
Не забудзь кожны дзень
Сказаць такія словы:
Таварыш,
Дзень добры,
Калі ласка,
Дзякую.

Не цурайся людзей,
Каб душа не сапсела.
Помні: жыта дзядоў
Добра ў мэндліках спела.

## Гістарычны верлібр

(АМАЛЬ КАЗКА)

Надзея Хадасевіч,
Беларуская дзяўчынка з Зембіна,
Заляцела ў Парыж,
Зрабілася вядомай мастачкай,
Выйшла замуж
За славутага Фернана Лежэ.
Яна ніколі не забывала родны край,
Часта ўспамінала Беларусь
І прыязджала, і любавалася
Бярозамі і рабінамі.
Пад старасць падарыла Зембіну
Многа сваіх карцін.
Іх, каб лепш зберагчы,
Мясцовыя ўлады так схавалі,
Што доўга не маглі знайсці.

Сусветна вядомы мастак
Віцябчанін Шагал,
Які апантана любіў свой горад
І фантастычна пісаў
Віцебскіх шаўцоў і краўцоў;
Кароў, якія лётаюць;
Васількі і дзяўчат,
У якіх на месцы сэрца
Былі чоныя дзіркі;
А таксама нью-йоркскія небаскробы,
Якія разваліваюцца ў промнях сонца.

Перад смерцю
Захацеў Шагал падарыць
Роднаму Віцебску
Некалькі дзесяткаў сваіх карцін.
Мясцовыя кіраўнікі
Пры актыўнай падтрымцы
Саюза мастакоў Беларусі
Сказалі:
«Нам не патрэбны мадэрністы».
Шагал пакрыўдзіўся і памёр...
А Віцебск страціў
Мільёны турыстаў.

Дастаеўскі напісаў:
«Без гэтай веры ў сябе
Не ўстаяў бы, напрыклад,
На працягу вякоў
Беларускі народ
І не выратаваў бы сябе ніколі».
Рэдактары рванулiся
Уставіць дадатак:
«Пры дапамозе...»
Але выдавецтва «Наука»
У Ленінградзе
Не дазволіла псаваць
Праўдзівы тэкст Дастаеўскага...

Міцкевіч хацеў
Прачытаць у Мінску лекцыю
Пра дзіўныя казкі, легенды і песні
Беларускага народа,
З якіх ён чэрпаў поўнымі жменямі
Жывую ваду
Для сваіх вершаў, балад і паэм;
Пра харастве свiтязянскай прыроды,
Пра чароўнасць і мілагучнасць
Беларускай мовы.
Але дзеячы міні-культуры
Забаранілі лекцыю.

Міцкевіч засмуціўся,
Паехаў у Парыж
І прачытаў пра ўсё гэта ў Сарбоне
Шмат ашаламляльных
Хвалюючых лекцый.

## Шуканне

Пажаўцелі бярозы,
Чырванеюць кляны.
Ты мне сэрца патрозна
Не кляні, а крані.

Ты шукаеш удачы,
Ды шукаеш дарма:
У бацькоў маіх дачы
І машыны няма.

Адвячоркам і ўранні
Мне крычыш: «Адчыні!»
Я шукаю кахання
І людской дабрыні,

І павагі, і ласкі,
І сяброўства назек.
Ты званочкам не бразгай:
Ты не той чалавек.

●

Калі закоціцца сонца,
На небе запаляцца зоркі,
І ў кожнай расінцы ўспыхне
Таемны малы светлячок —
Ты любіш жыццё і сонца,
Людзей, хоць бывае горка;
Ты любіш і дрэвы, і росы,
І зорны таемны змрок.

Калі закоціцца сэрца,
Ніколі не ўспыхнуць зоркі:
Цябе адвязуць, закапаюць —
Ляжы век сляпы і глухі...
Заплачуць жонка і дзеці
Ды ўнукі — журботна і горка...
Астатнія ўмомант забудуць:
У іх і жыццё, і сонца,
І дрэвы, і ў кветках лугі.

# Гэта наша жывая гісторыя

(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3).

Мне згадваецца свет нашага рэвалюцыйнага юнацтва—пара канца 20-х і пачатку 30-х гадоў, калі мінскія камсамольцы ў святочныя дні збіраліся на плошчы Свабоды ля вежы гарадскога гадзінніка (дарэчы, і яе варта аднавіць) і з рэвалюцыйнымі песнямі вырушвалі ў паход дарогай Кастрычніка. Далучаліся да іх і мы, тагачасныя піянеры. Каля кожнай памятнай мясціны спыняліся, каб паслухаць жывы расказ удзельніка Кастрычніцкіх падзей ці грамадзянскай вайны. Так мы далучаліся да жывой гісторыі рэвалюцыі і ведалі яе ў хвалюючых падрабязнасцях нядаўніх класавых бітваў.

*Была і яшчэ адна магчымасць* такога далучэння — наведванне музея Рэвалюцыі. Ён не толькі існаваў у Мінску, але і працаваў як масава-палітычны цэнтр. Па вуліцы Урыцкага ў двары стаіць той двухпавярховы асабняк, куды мы прыходзілі, каб пазнаёміцца з хвалюючымі, амаль свежымі яшчэ дакументамі Кастрычніка, рэвалюцыйнай зброяй пралетарыяту, зазірнуць праз вочка ў сярэдзіну макета турэмнай камеры Лукішак, дзе сядзеў, як жывы, палітычны вязень, босы, *змардаваны голадам... Многія* з аднакласнікаў, асабліва дзяўчынкі, не вытрымлівалі, з жахам адбягаліся ад гэтага страшнага вобраза таго часу... Пры выхадзе з музея прадстаўнікі МОПРа нам уручалі запламбіраваныя бляшаныя кружкі і жменю чырвоных кветак. Кожны, хто атрымліваў даручэнне, ішоў па вуліцы, а сустрэўшы прахожага, прыколваў яму на грудзі чырвоную кветку, той жа ў адказ кідаў у прорэзь пятак, грыўню, бывала, і больш... К канцу дня мы вярталіся ў музей, дзе дарослыя апаражнялі кружкі, падлічвалі грамадскі набытак —ахвяраванні на дапамогу палітвязням, запісвалі ў кнігу падлікаў, насупраць пэўнага прозвішча. І нам станавілася цяплей на сэрцы, бо мы ўсведамлялі, што рэвалюцыя прадаўжаецца, там, за кардонам, у Заходняй Беларусі.

Музей Рэвалюцыі дзейнічаў, уплываў на шырокія масы ад малога да дарослага. Тут былі шырока паказаны асноўныя этапы рэвалюцыйнай барацьбы працоўных Беларусі ад адмены прыгоннага права да перамогі Кастрычніка. Здаецца, даўно надышоў час аднаўлення музея Рэвалюцыі ў Мінску, тым самым разгрузіўшы Дзяржаўны музей БССР. *Для разгортвання* экспазіцыі музея Рэвалюцыі можна было б скарыстаць дом № 4 на плошчы Свабоды —былога штаба векапомных падзей Семнаццатага ў Мінску. Альбо чатырохпавярховы будынак насупраць сквера, дзе доўгія гады «жылі» прафсаюзы рэспублікі. Калісьці ў 20-я гады на ім быў надпіс «Дом працы», які не захаваўся. Цяпер гаспадары будынка — абласны савет прафсаюзаў і абком камсамола. Але ж прасторныя пакоі з высокай на 4—5 метраў столлю як бы прызначаны для музейных экспазіцый. Дарэчы, там пасля вайны месціліся музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Дзяржаўная карцінная галерэя і Літаратурны музей Янкі Купалы.

Хіба помнікі гісторыі, звязаныя з падрыхтоўкай і здзяйсненнем Кастрычніка ў Мінску, не павінны быць найпершым і найадказнейшым клопатам у дзейнасці ўсіх устаноў і арганізацый, хто займаецца іх ахоўвай, а значыць і рэстаўрацыяй? *Хіба для сталічнага камсамола* не пачэснай задачай перад 70-годдзем Кастрычніцкай рэвалюцыі, юбілеем Савецкай улады, сацыялістычнай дзяржаўнасці было б паклапаціцца пра абнаўленне, а калі трэба, дык і рэканструкцыю будынкаў, звязаных з гэтай гістарычнай датай? Што можа быць больш дзейснае для моладзі, чым непасрэднае дакрананне да жывой яшчэ рэвалюцыйнай гісторыі?

Пры добра пастаўленай справе аднаўлення бастыёнаў Кастрычніка ў Мінску, калі разгорнецца вывучэнне характару і зместу кожнага з помнікаў Рэвалюцыі, узважванне эстэтычных вартасцей яго, абавязкова ж народзяцца новыя ідэі, прапановы, цікавыя справы.

Трэба звычайную, штодзённую памяць ветэранаў узнімаць да ўзроўню гістарычнай памяці народа, агульнанароднай памяці, бо мы не проста наступнікі, а і прадаўжальнікі рэвалюцыйных традыцый, ідэй і справы Кастрычніка.

## КНІГАПІС




Кузьма ЧОРНЫ. Трэцяе пакаленне. Люба Лук'янская. На эстонскай мове. Талін, «Эесці рамат», 1986.

**У творчым даробку эстонскага перакладчыка Олева Йыгі пераклады твораў Якуба Коласа, Івана Мележа, Янкі Брыля. Два разы выходзіла ў Эстоніі перакладзеная ім аповесць Васіля Быкава «Трэцяя ракета»; надрукаваны таксама (у адной кнізе) аповесці «Яго батальён» і «Пайсці і не вярнуцца». У канцы ж мінулага года тыражом 18 тысяч экземпляраў у перакладзе О. Йыгі выйшла кніга Кузьмы Чорнага з раманам «Трэцяе пакаленне», аповесцю «Люба Лук'янская» і невялічкім пасляслоўем перакладчыка, у якім апавядаецца пра жыццёвы і творчы шлях класіка беларускае літаратуры.**




СТАІМ НА ВАРЦЕ. Зборнік нарысаў. На рускай мове. Складальнік А. Бірук. Мінск, «Беларусь». 1986.

**Мірным буднем воінаў Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі прысвячаецца гэты зборнік нарысаў, сярод аўтараў якога пісьменнік І. Скарынкін, ваенныя журналісты В. Зданюк, А. Косаў, А. Капілаў і іншыя, хто добра ведае жыццё сучаснай арміі, неаднаразова бывае на палігонах і стрэльбішчах, сустракаўся з тымі, хто ахоўвае спакой мірнага неба.**

**Героі кнігі малодшыя афіцэры і радавыя, сяржанты і старшыны. Усіх іх яднае высокае ўсведамленне свайго грамадзянскага і воінскага абавязку. Аўтары імкнуцца расказаць пра іх так, каб можна было ўвачавідкі адчуць значнасць паўсядзённых спраў тых, каму даверана стаяць на варце рубяжоў Айчыны.**

**На гэта ў прадмове «Слова да чытача» звяртае ўвагу генерал-маёр авіяцыі, намеснік начальніка Палітычнага ўпраўлення ЧБВА пісьменнік А. Сульянаў: «Чытач можа ў думках уявіць і двух сыноў Героя Савецкага Саюза Ф. А. Рудскага, афіцэраў сучаснай арміі, камандзіраў новага пакалення — дапытлівых, шукаючых, баяздольных, і ваеннага лётчыка 1-га класа маёра Валерыя Аўдоніна, які вылецеў на перахват «праціўніка» на звышгукавым знішчальніку, і старшага лейтэнанта Валерыя Сідых, што з рызыкай для жыцця абясшкоджвае пакінутыя фашыстамі бомбы, і стынучыя на марозе рукі сяржанта Саўлюса Адамайціса, які рамантуе аўтамабіль, — воінаў розных родаў войск...»**

## КРЫТЫКА. БІБЛІЯГРАФІЯ

# Люстэрка роднага краю

**Леанід ЛЫЧ**

За розныя праблемы даводзіцца брацца людзям, якія хочуць зрабіць карыснае свайму народу. Нялёгкую, але надзвычай актуальную выбраў для сябе Яўген Рапановіч. Каля чатырох дзесяцігоддзяў ён займаўся зборам матэрыялаў і складаннем слоўнікаў назваў населеных пунктаў Беларусі. Кожнай вобласці прысвечана па адной кнізе. Першая з іх, па Віцебскай вобласці, выйшла ў свет у 1977 годзе, апошняя, па Гомельскай вобласці, — у 1986 годзе.

Геаграфічныя назвы, ці тапонімы, з'яўляюцца неацэнным духоўным скарбам кожнага народа. І разумна ставіцца да гэтага скарбу той народ, які менш за ўсё звяртае ўвагу на тое, як вымаўляецца той ці іншы тапонім з улікам густаў і патрабаванняў цяперашняга часу, а імкнецца захаваць яго як спараджэнне канкрэтных гістарычных, лінгвістычных, геаграфічных і этнаграфічных фактараў. Выхад у свет шасці кніг Я. Рапановіча пра назвы населеных пунктаў (у навуковай тэрміналогіі — айконімы) Беларусі — гэта значны духоўны набытак нашай айчыннай культуры.

Перш чым паставіць апошнюю кропку ў шостай кнізе, аўтару давялося сабраць і апрацаваць больш за 30 тысяч айконімаў! Кожны з іх вымушаў даследчыка звяртацца да самых розных крыніц, з тым каб высветліць яго паходжанне, без чаго было б цяжка, а то і зусім немагчыма пазначыць націск, аднесці да пэўнага граматычнага роду, праскланяць у родным і месным склонах, правільна напісаць і вымавіць на беларускай і рускай мовах. Думаецца, што тут Я. Рапановіч знайшоў адзіна правільнае рашэнне: карыстацца тым, як вымаўляе і піша тую ці іншую назву само мясцовае насельніцтва, як яна падаецца на картах, у даведніках, зборніках законаў і ў іншых пісьмовых крыніцах. Прычым ва ўсіх выпадках перавага аддаецца першаму фактару, бо, як слушна заўважае Я. Рапановіч, сапраўднай афіцыйнай формай айконіма, як і ўсякага іншага тапоніма, неабходна лічыць тую, якой карыстаецца сам народ. На жаль, гэтага правіла мы самі не заўсёды і не ўсюды прытрымліваліся, і ў выніку з лёгкай рукі канцылярыстаў на нашай карце з'явілася шмат назваў, якія істотна адрозніваюцца ад іх мясцовага вымаўлення. Калі б ад гэтага была нейкая карысць для навукі і культуры, дык, можа, варта было б ухіліцца ад народных традыцый. Але такога пацвярджэння мы не маем, і думаецца, што яго нельга адшукаць. Наадварот, усе адступленні ад мясцовага вымаўлення айконімаў наносяць толькі шкоду. Вельмі добра, што аўтар шмат у якіх выпадках пастараўся звярнуць увагу чытача і афіцыйных колаў на беспадстаўнасць і надалей дапускаць такую неадпаведнасць паміж народнай назвай і яе перадачай у рознага роду дакументах, на картах і г. д.

А што такая практыка ў нас далёка зайшла і зрабіла моцны ўплыў, можна меркаваць нават і па тым, што ў паасобных выпадках і сам Я. Рапановіч не вызваліўся ад яе ўздзеяння. У кнізе «Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці» добра вядомы на Беларусі горад Стоўбцы падаецца па-беларуску як Стаўбцы. Маё дзяцінства прайшло ў суседнім раёне, але ніколі не даводзілася чуць ад жыхароў ні свайго, ні Стаўбцоўскага раёнаў, каб хтосьці сказаў: «Паехаў у Стаўбцы». Мясцовае насельніцтва вымаўляла і вымаўляе так: «Паехаў у Стоўбцы». Калі ў першыя гады пасля вайны мне ў Мінску давялося пачуць ад гараджан «Стаўбцы», дык, прызнацца, адразу нават не разумеў, пра які населены пункт ідзе гаворка. Думаецца, што няма сэнсу, вымаўляючы ці пішучы геаграфічны тэрмін «Стоўбцы» па-руску, націск пераносіць на яго апошні склад. Беларуская і руская мовы — родныя, і ўсталёўванне паміж імі такіх адрозненняў выглядае штучна.

Карысным варта прызнаць параду Я. Рапановіча строга пазбягаць перакладу айконімаў з адной мовы на другую, што вельмі часта дапускаецца ў нашых справаводстве і друку: па-беларуску пішуць «Чырвоны Кастрычнік», а па-руску «Красный Октябрь», ці «Усходняя» і «Восточная». Не абыходзіцца тут і без кур'ёзаў. Адзін з іх можна сустрэць у Уздзенскім раёне. Тут непадалёку ад раённага цэнтра ёсць калгас «Новае жыццё». Камусьці захацелася гэту назву даць па-руску, і яна загучала як «Новое житье». Велізарны дарожны знак з непісьменнай назвай стаіць ля самай аўтамагістралі, па якой з Мінска і Узды снуюць штодзённа дзесяткі аўтобусаў, грузавых і легкавых машын. Едуць жа ў іх і кіраўнікі раёна, і настаўнікі мясцовых школ, але нікога не хвалюе гэты факт непісьменнасці і непавагі да роднай мовы.

Прытрымліваючыся прынцыпу не перакладаць назвы з адной мовы на другую, Я. Рапановіч, аднак, робіць з гэтага правіла выключэнне, калі справа датычыць айконімаў са словам «першы», і лічыць правільным населены пункт Беларусі пад назвай «Першамайск» пісаць па-руску «Первомайск». Тут можна з аўтарам трохі і паспрачацца. Ці ж не паўней захаваўся б нацыянальны каларыт беларускай тапанімікі, калі б і па-руску гэты айконім мы пісалі так, як ён вымаўляецца па-беларуску? І нават той, хто ўпершыню сустрэўся б з такой назвай, без усялякага вагання аднёс бы яго да беларускай зямлі. Можна прывесці шмат прыкладаў, калі падобныя па сэнсу айконімы нават з цюркскамоўнай тапанімікі СССР не перакладаюцца на рускую мову, і ад гэтага яны не перастаюць быць чымсьці блізкімі і дарагімі для рускага народа.

Словам, ва ўсіх выпадках, незалежна ад таго, як перакладаецца назва з беларускай мовы на рускую, перавагу трэба аддаваць нацыянальнай тапаніміцы, самабытным беларускім айконімам з тым, каб пры іх дапамозе найлепш увасобіць у слоўнікавым партрэце краю яго гісторыю і культуру, вялікія здзяйсненні сённяшняга дня. І гэта не толькі мая думка. У многіх рэспубліках, у тым ліку і Расійскай Федэрацыі, выдадзены нарматыўныя акты, у якіх рэкамендуецца населеным пунктам даваць назвы, зыходзячы з геаграфічных, гістарычных, нацыянальных, мясцовых прыродных умоў.

Складаючы слоўнікі айконімаў, Я. Рапановіч падаваў іх на беларускай і рускай мовах, што адпавядае іх цеснаму ўзаемадзеянню на тэрыторыі нашай рэспублікі ў розных сферах яе жыцця, у тым ліку і ў тапаніміцы. Ад гэтага каштоўнасць слоўнікаў толькі ўзрастае. А вось на практыцы даводзіцца сустракацца з фактамі няправільных суадносін ужывання беларускай і рускай моў пры перадачы на пісьме назваў населеных пунктаў. У многіх раёнах Беларусі мясцовыя органы Савецкай улады, каб не абцяжарваць сябе, вырашылі на шыльдах, што стаяць пры ўездзе ў вёску ці горад, карыстацца толькі адной мовай — часцей за ўсё рускай. Дзіву даешся, чаму гэта не кранае мясцовыя ўлады. Ёсць жа раённыя добраахвотныя таварыствы аховы помнікаў гісторыі і культуры. Каму, як не ім, сачыць, у якім стане знаходзіцца наша народная тапаніміка. Не ахоўваць яе — значыць не дбаць і пра культурную спадчыну народа, не выхоўваць у людзей павагі да свайго краю. Наша рэспубліка — суверэнная, яна ўваходзіць у склад шматнацыянальнай дзяржавы, дзе руская мова выконвае функцыі міжнацыянальных зносін людзей, часта наведваецца замежнымі дэлегацыямі, значыцца і тапаніміка павінна быць прадстаўленай беларускай і рускай, а там, дзе гэта патрэбна, яшчэ і англійскай, нямецкай мовамі.

Як старанны даследчык назваў беларускіх вёсак і гарадоў, Я. Рапановіч не абмяжоўваўся толькі тымі айконімамі, якія жывуць, служаць народу ў нашы дні. З поля яго зроку не выпалі назвы, што зніклі з ужытку ў выніку вынішчэння населеных пунктаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, з прычыны далучэння вёсак да гарадоў ці гарадскіх пасёлкаў, сселення хутароў, аб'яднання дробных паселішчаў у буйныя.

Да зазначаных прычын можна дадаць і яшчэ адну, прычым самую масавую. Гэта калі знікаюць назвы вёсак і гарадоў нібыта па жаданні самога народа (у што вельмі цяжка паверыць, ведаючы непахісную павагу простага люду да сваіх традыцый). У першых сваіх кнігах Я. Рапановіч не выказаў сваю пазіцыю па гэтым пытанні, а толькі побач з новай назвай прыводзіў і старую. А хацелася б ад такога буйнога спецыяліста даведацца, дзе назвы населеных пунктаў зменены беспадстаўна, каб, доўга не бавячы час, вярнуць да былых народных назваў. Тут пашчасціла толькі жыхарам Гомельшчыны, якія з кнігі па іх вобласці маюць больш-менш поўныя звесткі аб дапушчаных хібах у час эпідэміі перайменавання населеных пунктаў. Да ліку няўдала прыдуманых новых айконімаў аўтар справядліва адносіць: Адчаянны, Баец, Барба, Бязбожнік, Герой, Дзвіцель, Дзевятае Студзеня, Зара Новай Жызні, Зара Свабоды, Знаменка і іншыя. І разумней было б, калі б пры скасаванні такіх назваў у большасці выпадкаў вярнуліся да былых, народных, каб не збядняць гістарычны скарб беларускай тапанімікі. «Мова зямлі, — як вобразна называў геаграфічную тапаніміку дарэвалюцыйны прафесар гісторыі І. П. Філевіч, — гаворыць нам часта больш, чым творы старажытных і сярэдневяковых аўтараў». І вельмі шкада, што ў выніку механічнага перайменавання вёсак і гарадоў мы выкінулі шмат з таго, што ўваходзіла залатым фондам у «мову зямлі».

Вартасць слоўнікаў Я. Рапановіча ўзрастае ад таго, што ва ўсіх выпадках дакладна вызначаецца тып населенага пункта. Паказваецца таксама падпарадкаванне гарадоў, гарадскіх і рабочых пасёлкаў (абласное, раённае), адзначаецца, цэнтрам якога Савета з'яўляецца (абласнога, раённага, пасялковага ці сельскага), у якім сельсавеце і раёне населены пункт знаходзіцца, у які калгас ці саўгас уваходзіць. Перайменаваныя вёскі і гарады заўсёды маюць і старую назву, указваецца таксама год замены назвы. Да кожнай кнігі Я. Рапановіч напісаў уводзіны, у якіх даецца характарыстыка геаграфічнага становішча, робіцца экскурс у мінулае вобласці, паказваюцца асноўныя зрухі ў яе сацыяльна-дэмаграфічным развіцці.

Практычную каштоўнасць маюць змешчаныя ў канцы кожнай кнігі звесткі аб назвах раёнаў, пасялковых і сельскіх Саветаў, калгасаў і саўгасаў. Тут чытач знойдзе неабходныя яму даныя аб даце ўтварэння гэтых адміністрацыйных адзінак, гаспадарак, аб плошчы раёна і сельсавета, назве іх цэнтра, адлегласці апошняга да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда, агульную колькасць паселішчаў, калгасаў і саўгасаў у раёне і сельсавеце. А патрэба такіх звестак вельмі часта ўзнікае ў прадстаўнікоў самых розных прафесій. Маюцца ў кнігах і алфавітныя паказальнікі населеных пунктаў, з якіх можна даведацца, колькі разоў той ці іншы айконім сустракаецца на тэрыторыі вобласці і на якой старонцы кнігі трэба шукаць звесткі пра яго.

Выхад у свет шостай па ліку кнігі Я. Рапановіча дае права гаварыць, што нарэшце і ў нас ёсць поўны даведнік айконімаў на беларускай мове. Да гэтага мы маглі азнаёміцца з імі толькі на польскай ці рускай мовах. На маю думку, працу Я. Рапановіча варта разглядаць як базу для далейшых пошукаў і прыняцця канкрэтных захадаў да больш строгай нарматыўнасці ў напісанні і афіцыйным ужытку беларускіх айконімаў. Тут у нас даволі шырокае поле дзейнасці. Ніводная рэспубліка не займалася з такой інтэнсіўнасцю падчысткай, прыхарошваннем назваў, як Беларусь. Мовазнаўцы і гісторыкі сумесна з прадстаўнікамі мясцовай улады і самімі жыхарамі павінны старанна разабрацца, што каштоўнага згублена з нашай духоўнай культуры ад масавага і вельмі часта беспадстаўнага перайменавання беларускіх вёсак і гарадоў, з тым каб ім вярнуць яго. Гэта не будзе крокам назад. Людзям уласціва рабіць памылкі і выпраўляць іх. «Дарабляць, перарабляць, пачынаць з пачатку, — пісаў У. І. Ленін,— прыйдзецца нам яшчэ не раз. Кожная ступень, што нам удасца ўперад, уверх у справе развіцця прадукцыйных сіл і культуры, павінна суправаджацца дарабляннем і пераробліваннем нашай савецкай сістэмы... Пераробак прыйдзецца многа, і «прыходзіць у замяшанне» ад гэтага было б верхам недарэчнасці (калі не горш, чым недарэчнасці)».

# У кнізе і па-за кнігай

*У. Арлоў. Добры дзень, мая Шыпшына. Апавяданні, аповесць. «Першая кніга празаіка». Мінск, «Мастацкая літаратура», 1986.*

...«Потым ліхтары пагаснуць, толькі тры ці чатыры застануцца гарэць — *прывідліва і трывожна*, а ты ўсё будзеш стаяць ля акна, наструнена і чуйна прыслухоўвацца да сябе і нечага чакаць». Настрой, мелодыка радка і сказ «Ты зразумееш, што трэба ехаць» нагадваюць нешта чытанае ў кагосьці раней. У наступным эпізодзе адчуванне сустрэчы з даўно знаёмым большае. «Назаўтра ты цэлы дзень, да вячэрняга самалёта, будзеш унікаць размоў...» Успамінаеш, што там, у даўно чытаным апавяданні, быў, здаецца, дождж, былі размовы работнікаў невялічкага аэрапорта, успамінаеш, што там нехта дэкламаваў Ясеніна... Тут Ясеніна не чытаюць. Але настрой, мелодыка так і прымушаюць цябе ўзяць з паліцы том прозы Міхася Стральцова. Герой гэтага пісьменніка ехаў у вёску, туды, дзе на ягоную думку, зацішак, спакой, і не знайшоў ані зацішку, ані спакою. Герой жа Уладзіміра Арлова едзе ў той горад, дзе быў студэнтам, каб прайсціся па калідоры, у якім «будуць глыбакадумна моршчыць крутыя гіпсавыя лбы старажытныя філосафы». Калідор, заўважым, пазнаецца: гэта калідор гістарычнага факультэта БДУ. У горадзе свайго юнацтва герой У. Арлова ўсвядоміць, што няма вяртання да былога, што ідылія застаецца толькі ва ўспамінах. Ці не тое ж усвядоміў і герой М. Стральцова?

Навідавоку літаратурны ўплыў, навідавоку — хоць твор і на іншым матэрыяле — перайманне. Навідавоку і налёт літаратуршчыны: «Па сцежцы будуць ісці двое. Ён схопіць абярэмак змеценага лісця, шугане яго ўгору, і яна шчасліва засмяецца пад жоўтым шапаткім дажджом». Прыгожа, ці не праўда? Аднак дзеля больш эфектнага прыгоства трэба было б падбаць пра гукапіс: «шугане яго ўгору» дае нам га-го-го — не вельмі мілагучнае спалучэнне. А потым ідзе фраза, якая быццам жыўцом перанесена з нейкага твора Янкі Брыля: «І ты добра і чыста падумаеш пра іх».

Літаратурныя матывы відавочныя не толькі ў апавяданні «Вечар, ноч і раніца», якое тут багата цытавалася. Яны — і ў апавяданні «Віта». Міжволі пазнаеш літаратурную папярэдніцу Віты паненку Надзею Яноўскую з «Дзікага палявання караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча, бо гераіня У. Арлова гэткая ж экзальтаваная і знерваваная. Праўда, Яноўская была ці не фаталістка: немінучае, на яе думку, яна сустракала без істэрыкі. Выпрабаваны літаратурны ход — ліст у мінулае — бачыцца ў завязцы апавядання «Добры дзень, мая Шыпшына!». Дый тое, што герой у аўтобусе «па старой звычцы на ўсякі выпадак прабіў лішні квіток», чыста літаратурны ход: каб не гэты квіток, дык не было б знаёмства з Шыпшынаю. Такі даўно знаёмы ў літаратуры прыём крытыкі называюць надуманасцю. І тое, што герой штогод прыязджае да літоўскага хутара, дзе яму было добра з Шыпшынаю, — таксама не новае ў літаратуры. Галоўны ж недахоп гэтага твора ў тым, што ён сюжэтна незавершаны (сюжэт ёсць не што іншае, як развіццё мастацкае думкі). Аўтар хацеў нешта сказаць пра гісторыю беларускага і літоўскага народаў, пра каханне, аб Радзіме, але думка пра тое, што дзеля Радзімы «варта ахвяраваць усім», не даведзена ўсім ладам твора і таму гучыць дэкларатыўна. Разумеючы гэта, аўтар вымушаны быў перавесці гаворку «ў інтымную плоскасць» і завяршыць твор даўно банальным штогадовым прыездам даўно банальнага «цыбатага хлопца» (а «хлопцу» дваццаць пяць, калі не болей) да таго месца, дзе яму было добра.

У апавяданні «Трое над Атлантыдай», упершыню надрукаваным у часопісе «Беларусь», таксама быў не даведзены матэрыяй і духам твора сказ аб Радзіме. Быў, бо, на шчасце, ці не пад уплывам рэдактара зборніка Міхася Стральцова сказ «У тую ноч яму снілася Радзіма» цяпер гучыць інакш: «У тую ноч яму снілася маці». Нельга, аднак, сказаць, што і гэты сказ лагічна вынікае з *усяго ладу апавядання*.

Твор гэты можна было б залічыць у шэраг так званых курортных. Перажываючы творчыя і, як кажуць, асабістыя няўдачы, Кастусь едзе на поўдзень, спрабуе «заліць» сваё гора і ў бары сустракае «дзеўчанё» — непаўналетнюю жанчыну, якую бацькі выгналі з хаты. «Яна пацягнула яго за руку». Вядома ж, Кастусь задаў зусім звычайнае ў *такіх* выпадках пытанне: «Ну і куды пойдзем?» «Не ведаю», — адказала яна. Каб не збіцца на *банальшчыну, аўтар кідаецца* ў другую банальшчыну. Шпацыруючы, Кастусь і Галіна выйшлі на пляж. «...і ў гэтым, як не раз *потым падумалася* Кастусю, была нейкая наканаванасць». «Дзяўчаці» заманулася сярод ночы пакатацца на лодцы. І вось яны на моры. Лодка, як і належыць у рамантычных творах, чамусьці без вёслаў; як і належыць у рамантычных творах, усчаўся вецер, а Галка да таго ж не ўмее плаваць. А яшчэ Кастусь даведваецца, што яна цяжарная, што хоча сына, што была з экскурсіяй на Беларусі... А дзе ж наканаванасць? — пытаеш, дачытваючы апавяданне. Думалася, што будзе нейкая сімволіка, калі не прыпавесць. Аж не, нічога такога. Проста вымучаная рамантызацыя, а тры апошнія абзацы з думкай пра зямлю, патрэбную, як сонца, хлеб і мова, пра тое, што чалавек можа не раз памерці і нарадзіцца, і з паведамленнем пра сон як бы прылеплены да твора. Калі пра гераіню можна сказаць, што гэтая жанчына яшчэ дзіця, дык герой выглядае недаравальна *інфантыльным для сваіх трыццаці гадоў*.

Апавяданне «Трое над Атлантыдай» можна разглядаць і ў цеснай лучнасці з «Вітай», з «Добры дзень, мая Шыпшына!», з аповесцю «І вярталіся мы...» Чаму? Наследуючы Уладзіміру Караткевічу, аўтар спрабуе стварыць рамантычныя жаночыя вобразы, але ні новае Міхаліны, ні Галены, ні Надзеі Яноўскае мы не бачым — бачым слабыя цені гэтых вобразаў.

Пра аповесць «І вярталіся мы...» наша крытыка пісала ўжо не раз. Першае пытанне, якое напрошваецца: ці аповесць гэта? Жанр аповесці патрабуе паказу характару ў развіцці. У творы шмат месца адведзена вобразу Яніны. Але паказваецца не развіццё характару, а розныя этапы, моманты біяграфіі: сціплая дзяўчына; падманутая каханка, якая «пайшла па руках» і навучылася «раскольваць» даверлівых хлопцаў і самаўпэўненых мужчын; поўная смутку аб Рамане цалкам станоўчая жанчына. Ёсць ідэя, задума вобраза, але няма пераканаўчай яго логікі. Калі апусканне Яніны паказана больш-менш пераканальна, дык у яе ўзвышэнне паверыць цяжкавата. Кажуць, што абставіны, асяроддзе робяць чалавека. Дык, мусіць, і трэба было як мага шырэй і — што яшчэ больш важна — глыбей паказваць гэтыя абставіны і асяроддзе. Сцвярджаецца, прыкладам, што «ўваскрасенню» Яніны спрыяў Раман Галубовіч. Але ж самога Рамана ў творы амаль не відаць. Ён — як легенда, як прывід. Выпісаць гэты вобраз больш рэльефна, усебакова трэба было б і дзеля таго, каб больш рэльефна глядзеліся і Васіль Максімавіч, і Бясперстых. Задуманы прыём — даць вобраз праз успаміны і ўспрыманне іншых дзейных асоб — сам па сабе пярэчанняў не выклікае, але ў аповесці ён рэалізаваны недастакова эфектыўна, бо Раман паўстае толькі як носьбіт пэўнай ідэі, як рупар аўтаравых думак, але не як цэласная натура ва ўсім багацці грамадскіх дачыненняў.

Аповесць цікавая, аднак, пастаноўкай актуальных пытанняў, спробаю аўтара стварыць мастацкія тыпы. У гэтым дачыненні, мне думаецца, найбольш выйграе вобраз Ваські Казла, бо ён больш пачуццёвы, бо на яго працуюць і мова, і паказ тых абставін, у якіх фарміраваўся хлопец. Пазбаўлены бацькоўскае ласкі і рукі, кінуты роднаю маці і яе каханкам на вуліцу, у кампанію гэткіх жа непрыкаяных, ён узгадаваў у сабе *нелюбоў, варожасць* да тых, хто жыве інакш: «як быццам у іх нешта такое ёсць, што ў мяне адабралі». Гэтая нелюбоў, чорная зайздрасць робяць Ваську саўдзельнікам злачынства. Дадамо: чорная зайздрасць і няўменне — ці нежаданне? — працістаяць абставінам.

Добра выпісаны вобраз Бясперстых, чалавека, які спачатку руйнаваў, а цяпер аберагае помнікі гісторыі і культуры, чалавека, які на кожны выпадак знойдзе ў сваім нататніку адпаведную цытату, напрыклад, такую: «Культура народа вызначаецца тым, як ён ставіцца да свайго *мінулага*». Бясперстых умее прыстасавацца да розных абставін, бо «калі што зносіць, а калі што адбудоўваць — *вырашаць без нас*», бо «наша задача — адчуваць патрабаванні часу і аператыўна перабудоўвацца». Чалавек-флюгер вельмі жывучы. Пра гэта сведчыць і найноўшы час, час пераацэнкі каштоўнасцей і пільнага ўглядвання ў мінулае.

Цікавай заяўкай на мастацкі характар з'яўляецца і вобраз пісьменніка Васіля Максімавіча, які з парнаскіх вышынь спускаецца на зямлю, каб бараніць цэркаўку, ля якое выштукоўваюць свінарнік, каб бараніць ад не вельмі разумных адміністратараў тых «дзівакоў», якія не хочуць забываць народныя звычаі, песні. Праз вобраз Васіля Максімавіча У. Арлоў хоча па-свойму сцвердзіць думку, што добры пісьменнік — абавязкова дзейны грамадзянін, ведае жыццё, не адрываецца ад яго. Што ж, *думка хоць і не новая*, але кожны раз слушная.

Аповесць «І вярталіся мы...» сведчыць, што У. Арлову стала цеснавата за вучнёўскай партай, што яму ўжо недастакова глядзець на свет праз вокны літаратурнай школкі. Не толькі аповесць сведчыць пра гэта: побач з «Водсветам валошак», «Вітай», «Вечарам, ноччу і раніцай», побач з «Добры дзень, мая Шыпшына!» у кнізе надрукаваны творы, у якіх аўтар ідзе не ад літаратурных узораў, а ад жыцця, у якіх жыццёвая школа адчуваецца больш. Пакідаючы ўбаку сентыментальны абразок «Верабейчык», хацелася б звярнуць увагу на апавяданні «Певень», «Сыны бабкі Грыпінкі», «Халодны вецер», «Новы год». Тут — пачатак арыгінальнага мыслення, арыгінальнае вобразатворчасці. Хоць сітуацыя ў апавяданнях «Певень», «Сыны бабкі Грыпінкі» і «Халодны вецер» вынікае не з логікі развіцця характараў, бо характары тут гатовыя, сталыя, хоць сітуацыя тут акрэсліваецца, бадай, з самага пачатку, характары ў гэтых творах цікавыя, сітуацыі ж дазваляюць ім выявіцца ў найбольш істотных рысах. У гэтых творах мы бачым рэальныя праблемы рэальнага жыцця, з гэтых апавяданняў нашы наступнікі змогуць атрымаць якую-кольвечы інфармацыю пра наш час. Чытаючы пра злыбеды бабкі Паўліны, чый певень замінае насельнікам новага дзевяціпавярховіка спаць, пра бабку Грыпінку, якая да смерці спадзявалася на вяртанне сваіх палеглых сыноў, пра адзіноту маці загінуўшага ў мірны час сына, сучаснік мусіць задумацца пра значэнне такіх каштоўнасцей, як спагада, добразычлівасць. Цікавае апавяданне і «Новы год». Характар галоўнага героя паўстае перад намі ў супярэчлівасці (згадаем гегелеўскае: дзе няма супярэчнасці, там няма ісціны). Сярод зімы памёр сваяк, і Стась едзе на пахаванне. Выяўляецца, што нябожчыка трэба весці хаваць за дзвесце кіламетраў. Значыць, «уб'еш» тры дні, значыць, замест planаванае камандзіроўкі ў сталіцу вымалёўваецца перспектыва «засесці з нябожчыкам у сумётах». «З падачы» цёткі Ванды Стась выдумляе хваробу сваёй дачцэ і спрабуе ўцячы ў горад. Сумленне точыць яго, і ён вырашыў вярнуцца да сваякоў. Ды... «Стась глянуў на гадзіннік і з дзіўнаю палёгкай зразумеў, што безнадзейна позніцца...» Сцыла сумлення і абавязку і Харыбда чэрствасці, эгаізму? Лягчэй было б, калі б можна было прайсці паміж імі без усякіх там узрушэнняў і згрызот... Апавяданне цікавае і тым, што ў дыялогах, апісаннях паўстае не вымушана-рамантызаванае жыццё, жыццё без біжутэрыі.

Фантастычныя апавяданні «Ліфт» і «Зялёная Чара» нібы працягваюць папярэднія, бо гаворка ў іх пра маральнасць, пра немінучасць адплаты за нашу маладушнасць ці то эгаізм, незалежна ад таго, у дачыненні да чаго яны выяўляюцца — да чалавека ці да прыроды.

Ідучы ад *літаратурных узораў*, У. Арлоў, як гэта відаць з першай кнігі, паступова адольвае парог школы, ідзе да жыцця, да *агульназначных праблем*, пазбаўляецца ад кепскае прывычкі «говорить красиво», проза ягоная мужнее, становіцца самавітай. І зусім *лагічна* было б, калі б гэты шлях знайшоў адлюстраванне ў кампазіцыі кнігі.

Мусіць, недарма з «Клёна», з «Місіі папскага нунцыя» пачалася сталая цікавасць чытачоў, крытыкі, старэйшых пісьменнікаў да творчасці У. Арлова. «Маўклівы маналог», «Пяць мужчын у леснічоўцы», запозненая надрукаваная аповесць «І вярталіся мы...», як і самыя свежыя апавяданні «Першы дзень вясны» і «Пакуль не згасла свечка», умацавалі думку пра тое, што У. Арлоў ідзе ў літаратуру з сур'ёзным намерам сказаць сваё слова пра лёс народа, ягоны гістарычны шлях. Ды, на жаль, усе гэтыя творы, апрача «Клёна» і «Маўклівага маналога», засталіся па-за кнігай.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# У ПАМЯЦІ ЎКРАІНСКАГА НАРОДА

Літаратурная грамадскасць Украіны адзначае сёлета дзесяцігоддзе з дня выхаду ў свет «Шевченківського словника», выданне якога было здзейснена Інстытутам літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі АН УССР і галоўнаю рэдакцыяй УСЭ.

Двухтомнік змяшчае розныя матэрыялы пра жыццё і творчасць Т. Р. Шаўчэнкі, пра тых, хто яму прысвяціў свае творы, хто папулярызаваў яго творчую спадчыну.

Шаўчэнказнаўства налічвае больш за 14000 розных матэрыялаў. Сюды ўвайшлі і тыя творы, якія прысвяціў украінскаму паэту Янка Купала, вялікі сябра ўкраінскага народа.

У другім томе «Слоўніка...» Янку Купалу прысвечаны артыкул, змешчаны яго фотаздымак.

Янка Купала быў першым перакладчыкам твораў кабзара на беларускую мову. Ён прысвяціў Т. Шаўчэнку свае вершы «Памяці Шаўчэнкі» і «Памяці Тараса Шаўчэнкі», паэму «Тарасова доля», а таксама некалькі артыкулаў.

На Украіне няма такога чалавека, які б не ведаў твораў Янкі Купалы, гісторыі яго любові да братняга ўкраінскага народа і, у прыватнасці, да творчасці Т. Шаўчэнкі. Нам, украінцам, дарагія словы, якія сказаў Ю. Пшыркоў у артыкуле «Беларуская літаратура і Т. Р. Шаўчэнка»: «Многа хто з беларусаў знаёміўся з творчасцю ўкраінскага паэта з вуснаў народа, а потым ужо з кнігі. Таксама пазнаёміўся з вершамі Шаўчэнкі і Янка Купала, які яшчэ ў дзяцінстве запомніў песню «Ад сяла да сяла», не ведаючы, хто яе аўтар».

Янка Купала назаўсёды застанецца ў памяці ўкраінскага народа, які сягоння ведае і папулярызуе яго творчасць.

**Паўло ДУБІНКА.**

г. Жданаў.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## Проза і крытыка: УРОКІ ПРАЎДЫ

Што запомнілася з мінулагодняе прозы, чым яна ўразіла, чым засмуціла? Якое адлюстраванне мелі жыццёвыя і літаратурныя з'явы ў крытыцы? На гэтыя і шэраг іншых пытанняў паспрабавалі адказаць удзельнікі нядаўняга супольнага пасяджэння секцый крытыкі і прозы Саюза пісьменнікаў БССР.

З аглядам мінулагодняй прозы, а таксама крытычных публікацый, у якіх разглядаюцца творы прозы, выступіў Уладзімір Конан. У дыскусіі прынялі ўдзел Павел Дзюбайла, Уладзіслаў Рубанаў, Міхась Мушынскі. Вольга Іпатава, Валянціна Коўтун, Ала Сямёнава, Таіса Грамадчанка, Васіль Івашын, Анатоль Сідарэвіч, Вячаслаў Адамчык.

Адбылася цікавая, палемічная гаворка. Дакладчык у асноўным гаварыў пра апублікаваныя летась раманы Віктара Казько, Аляксея Карпюка, Георгія Марчука, а найперш пра аповесць Васіля Быкава «Кар'ер», ён зазначыў, што наша навелістыка перажывае цяпер крызіс.

У сваім выступленні П. Дзюбайла палічыў неабходным завастрыць увагу на недахопах раманаў Аляксея Карпюка, Віктара Казько, Васіля Гігевіча, аповесцей Міколы Ваданосава, Міколы Гіля, Таісы Бондар, Уладзіслава Рубанава.

Т. Грамадчанка паставіла пытанне: ці сталі леташнія раманы з'явамі ў літаратурным і грамадскім жыцці? На яе думку, не сталі. Можна, сказала крытык, паставіць пытанне і гэтак: наколькі адпавядаюць жанру рамана новыя творы В. Гігевіча, А. Карпюка і Г. Марчука? Як на асноўную загану нашай раманістыкі Т. Грамадчанка ўказала на шматслоўнасць.

В. Іпатава палемізавала з П. Дзюбайлам. Яна, у прыватнасці, аспрэчвала ацэнку, якую крытык даў творам В. Казько і Т. Бондар. В. Іпатава згадзілася з У. Конанам, што ў нашай прозе шмат шэрых твораў. У гэтай плыні, заўважыла яна, патанаюць таленавітыя рэчы.

У чым прычыны шэрасці, нізкай якасці твораў? — спытала В. Коўтун. Працягваючы гаворку на гэтую тэму, А. Сямёнава і Т. Грамадчанка гаварылі пра цяжкасці, з якімі сутыкаюцца аўтары, калі спрабуюць пераадолець канцэптуальныя і фармальна - выяўленчыя стэрэатыпы.

«Давайце ўсвядомім, што шэрую літаратуру робяць у рэдакцыях часопісаў», — сказаў А. Сідарэвіч. У сваім выступленні ён крытыкаваў прозу часопіса «Маладосць». На яго думку, у часопісе шмат твораў бесканфліктных, твораў, у якіх перапяваецца ўсё, пра што літаратура гаварыла раней.

На пасяджэнні таксама адзначалася, што і гадавыя прэміі часопіс прысуджае не лепшым творам прозы.

Пра фельетоннасць асобных празаічных твораў гаварыў В. Адамчык. Ён выказаў сваю трывогу за культуру мовы. Як істотны недахоп В. Адамчык адзначыў тое, што проза — і раманістыка, і навелістыка — пазбягаюць драматызму ў паказе жыцця і духоўнага свету чалавека.

Вынікі гаворкі падвялі В. Казько і Н. Пашкевіч.

**Наш кар.**

## ПЕРАКЛАД — СПРАВА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСЦКАЯ

У Саюзе пісьменнікаў адбылося пашыранае пасяджэнне бюро секцыі мастацкага перакладу.

Перад прысутнымі з творчай справаздачай выступіў вядомы пісьменнік - перакладчык К. Шэрман, які расказаў пра свае перакладчыцкія здабыткі, падзяліўся планамі на будучыню. Затым быў заслуханы даклад навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР Л. Казыры, прысвечаны разгляду творчай дзейнасці К. Шэрмана.

Дакладчык звярнуў увагу прысутных на шырокі дыяпазон творчых магчымасцей нашага перакладчыка - іспаніста. Маючы шырокую філалагічную культуру і грунтоўную лінгвістычную падрыхтоўку, К. Шэрман можа з аднолькавым поспехам перакладаць з іспанскай на беларускую і з рускай і беларускай на іспанскую мовы. Дзякуючы руплівай працы перакладчыка шматмільённы іспанамоўны чытач змог пазнаёміцца са шматлікімі беларускімі казкамі, з мастацкімі творамі нашых пісьменнікаў. У сваю чаргу беларуская літаратура ўзбагацілася цікавымі перакладамі К. Шэрмана з Гільена, Лоркі, Маркеса, Містраль, Нэруды...

«Сярод тысяч чалавечых прафесій, — адзначалася ў дакладзе, — прафесія перакладчыка — самая інтэрнацыяналісцкая, бо перакладчыцкая дзейнасць ставіць сваёй мэтай далучэнне да культуры іншых народаў і тым самым спрые ўзаемаразуменню і дружбе людзей планеты». Гэтае меркаванне ў поўнай меры адносіцца і да творчасці К. Шэрмана. Ужо восьмы год ён вядзе аддзел паэзіі ў маскоўскім часопісе «Советская литература» на замежных мовах. У іспанскім выпуску гэтага часопіса пабачылі свет шэрманаўскія пераклады твораў Пушкіна, Лермантава, Блока, Маякоўскага, Твардоўскага, Сіманава, Еўтушэнкі, Малдоніса, Турсун-Задэ, Абашыдзе, Думбадзе, Нагнібеды, Тычыны... Да гэтага пераліку можна было б яшчэ дадаць дзесяткі і дзесяткі прозвішчаў пісьменнікаў — прадстаўнікоў шматмоўнай, шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Не так даўно выйшаў спецыяльны беларускі выпуск часопіса «Советская литература». Усю паэзію, эсэ, вялікую частку прозы пераклаў К. Шэрман.

Паспяхова выступае К. Шэрман і ў жанры крытыкі мастацкага перакладу, пра што сведчаць яго артыкулы ў «Даляглядах», «ЛіМе», «Литературной газете», «Дружбе народов», якія паказваюць глыбокую дасведчанасць іх аўтара ў пытаннях практыкі і тэорыі перакладчыцкай справы.

У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел Э. Агняцвет, В. Зуёнак, С. Панізнік, В. Рагойша.

Стану беларуска - украінскіх літаратурных узаемаадносін было прысвечана другое пытанне пасяджэння бюро секцыі. В. Рагойша расказаў аб выніках нарады, наладжанай саветамі па мастацкім перакладзе і літаратурных узаемасувязях Саюза пісьменнікаў Украіны, у рабоце якой разам з ім прынялі ўдзел С. Панізнік і Т. Кабржыцкая.

В. Рагойша паведаміў, што на нарадзе было прынята рашэнне актывізаваць беларуска-украінскія літаратурныя сувязі. У сувязі з гэтым бюро вынесла прапанову пра пераўтварэнне секцыі мастацкага перакладу ў секцыю мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей.

У заключэнне члены бюро секцыі заслухалі інфармацыю С. Шупы пра дзейнасць клуба маладога перакладчыка і прынялі рашэнне аб аказанні дапамогі пачынаючым перакладчыкам.

**К. САУРЫЦКІ.**

## У ГОНАР ПЕСНЯРОЎ НАРОДНЫХ

Мінулы літаратурны тыдзень у Маскве можна смела назваць украінскім. Пачаўся ён 17 лютага ўрачыстым вечарам у Цэнтральным Доме літаратараў імя А. Фадзеева, прысвечаным 175-годдзю з дня нараджэння класіка украінскай літаратуры, пісьменніка-дэмакрата Маркіяна Шашкевіча і 150-годдзю літаратурнага альманаха «Русалка Днястровая» — першай украінскай кнігі на заходнеўкраінскіх землях, выдадзенай М. Шашкевічам сумесна з І. Вагілевічам і Я. Галавацкім. Старшынстваваў на вечары сакратар СП СССР Сяргей Баруздзін, слова пра М. Шашкевіча сказаў вядомы ўкраінскі паэт, сакратар Львоўскага аддзялення СП УССР Раман Лубкіўскі.

Выступіўшыя на вечары С. Вікулаў, І. Драч, Д. Паўлычка, А. Баканідзе, П. Перабійніс гаварылі пра непераходнае значэнне прадстаўнікоў славутай «Рускай тройцы» ў станаўленні новай украінскай літаратуры, пра розгалас іх творчасці ў славянскім свеце.

А 19 лютага Масква святкавала юбілей Івана Франка. Юбілейны вечар у Калонным зале Дома Саюзаў стаў заключным акордам на ўсенародным ушанаванні гэтага тытана духу і слова, 130-годдзе з дня нараджэння якога па рашэнні ЮНЕСКА адзначалася ва ўсім свеце. Вядучы вечара сакратар СП СССР Міхаіл Аляксееў прадаставіў слова намесніку Старшыні Савета Міністраў УССР М. А. Орлік, якая ахарактарызавала уклад І. Франка ў скарбніцу сусветнай культуры, у справу міру і ўзаемаразумення паміж усімі народамі. Затым ад розных пісьменніцкіх арганізацый краіны пра Каменяра прачула гаварылі С. Міхалкоў, Д. Кугульцінаў, Д. Паўлычка, Г. Татасян, Ю. Мушкетык, А. Баканідзе, Р. Лубкіўскі.

Абодва вечары закончыліся вялікімі святочнымі канцэртамі майстроў мастацтваў Украіны і Масквы, сапраўднай акрасай якіх стала выступленне Гуцульскага ансамбля песні і танца Івана - Франкоўскай абласной філармоніі.

Ва ўшанаванні класікаў украінскай літаратуры актыўны ўдзел прынялі і беларускія пісьменнікі. На вечары І. Франка са словам пра юбіляра выступіў першы сакратар СП БССР Ніл Гілевіч. Пра М. Шашкевіча гаварыў крытык і перакладчык Вячаслаў Рагойша.

**В. КАЧАНОВІЧ.**

**ВІНШУЕМ**

## Марку СМАГАРОВІЧУ—60



Паэту Марку Смагаровічу спаўняецца 60 год. Праўленне СП БССР накіравала яму прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагі Марк Станіслававіч!**

**Мы, Вашы калегі і таварышы па працы, шлём Вам гарачае вітанне ў дзень Вашага 60-годдзя!**

**Яшчэ падлеткам Вы пайшлі ў партызанскі атрад і прымалі актыўны ўдзел у барацьбе з ворагам. У 1944 годзе былі цяжка паранены, доўга ляжалі ў шпіталі.**

**У канцы саракавых гадоў у друку з'явіліся Вашы першыя творы. Убачанае і перажытае Вамі робіць Вашы вершы — невялікія па форме, але багатыя па змесце — праўдзівымі і пераканаўчымі.**

**Ваш першы паэтычны зборнік «Мой таварыш» выйшаў у 1955 годзе. Ён не прайшоў міма ўвагі крытыкі і быў прыхільна сустрэты чытачамі. Другі зборнік называўся «На крылах песні». Потым выйшлі кніжкі паэзіі «Маё выступленне», «Крокі», «Пачастунак», «Разводдзе», «Сплаў», «Жорны віру», «Бляск крышталю». Адначасова Вы працавалі ў жанры дзіцячай паэзіі, выдалі кніжкі «Каля кастра» і «Жураўліная труба».**

**З Вашымі сатырычнымі вершамі чытач меў магчымасць пазнаёміцца па калектыўным зборніку «З майго пункту гледжання», адным з аўтараў якога Вы з'яўляецеся. У якім бы жанры Вы ні выступалі, Вашы паэтычныя творы вызначаюцца лаканічнасцю, прастатой формы.**

**Шчыра, ад усяго сэрца віншуючы Вас з юбілеем, жадаем Вам, дарагі Марк Станіслававіч, здароўя, жыццярадаснага настрою і новых твораў!»**

Супрацоўнікі штотыднёвіка далучаюцца да віншавання.

**Марк СМАГАРОВІЧ**

### *Планета ўсім людзям патрэбна*

Мне прагуляцца зачастую
Ахвота проста аднаму...
Люблю я восень залатую,
Люблю і лета і зіму.

І тут прызнацца немагчыма,
Што ўсё ж вясну люблю ўдвая:
Тады ўся ў квецені Радзіма —
Твая Радзіма і мая.

Раздзьмуць пажар вайны
дарэмна
Імкнецца вораг — твой і мой.
Планета ўсім людзям патрэбна
Не абгарэлай, а жывой!

### *Дождж*

Поле і лес і палянка
Просяць вады хоць глыток.
Рогам ласіным маланка
Хмару бадае пад бок.

Гром пракаціўся сярдзіта:
— Засухі не дапушчу!..
З хмарай пшаніца і жыта
Ніткамі сшыты дажджу.

Дождж напаіў лес, аблогу,
Поле, што смягла ў цішы,
І хлебароба трывогу
Змыў з неспакойнай душы.

### *Мая песня*

З песняй з незапамятнага часу
Я не разлучаюся нідзе.
Дзякую нястомнаму Пегасу,
Што не пакідае і ў бядзе!

Пройдзена суровая дарога.
Адгрымела лютая вайна.
І калі гучала песня строга,
Дык была ў тым не мая віна.

Я яе пранёс па маладосці.
І далей нясу яе ў працяг.
А калі кашчавая падкосіць,
Песня застанецца — як працяг.

**ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ**



**Вечар памяці Навума Перкіна (з нагоды 75-годдзя з дня нараджэння) — беларускага літаратуразнаўцы, даследчыка інтэрнацыянальных сувязей літаратуры, адбыўся ў Доме літаратара.**

**М. Мушынскі (ён вёў вечар), У. Гніламёдаў, М. Грынчык, В. Каваленка, А. Лысенка, М. Тычына адзначылі плённасць пошукаў даследчыка, яго клопаты аб навуковай змене, шматграннасць таленту, што, ў прыватнасці, засведчылі празаічныя творы Н. Перкіна, якія з'явіліся ў друку пасля яго смерці.**

Вечар вядзе Міхась Мушынскі. Сядзяць (злева направа) Міхась Тычына, Мікола Грынчык, Віктар Каваленка.

Фота Ул. КРУКА.

### У рэдакцыю штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва»

**Паважаны таварыш рэдактар! Дазвольце праз вашу газету выказаць маю шчырую сардэчную падзяку ўсім, хто павіншаваў мяне з 80-годдзем і высокай урадавай узнагародай.**

**Алесь ЗВОНАК.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

### *Жыву, пакуль люблю*

Вада.
На строме сосны.
У збажыне задумны гай.
Любіць бы вечна гэты край
Журботны.
Родны.
Росны.
Любіць пагодныя нябёсы,
Ад гора горкую зямлю...
Любіць
прызначана мне лёсам —
І я жыву,
пакуль люблю.

### *Вяртанне*

Ён любіў узнёсла мроіць,
Калі ў свет яго нясло.
Мроіў —
вернецца
героем
Ён у роднае сяло.

...Вось стаіць ён на пероне,
І разгублена ў імжы
Грэе зябкія далоні...
Пастарэлы
і чужы.

●

Мне восьмы год. І я —
падпасак.
Хаджу зялёным мурагом.
Умею звонка ляскаць паскам.
Нашу абед за пастухом.

Жыццё бясхмарнае, як свята,
Зіхціць расой світальны луг.
Бяруць даверліва цяляты
Духмяны хлеб з дзіцячых рук.

Трыццаты год мне час
адляскаў.
Грымеў не раз над лёсам гром.
А я усё, нібы ў падпасках,
Нашу абед за пастухом.

●

«Я ўжо дома, а ты — ў
гасцях»...
І суцяшэнне, і пагроза.
Розум
пагаджаецца цвяроза,
А цела —
халадок працяў.

Даруй, паэце невядомы,
Я напамін твой берагу,
І ўсё ж паверыць
не магу,
Што дом мой там,
што я — не дома.

●

Некалі ў школьным юнацтве
мы, дамарошчаныя філосафы,
зрабілі чарговае адкрыццё:
у злога гаспадара —
заўсёды злы сабака.
Мы былі задаволены
сваім адкрыццём.
Дружна апраўдвалі сабаку
і вінавацілі гаспадара.
Сёння чамусьці я ўспомніў
той даўні выпадак,
і мне стала шкада іх...
абодвух.

### *Для вас...*

Для Вас
люстэркі першых лужын.
Для Вас
вясёлы ветравей.
Для Вас

## ПРОЗА

# А маці не спіць

Сяргей ГРАХОЎСКІ

**Дапісана кароткая гісторыя доўгага жыцця «А маці не спіць». У цэнтры аповесці — лёс маёй равесніцы, палескай жанчыны, на долю якой прыпалі ўсе складанасці нашага трывожнага, багатага на падзеі часу. Адзінокая Аўдоцця Кастрыцкая пакінула вёску і пераехала да сына ў ваенны гарадок. Захварэла. Пакуль была ў бальніцы, сына тэрмінова перавялі на службу ў другую рэспубліку.**

**Нямоглая Аўдоцця па дарозе ў сваю Балашоўку трапіла ў палату сельскага ўрачэбнага ўчастка. Пасля хваробы Аўдоццю часова прытуліла ў сябе ўрач Арына Аляксееўна...**

**Аўтар.**

ПЕРАД сном Арына Аляксееўна звычайна нешта чытала. Пакуль гарэла святло, Галінка варочалася ў сваім ложку. У яе часта балела горла, распухалі залозкі, сохлі губы. Яна ціхенька злезла з пасцелі, сунула ножкі ў суконныя тапачкі.

— Ты гэта куды?

— Ц-с-с, — прыклала да губ пальчык Галінка. — Калі не спіць бабка Аўдоцця, хачу ёй нештачка сказаць, — і патэпала ў бабчыну баковачку. Спынілася на парозе.

— Чаго ж табе не спіцца, мая ясачка? — прашаптала бабуля.

— Я ўсё думаю, чаму вы раней да нас не прыходзілі. Дзе былі?

— Да-а-а-лёка была, адсюль не відаць. Там у мяне была свая ўнучка. Анджэлачкай зваць...

— А я?

— І ты мая.

— Мне холадна.

— Лезь пад коўдру. — Галінка толькі гэтага і чакала. Яна стрэсла з ножак тапачкі і хуценька зашылася ў цёплую пасцель, прытулілася і моцна абняла бабку. Аўдоцця адчула, як побач роўненька стукае маленькае сэрца, адчула гарачае дыханне і прыпомніла, як гарнуліся яе дзеткі, як чакалі яе з поля і з фермы. Якія яны былі цёпленькія і ласкавыя. Каб перабіць свае думы, запытала:

— Кім жа ты будзеш, Галінка? Можа, доктарам, як мама?

— Не-е-е... Касманаўтам. Як Савіцкая.

— Чаму ж так высока? І на зямлі рабі, усяго не пераробіш.

— Толькі спачатку трэба лётчыцай стаць. Я і цяпер у сне лятаю.

— Гэта ты расцеш, Галачка...

А мне дык некалі мой сынок Паўлічак казаў, што ў вайну наш с-а-а-мы глаўны над усімі ні дня салдатам не быў, а ўсімі маршаламі камандаваў, і бытта спраўляўся з работаю. Вучыцца будзеш старанна, і ты паляціш. Хоць на зямлі яно лепей, спакайней. Зямелька нам сілу дае, усё ад зямлі. Нельга ад яе адрывацца, — сказала і зноў падумала: «А мае ж разляцеліся і не знойдзеш. Першанькіх Барсюк жыўцом у тыя краматорыі загнаў, а Паўлічак?.. Не можа быць, каб не азваўся. Можа, даўно шукае яе, а яна аціраецца па чужых закутках. І зноў камяк перахапіў горла. Каб ведала, дзе костачкі тых маленечкіх, рачкі папаўзла б зірнуць на тое неба ды на зямельку, што прыняла іх попел.

— Бабка, а бабка! Не маўчы, мне сумна, — зашаптала ў самае вуха Галінка.

— Што ж табе казаць?

— Хоць са-а-менькую маленечкую казку. Толькі не страшную.

— Казкі ўсе добра канчаюцца. Жыццё часам бывае страшнейшае за самую страшную казку. Ну слухай: «Жыў-быў цар, зямлі і мора ўладар. У яго была цароўна, нікому не роўна. Ды за трыста тры вярсты да яе прыйшлі сваты, знатныя, багатыя, статныя чубатыя...», — яна шаптала цішэй і цішэй, бо Галінка замоўкла і роўна дыхала ў самае вуха.

У пакоі Арыны Аляксееўны патухла святло, на кухні правурчаў халадзільнік, мокрая галінка старой ліпы шаргацела па даху. Пад раніцу глуха забарабаніў першы дождж. Аўдоцця ціхенька адзелася, падаткнула пад Галінку коўдру і выйшла на ганак. Па вадасцёку ў пазелянелую кадку зіхоткім струменем лілася вада, зямля закурылася цёплаю параю, пахла прэллю і нашатырным духам разварушанага гною, клейкімі тапалёвымі пушынкамі і адталай зямлёю. Недзе на далёкай ферме рыкалі каровы — пачулі вясну і пах першых кволых травінак; на суседнім двары гарланіў певень, за сялом у нізінах плыў блакітны туман.

З ганка Аўдоцця ўзіралася ў веснавыя палі і ўспамінала першую пасляваенную вясну, упрэжаных у плуг баб, каліаралі адна адной соткі. Інакш не выпадала.

Аўдоцця сышла на гразкую вуліцу і выправілася ў бальнічку на дзве палаты: перш перамыць падлогі ў амбулаторыі, дагледзець ляжачых хворых, саскрэбці з ганка ўчарашнюю гразь. Пакуль прыйдзе дакторка, каб усё аж зіхацела.

Абмінае выбоіны і калюжыны, а ў памяці — пасляваенныя вёсны, і яе нябожчык Анікей успамінаецца ўсё часцей і часцей. Колькі яна папаплакала ўпотай, мыючы ад сукравіцы бінты з яго куксы, што ўсохла і зморшчылася замест нагі. Як яна радавалася, калі ён усміхаўся і туліў яе да сябе: запомніўся пах яго горкага поту і дотык шорсткай, але такой ласкавай і пяшчотнай рукі. І Паўлічак, толькі маленькі, стаяў перад яе вачыма ў кароценькай зрэбнай кашульцы, пафарбаванай альховай карою. Калі не было на каго яго пакінуць, несла з сабою на ферму, а каб, барані божа, не запоўз каторай карове пад капыты, прывязвала паскам да шула. Затое пасля ўжо адпіваўся цёпленькім сырадоем.

Успомніла, як аўдавела, а дурненькае дзіцятка не разумела, куды гэта нясуць яго татку, і ўсё прасілася да яго ў «калыску». Дзе б ні ішла, што б ні рабіла, а ўсе думкі сыходзяцца на Паўліку. Як яна радавалася, калі ён падрос, выцяг бацькаў малаток і ржавымі цвікамі папрыбіваў паадрываныя штыкецііны, а праз які год ці два і не агледзелася, як сын памочнікам стаў: не біў лынды — і чэргу адпасваў, і прычэпшчыкам рабіў, картоплі капанічыў, і дровы рэзаў, і ў школе не апошні быў. Чым больш сталеў, тым больш Анікея нагадваў: узлуецца, бровы ссуне, якраз, як бацька, а зарагоча — з аблічча і голасам выкапаны Анікей.

Бывала, не нагледзіцца, не нарадуецца на сыночка: і статны, і разумны, і да работы здатны. А калі заенчыў жыватом і патарабанілі ў бальніцу ды пачалі жывенькае дзіця рэзаць, ёй балела горш, чым яму. А колькі ж яна папаенчыла, колькі паклонаў адбіла перад маткай боскай... Круцяцца ўспаміны, не раўнуючы, як тое кіно: ачуняў Паўлічак, радасць вярнулася ў дом. Пасля школы прыбягаў на ферму, памагаў чысціць стойлы, цялятак адпойваў, сілас падвозіў — такі быў спрытны ў кожнай рабоце. Спадзявалася Аўдоцця: да зямлі прырасце сынок, да бацькавай хаты, да матчынай ласкі, вывучыцца на трактарыста ці якога заатэхніка, бо за кожную жывадзіну душачку быў гатовы аддаць. А там і нявестку ў дом прывядзе, от дзе будзе радасць, як пасыплюцца ўнукі. Аўдоцця думала з сынам, нявесткаю і ўнукамі ў сваёй хаце век звекаваць, без сварак і згрызот. На радаўніцу хадзілі б на Анікееву магілку з велікоднымі яечкамі, скочкі саджалі б, дзёрнам абкладалі, можа б, помнік з мармуровае крошкі агоралі... А цяпер? Хто ж адведае, хто дагледзіць тую магілку?

Думалася адно, а яно перавярнулася на дно. Каб жа ў яе аднае. Але ад гэтага ніколечкі не лягчэй. Скруціліся маладыя, зямлі роднае цураюцца. Бывала, за баразну, за паўмежак брат на брата з калом ішоў, кожны вяршок быў дагледжаны. А цяпер? Колькі гуляе зямлі — хвойнік парос на колішнім прасянішчы. Даўней на зарэчных лугах карэньчыка не знойдзеш, усе купіны пазразаныя, а цяпер тыя лугі лазой узяліся, кусты, як гай, параслі. Раней копы стаялі большыя, як цяперашнія стагі. Чаму ж так? Куды распаўзліся людзі, як спуджаныя авечкі? Колішнім часам зямлю любілі, цяперака баяцца яе. Нават местачковыя падшыванцы часэм вясковага чалавека грэбліва абзываюць: «Эй, ты, калфознік!» Раней хлебаробамі зваліся, і вуліцы былі Хлебаробская, Гаспадарская, Пахатная. Даўней толькі паны ды шляхта вяскоўца «мужыком» дражнілі, а цяпер чамусьці бадай кожнага мужчыну мужыком завуць, і жонка пра мужа гаворыць не гаспадар, а мужык, і ніхто не крыўдзіцца.

Куды ж гэта селавыя ляцяць за свет ад бацькоў і матак, ад родных хатак? Усе, бач ты, вучанымі пасталі: давай ім асфальт, ціятры, «жыгулі» за бацькавы грошыкі, каб спраўна хадзіць, смачна есці, а рабіць? Кот наплакаў тае работы. Праціраюць увесь дзень за сталамі штаны ды спадніцы, усё нешта пішуць, а каму тая пісаніна трэба? Хто яе чытае? А пра што большы клопат? Пра футболы і гітары. Самыя здаравякі за адным мячыкам ганяюцца, а рабіць хворыя. Паўцякалі з сяла, панапіналі на тоўстыя клубы джынсікі і кожан тыдзень да матак па сальца ды свежы тваражок джгаюць, і грошыкамі не грэбуюць, што на гнаі выраслі.

А прыпрэ няўпраўка, нашых жа вязуць, толькі ў другія калгасы. Учарашніх селавых ужо не гаспадарамі, а шэфамі завуць. І длубаюцца тыя шэфы ў баразне абы да адбою дакалывацца. Пасля іх станавіся і ў два разы больш картоплі навыбіраеш: змагаліся ж — хто барзджэй.

Так і Паўлічак. Пасля школы з год яшчэ неяк да арміі пратрымаўся, а прызвалі — пішы прапала: забыўся дадому сцежку і дзела з канцом. І куды ж іх толькі не заносіць? На бамы, абы не да мамы, на домны, абы не дадому. Паўліка, праўда, як адслужыў сваё, паслалі на камандзірскія курсы. Ён і змалку быў башкавіты: усё ў таго Чапая гуляў. От і дагуляўся да камандзірскай службы, і да мяне шчасцейка завітала — адзінае дзіцятка ў людзі выбілася. Бывала, прыскочыць на колькі дзён на пабыўку, спраўны, ладны, абмундзіроўка аж рыпіць на ім, значкі на грудзях — у два рады, дзеўкі аж млеюць па ім, а ён па-простаму, бытта, і гаварыць ужо не ўмее, усё па-гарадскому. Дзіва што! Вучаны. Ужо не мамай, а мамашай заве. А то кажа, за нешта яго камандзір пахваліў, паляпаў па плячы і ўжо не курсантам заве, а Павел Анатолевіч. Думала, не дачула. Перапытваю: «Як, як ён цябе, сынок?» «Відзіш, мамаша, Анікеевіч нятўдобна. Рабята дражніць начали Анікам-воінам. Вот я і стаў Анатолевіч. Ты толькі пры людзях не ўтачняй».

Тутака ў мяне ўсё і захалонула ў сярэдзіне, слязінку зглытнула, а як адпусціла, наважылася і кажу: «Як жа ты, сыночак, бацькі роднага выракся? Ён жа, небарака, цябе на аднэй ручачцы па сялу насіў, а ў другой мыліца была, і ўсё выхваляўся сыночкам сваім. Ён жа і папраўдзе быў воін, ды яшчэ онь які! Палянь, у прыскрыначку ўсе яго ардзяны і медалі ляжаць, і тыя крывавыя нашыўкі за ножачку страчаную, за дзірку навылёт, а ты застыдаўся імя бацькі-воіна прыняць. Можа, душачка яго недзе тут чуе нас, дык ёй адхлання на тым свеце не будзе».

А ён сваё верне, бытта, няма ніякае душы ў чалавеку, — косці ды мяса, і ўсё. Пахавалі, кажа, і канцы. Прах адзін. Тут і я не змоўчала: «Няпраўда, кажу, дзеткі. Без душы і совесці і чалавека няма, — гаўяда бязрогая, прах і страх адзін. Онь колькі на гэтай праклятай вайне палегла. Праўда ці не, кажуць, аж дваццаць мільёнаў. А хто іх лічыў? Можа, і бо-

цвіце калакалуша,
Для Вас
спявае салавей...
Мае радкі
прабегшы звыкла,
Вы засмяецеся ў адказ,
бо Вы
даўным-даўно прывыклі,
што нехта моліцца
на Вас...

●

Даўно павыпаўзлі
мы з нораў,
А ў жылах тая ж грае кроў...
Мы кажам:
«звер», «звярыны нораў»,
Ах, як мне крыўдна
за звяроў!
Даўно ён знік,
дзікун той шэры,
Шліфуе нас гуманны век.

А звер жыве,
і будзіць звера
У чалавеку чалавек.
Дваццаты век.
Акселератаў
Нясе ў нябёсы НТР...
Яшчэ крыху і ты —
крылаты!
А звер жыве.
Жыве ўсё звер!?

●

Вечарам
зорка ў акне,
ноччу
каханая ў сне,
раніцай
птах на бярозе
пакрыўдзяцца на мяне,
калі перайду я
на прозу.

## *Астап Верасай*

### (КАНЦЭРТ У САНКТ-ПЕЦЯРБУРЗЕ)

...Паўвека, як аслеп,
А свет не лічыць склепам,
Сляпыя душы лечыць небам
І зарабляе так на хлеб.
Хоць невідушчы, а умее
З камення іскры выкрасаць
Прарок са знешнасцю Масея,
Хахол бязродны Верасай.
Ён і бяздушнага узрушыць
І мёртвых зможа ажывіць:
Агонь успыхне — не патушыш,
Агонь успыхнуў — спапяліць.
Пра долю плача, пра сіроцтва
Яго турботная струна,
То пагражае, то прарочыць
І — не баіцца бізуна.
Вось гэтым сытым, што не
сеюць,
Іграй,
кабзар,
іграй!
Прарок са знешнасцю Масея,
Хахол бязродны Верасай.
Графіня N. вось-вось заплача
І пракляне шчаслівы лёс.
Яна са страху мроіць плаху,
А нехта мысліць... пра данос.

## *Якаў Палачанін*

«...мужествовав крепко».
З «Наўгародскага першага летапісу».

«Мужествовав крепко» —
Колькі ў гэтым сказе!
«Мужествовав крепко» —
Хіба лепей скажаш?

...Чуеш, як па лёдзе
Капыты малоцяць?
Бачыш, той вунь, смелы,
З сінімі вачамі,
Родам з Русі Белай,
Якаў. Палачанін.
У баях, на лозах,
Як мядзведзь, ён дужы,
На пірах князёвых
Не гаворыць дужа.
Па крывавым лёдзе
Капыты малоцяць.
На гарачым лёдзе
Смерч мячоў і дзідаў...
Колькі не народзяць
Хлопцаў маладзіцы!

Летапісец рупны —
Сведка дзён крывавых.
...Летапісцы скупа
Раздавалі славу.

лей. Там, дзе яны галоўкі склалі, курганы выраслі ды хвойнік з небам гамоніць. Думаеш, і ўсё на тым? Не, не, сыночак, не грашы. Душачкі не звяліся, пакуль жывуць людзі, жывуць і яны: таткава — у тваёй і ў маёй трапечацца, і ў кожнай сям'і так. Душачкі тых воінаў белымі зданямі каля дарог на сваёй і чужой зямельцы пасталі, яны ў званы тае Хатыні б'юць і па ўсім свеце ў людскія сэрцы перайшлі. Колькі, думаеш, у маім сэрцы душачак? Га? І мамкі мае, і таткі, і брацельніка, што недзе ў Германіі галоўку склаў, і таткі твайго Анікея, і брацікa з сястрычкаю, што ірад на чужой старане спапяліў. Усе ў маім сэрцы месцяцца», — сказала і залілася слязьмі.

«Ну, кінь, маці, не расстрайвайся. Пушчай будзе па-твойму — душа дык душа, толькі яе лічна ніхто не відзеў». «Не, сынок, гэта чалавек без душы далёка відзён, а совеснага ды з душою часцяком і не прыкмячаюць».

Так яны тады пагаварылі.

Яшчэ колькі разоў прыязджаў на пабыўку Паўлічак, але ўсё чужэйшы і чужэйшы. Спытаеш, бывала: «Як жа табе жывецца, сыночак?» Адзін адказ: «Н-армальна». А дзе простай бабе паняць, што гэта за нармальна — нормы выконвае, ці нормы ўстанаўляе. Неяк аднаго разу спытала, ці няма на прыкмеце нявесткі. «Намячаецца адзін вар'янт». А хто той вар'янт, дапытвацца не пасмела.

З'едзе сынок у тую сваю школу, а маці ночы не спіць, —усё думае, усё гадае, яе гэта ці не яе Паўлічак. Такі ж ласкавенькі быў маленькі, ад прыполу, бывала, не адарвеш, а падрос, гаспадаром у хаце стаў, усё лецечка калгасную работу на працадні варочаў. А цяпер? Чужы нейкі. Усяе і гаворкі: «нармальна», «мамаша», «факцічаскі», «вар'янты» ці вар'яты нейкія. Без талмача і не разбярэш, што ён кажа. Можа, і праўда, перавучыўся. Усяк думала, а радавалася кожнай вестачцы, хоць і рэдка яны прыходзілі. Граматы ў яе было — адна зіма лікбезу: навучылася распісвацца, збольшага чытаць друкаванае, а пісаць, як бог пашле — каракулі, і ўсе толькі вялікімі літарамі. Каб не сарамаціць сыночка, адрас пісаць хадзіла да суседчынай дачушкі-васьмікласніцы.

А кончыў вучылішча, прыехаў у новенькай сіне-зялёнай форме, з бліскучымі пагонамі. Ад радасці маці расплакалася, такі ўжо матчын лёс — гора і радасць слязьмі заліваць. От каб Анікей пабачыў сыночка, такога спраўнага, важнецкага, і пах ад яго ідзе нейкі не тутэйшы. Чамадан скураны, а ў ім — шаўковыя штонікі і такая ж куртачка паласаценькая, а прычындалля — брыцца, мыцца, часацца, і не бачыла зроду такіх.

Дні са тры пагуляў з хлопцамі ўволю. Дзеўкі ўсё па падвоканню шнуравалі, нібы незнарок. Заскаквала і Еўка Кернажыцкая. Чырванню залілася, бедная, як запытаўся Паўлік, што яна робіць цяпер. А ёй сарамоцце прызнацца. Гэта ж трэба, цьфу на іх, да чаго здзек над жывацінаю дайшоў — асемяненне з жалезнае трубкі. Вывучылася Еўка на таго заатэхніка і робіць гвалт над кароўкамі. Дзе ж ты прызнаешся ў такой рабоце кавалеру. Зубаскалы ўжо расказалі Паўліку пра Еўчыну должнасць, ён і пажартаваў са свае колішняй ухажоркі. Еўка прыснула за дзверы, толькі і бачыў яе.

Незадоўга да ад'езду загаварыў Паўлічак, што ў горадзе ў яго дзяўчына ёсць. І не абы-якая. І неяк не па-нашаму, Інаю, завецца. Бацька ў яе, кажа, немалы начальнік. Кватэра на тры палавіны, дываны — ад столі да падлогі. Усё ў іх ёсць, і дачка на выданні. Нібыта яны з Паўлікам так палюбіліся, што дзела вяселлем пахне. А вяселлі, кажа, цяпер гуляюць не меней, як тры дні. І чаго на сталах толькі няма! Гасцей больш за сотню збіраюць.

Кажа сынок, што з боку маладое ўсё будзе ў поўным парадку, а з нашага, кажа, вапрос імеяцца. Фінансы пяюць рамансы: пад'ёмныя ён свае з хлопцамі ў магазіне прасадзіў, усё пагоны замочваў. А на вяселле, кажа, мамаша, раскашэліцца трэба, каб перад новаю раднёю і перад пастароннімі ў лужу не плюхнуцца. «Так што, — кажа, — фінансавая помашч трэбуецца. Сама панімаеш. Карацей — грошы».

«Панімаць, дзіцятка, панімаю, але дзе іх узяць, тыя грошы?» А ён, не доўга думаючы, знайшоў. Кабанчык, кажа, сотні на чатыры пацягне; бычок за лета выгуляны, таго ж варты. Для зачэпкі ўжо нешта ёсць. І як насеў, як насеў, хоць ты махалам адбівайся. Колькі не плакала, звёў-такі бычка і кабанчыка, ледзьве да кароўкі з першага заходу не дабраўся. Грошыкі — ў кішэню і пасвістаў у свой горад. Мацеры і на карабок запалак не пакінуў. На вяселле, казаў, тэлеграмай пазаве, толькі каб плюшаўку не адзявала, бо сарамоцце цяперашнім часам. А за што тое лепшае справіш?

Колькі ночачак не заснула ні на волас: усё думала, як яно там будзе. Ці захочуць тыя ацьвесвянныя сваты радніцца з простаю бабаю. Згару, думала, ад сараму: як там сесці, што чым есці, пра што з тымі сватамі гаварыць, каб Паўліку не нашкодзіць. Думала і так і гэтак, і надумалася-такі — не паеду. Прыйдзе тэлеграма, адаб'ю назад: так і так, занядужала, прыехаць не здалею, блаславляю, жалаю і так і даляе. Супакоілася, спаць пачала. А ўсё роўна ў паштаркі штодня пыталася, можа, ёсць што. «Пішуць, пішуць, цётачка», — адказвала тая, а ўрэшце і хату абмінаць пачала. Здалёк крутне галавою і пайшла.

Так, дзякаваць богу, і не дачакалася тае тэлеграмы: жыць стала лягчэй, сны толькі напаўзалі адзін на адзін: то ўсіх сваіх траіх дзетачак у адных начоўках купае, і ўсе трое такія ружовенькія ды гладзенькія. Паўлічак выскачыў і пабег, а тыя двое гарэзнікаў паплылі ў начоўках па разводдзі. Колькі ні гукала, голас прапаў, толькі губы варушацца, а ні слоўца не чутно. Боўтнулася па шыю ў ваду, зірнула туды-сюды: нідзе ні начовак, ні бурбалак не відно.

А то ні з таго, ні з сяго Анікей прысніцца, такі, як да вайны, малады і дужы. Лашчыцца да яе, дыхае горача, шкадуе, абдымае, і ёй так добра, так соладка сэрца татахкае. Прахопіцца і шэпча: «Прасці, госпадзі, цяжкі грэх. Гэта ж сон, сон толькі. Цьфу на яго!» А сэрца і праўда татахкае. Яна ляжыць з расплюшчанымі вачыма, слухае, як у запеччы трашчыць цвыркун, як трымціць ад ветру незакітаваная шыба.

Дашаравала Аўдоцця сталы, вымыла падлогу і вокны, перaслала пасцелі ў абодвух палатах, пагаманіла з кожным хворым, падвесяліла слабейшых. Сухі, як леташняя тычка, чорны дзед, што да рання гупае на ўсю бальніцу сухім кашлем, прасіў купіць тры пачкі «Прымы». Бабка яго ўшчувае: «Задушышся, чалавеча, сам і суседзяў патруціш. Бач дакурыўся, што ўсярэдзіне арганы іграюць. Лепш за тыя грошы куплю табе маселца». А той ледзь не на каленях просіць: «Дзе ты яго, дз'ябла, кінеш, калі ўсё тут засмалена», і ён стукае кулаком у рабрыстую, як сціральная дошка, грудзіну. Аўдоцця ўзяла з яго зрэзанай маршчынамі сухой далоні дробныя манеткі і пайшла з бальніцы. Як асталася адна, думы зноў не пакідалі яе.

Успомнілася, як на чацвёрты год пасля жаніцьбы заявіўся на пабыўку Паўлічак з жонкаю і дачушкай. Кажа: «Саслабела дзіця. Сырадойчык трэба, свежыя яечкі і смаловае паветра». Чаго добрага, а гэтага ў нас не бракуе. Іначка яго ў вузенькіх штоніках у аблiпачку, на нагах басаножкі на вострых цвічках, пазногцікі на руках і на нагах, нібыта ў крыві, на галаве цэлая капа з нейкіх нежывых валасоў, а з мордачкі нішто сабе, грудасценькая і губкі маляваныя. Увайшла, паздароўкалася, Аўдоцця руку аб фартух выцерла, а нявестка сваёй не падала. Доўга круціла носам, што для яе няма асобнага пакоя. Прыйшлося посцілкамі запнуць куток з ложкам, а для ўнучкі ложачак пазычыць у суседзяў. А дзіцятка ж такое харошанькае, беленькае ўсё, і коскі, як лянок чэсаны, у сукеначцы ружовенькай і жоўценькіх сандаліках. «Як жа цябе зваць, унучачка?» «Анджэла» — кажа. А бо-о, мне ж і не выгаварыць гэтак адразу. «Няўжо ж, дзеткі, людскага імя не было? Гэта ж нейкае не наша». Іна толькі фыркнула, а Паўлік кажа: «Адсталі вы, мамаша, культуры малавата». «Можа, і малавата, — кажу, — а выгаварыць не выгавару». Я яе цішком Анэлячкай звала, а каб бацькі не сварыліся, пры іх толькі ўнучкай звала. Ласкавае дзіцятка, да мяне гарнулася. Я з ёю і ў грады хадзіла, паказвала, дзе што расце, сунічак кубачак штодня прыносіла, казкі баяла. Толькі вось бяда, — не ўсё яна па-нашаму разумела. І нявестачка мяне ўшчувала, каб не калечыла гаворку дзіцяці. А мяне яна толькі звала «вы» ды «вы». Часам, калі не выкрутка, Анісімаўна, скажа. Дзе ж гэта відана, каб свякруху ніяк не зваць? Можа, цяперашняя такая завядзёнка?

З месяц папілі ў мяне сырадойчыку, з'елі ўсіх куранятак і пачалі збірацца ў дарогу. Аднаго разу за вячэраю сынок і кажа: «Што ты, мамаша тут адна векаваць будзеш. Захварэеш, вады няма каму падаць. А мы во-во кватэру далжны палучыць. На тры душы—дзве комнаты ад сілы, а на чатырох, можа, і на тры выцягне. Старым, быццам, асобая плошчадзь палагаецца. Так што рашайся, мамаша».

Тут мяне, як варам абдало: «Куды ж хату, кароўку дзенем, — пытаюся, — усё, што з таткам тваім нажывалі?» Тутака і Іна падала галасок, і ні з таго, ні з сяго першы раз мамаю назвала. Нібыта ёй шкода, што мне адной упраўляцца цяжка, што гады выйшлі, і Анжэлачка да мяне прывыкла. А ў іх на ўсім гатовенькім мне будзе так добра, так добра... Хату, і што ў хаце, прадаць прасцей простага. Іх цяпер за добрую цану на дачы купляюць.

Слухала я, слухала, ды як загалашу: «А, дзетачкі ж вы мае, хіба можна сваё гняздо пакідаць, а самому валачыся немаведама куды лёгкага хлеба шукаць. Я ж без работы зачахну. Тут мяне ўсе ведаюць, тут я ўсім свая. У хаце кожны цвік тваім таткам, царства яму нябеснае, забіты маснічыны аж дасюль ад яго ручачак цёплыя. І ўсё кінуць-рынуць чорту лысаму?! Не, мае дзеткі, не сагласная я, як сабе хочаце».

А яны ўсё ўмалёгваюць, каб падумала. Кажуць, грошы мне на кніжку пакладуць, а яшчэ лепей, машыну купяць на маё імя, бытта мая, і катаць мяне будуць, як пані. Гаварылі, гаварылі, ледзь не пасварыліся. Так надзьмутыя і паехалі.

А я ўжо прысохла да ўнучкі: сніцца яна мне і сніцца. Убачу чыё дзіцятка, здаецца — мая Анэлячка бяжыць. А як пра хату падумаю, такі страх апаноўвае, нібы садралі з цябе ўсё да рубца, выгналі ў поле ў чым маці радзіла, і няма табе прыстанішча, хоць воўкам вый. Ні днём, ні ноччу думкі не даюць збыту: і так і гэтак прымяркоўваю. Падумаць, дык і праўда — адно дзіцятка асталося, яму жыць, а мне дажываць. Няхай яму добра будзе, сабе ж стараецца. Мы сваё адгаравалі, няхай хоць ён параскашуецца, а я неяк перакідаюся да труны. Няхай бы, як людзі, калі так хочацца, і машыну тую меў, і кварцеру людскую. Свая ж крывінка, сваё дзіцятка, і не лайдак, і не ломак, і сямейка ладная... Што зробіш? Прыгледжуся да соннага — Анікей і Анікей. Хіба ж можна шкадаваць свайму дзіцяці? Маці з рота апошні кус аддасць. Ды і чым Паўлічак горшы за суседскіх хлопцаў? Вунь і Халімон свайму справіў «жыгуля», і Лаўрэніха зяцька «масквічом» надзяліла. Уга! Ці ж усіх палічыш? А я хіба не маці?

А прайдуся па двары, зірну ў варывеньку, стрэну Падласку з пашы, здаецца, і яна глядзіць і просіць: «не кідай ты нас». Успомнілася, як Анікей, ужо на мыліцах, крукі ў шула заганяў і выцяў па пальцы, здэцца, і кровачку яго дагэтуль дажджы не змылі, патупаю, патупаю па хаце, умыюся слязьмі і шапчу: «Уразумі, госпадзі, старую дурніцу за сынам ісці, ці самой па сабе жыць? А ён жа ў мяне адненечкі!»...

Аўдоцця спахапілася, што ўжо не думае, як жыць далей, а бясконца перабірае ў памяці пражытае, перабачанае, перапакутаванае, даўнейшае не вернеш і не паправіш. А радасці не ўспомніць — адна калатнеча. Праўда, калі калгас стаў на ногі, старшыня людскі трапіўся — онь як разжыліся: клеці і кублы поўныя, разбудаваліся, грошы сотнямі лічылі, адзежу гарадскую справілі, а ў іх краму аж з вобласці па той дэфіцыт дапіналі. Трохі пажыла, няма чаго богу грашыць. А цяпер онь як абыралі — печаным хлебам свіней кормяць, забыліся, што жадны былі макусе ды шаймoрам. Ідзеш вуліцаю — хаты маляваныя; матацыклы ў кожным двары платы падпіраюць, тэлевізар у кожнай хаце, на сваіх машынах па кірмашах гайсаюць. Жывуць людзі: дзяцей павывучвалі, гарадскіх унукаў гадуюць, ведаюць, дзеля каго і чаго жывуць.

А навошта жыве яна? Адзін сын і той ацураўся, хаты сваёй раныў, маці з торбаю пусціў у белы свет. Успомніла ўсё, пастукала сухенькім кулачком у лоб: «Дурніца, дурніца, так табе і трэба, не жыві чужым розумам, калі свайго мала. Помні адно — трымайся свайго селішча, вырвеш корань, і пакоціць вецер, адломіш парастак, ён і засохне. Так і чалавек без свае зямлі пад нагамі, коціцца, як сухі быльнік, за ветрам».

Думы думамі, а дзела спраўляць трэба. Купіла таму хрыпатаму дзеду «Прымы», Галінцы — сто грамаў ірысак, пачак чаю. Заскочыла ў палату, аддала цыгарэты і тры капейкі рэшты і пайшла дадому. Які там дом? Чый? Паўстанак у дарозе, а куды завядзе дарога? Хто ведае?

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

*Рашэнні XXVII з'езда ЦК КПСС — праграма жыцця*

# МІГРАЦЫЯ І ЧАЛАВЕЧЫ ФАКТАР

«Круглы стол» «ЛіМа»

**Вёска і горад. Нехта з вялікіх мысліцеляў аднойчы жартам зазначыў: «Вёску стварыў бог, а горад пабудавалі людзі». Зазначыў, відаць, разглядаючы вёску, як «пярвічную матэрыю», з якой пачыналася гісторыя ці не кожнага народа, дзе закладваліся яго характар, звычкі, традыцыі, мараль, светаадчуванне. Мы ўжываем тут слова «вёска», вядома, у шырокім значэнні, маючы на ўвазе і шматлікія асаблівасці, праявы сялянскага побыту, у прыватнасці, яго непарыўную сувязь з карміцелькай-зямлёй. Славуты расійскі вучоны - натураліст К. Ціміразеў пісаў: «Той, хто ўрабляе зямлю, хоць ён сам гэтага не ўсведамляе, з'яўляецца жыццёвай апорай нацыі».**

**Сёння, на жаль, менавіта гэтая «апора» становіцца ўсё менш трывалай. Прычын тут шмат, адна з іх — міграцыя сельскага насельніцтва ў горад. Даводзіцца чуць, што гэта натуральны працэс, праява чалавечай цывілізацыі і яе трэба ўспрымаць толькі як рэальнасць.**

**Добра, усе мы рэалісты... Ну, а які лёс наканаваны карміцельцы - вёсцы? Дакуль мы будзем рабіць выгляд, быццам не ведаем пра апусцелыя вёскі з забітымі крыж-накрыж вокнамі дамоў, пра калгасы - саўгасы, дзе галоўная працоўная сіла — пенсіянеры?**

**«Галоўным чынам горад расце за кошт вёскі. Едуць у горад тыя, каму 18—30 гадоў, едзе той, хто больш за ўсё патрэбен вёсцы. Вёска старэе на вачах аднаго пакалення, у адпаведнасці з прагнозамі да 1990 года кожны трэці ў вёсцы будзе пенсіянерам. Ужо зараз многія гаспадаркі і нават цэлыя раёны зведваюць востры недахоп рабочых рук. Тэмпы адтоку сельскага насельніцтва такія, што праблему перабудовы вёскі нельга расцягваць у часе. Які ж шлях? Мы павінны вывучыць запатрабаванні моладзі, якая пакідае вёску, важна высветліць матывы і пабуджальныя прычыны гэтай з'явы».**

**Мы працытавалі ўрывак з нарыса пісьменніцы Святланы Алексіевіч «Я паехаў з вёскі...», апублікаваны ў «Літаратуры і мастацтве» ў канцы мінулага года. Гэты нарыс, як і змешчаны крыху пазней матэрыял таго ж аўтара «Бацькоўскі дом», прыцягнулі ўвагу чытачоў вострай пастаноўкай пытанняў, звязаных з міграцыяй сельскай моладзі ў горад.**

**Алесь Адамовіч у прадмове да аднаго з гэтых нарысаў, заўважыў, што ёсць тут над чым падумаць і спецыялістам. У рэдакцыі выспела думка прадоўжыць гаворку пра гэтую няпростую сацыяльную з'яву за «круглым сталом». У святле рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС «Аб перабудове і кадравай палітыцы партыі» такая гаворка, мы думаем, набывае асаблівую актуальнасць.**

**Сёння мы знаёмім чытача з матэрыяламі пасяджэння «круглага стала» «ЛіМа», у якім прынялі ўдзел: Г. КАВАЛЕНКА — намеснік старшыні Дзяржаграпрома БССР, В. БАЧЫЛА — намеснік старшыні Дзяржкампрацы БССР, А. ГАРНАК — намеснік старшыні Дзяржкамітэта па прафтэхадукацыі БССР, Б. АНДРЫЯНАЎ — начальнік аддзела Дзяржплана БССР, Л. ТОЛКАЧ — сакратар Чэрвеньскага РК КПБ, В. ХАРЭЎСКІ — загадчык аддзела НДІ горадабудаўніцтва БССР, В. АЛЬШЭЎСКІ — начальнік упраўлення культасветработы Міністэрства культуры БССР, А. КУЎШЫННІКАЎ — супрацоўнік аддзела кадраў Мінскага аўтазавода, пісьменнікі СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ, АЛЕСЬ АДАМОВІЧ, ВІКТАР КАЗЬКО, АНАТОЛЬ КАЗЛОВІЧ, ВІКТАР ДАЙЛІДА, ВАСІЛЬ ХОМЧАНКА, публіцысты літаратурных часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Беларусь» ВІКТАР СУПРУНЧУК, АЛЕСЬ ГАЎРОН і ВІКТАР ЖУК.**

**«ЛіМ»: — Праблемы міграцыі цесна звязаны з эканамічнымі, сацыяльнымі, маральнымі, нарэшце, дэмаграфічнымі бакамі жыцця рэспублікі. З чаго мы пачнём нашу гаворку? Мабыць, трэба спачатку высветліць дэмаграфічную абстаноўку, «выйсці» на праблемы працоўных рэсурсаў — адной з асноўных рухаючых сіл грамадства.**

**Б. Андрыянаў:** — Я буду аперыраваць лічбамі. Калі за дзесятую пяцігодку прырост працоўных рэсурсаў па рэспубліцы склаў 341 тысячу чалавек, дык за цяперашнюю, дванаццатую, складзе каля 15 тысяч — у 20 з лішнім разоў менш. Але вось парадокс — у горадзе рабочых рук не паменшала, наадварот, там-сям назіраецца іх лішак. А ў вёсцы працаздольнага насельніцтва з кожным годам менее на 60—70 тысяч чалавек. Частка іх пераязджае ў гарады рэспублікі, частка за яе межы.

**«ЛіМ»: — Затое на сельгасработах у нас шырока выкарыстоўваюцца гараджане...**

**Б. Андрыянаў:** — Кожны дзень горад пасылае на дапамогу вяскоўцам 16—20 тысяч чалавек, за год — 600—700 тысяч.

**«ЛіМ»: — Чалавек вольны жыць і працаваць там, дзе яму даспадобы. Гэта аксіёма. Цяперашняя моладзь з недаверам успрымае расказы пра тое, што не так даўно ў сялян нават не было пашпартоў, дазвол на выезд з сельскай мясцовасці атрымаць было даволі цяжка. Але пагадзіцеся, Барыс Сяргеевіч, дыспрапорцыя, пра якую вы расказалі нам, — з'ява ўсё-такі ненармальная. Якое вы бачыце тут выйсце?**

**Б. Андрыянаў:** — Цяпер у сельскагаспадарчай вытворчасці, як сцвярджаюць вучоныя, не хапае больш як 200 тысяч чалавек. Як кампенсаваць гэты дэфіцыт? На маю думку, перш-наперш рэзкім павышэннем прадукцыйнасці працы, укараненнем калектыўнага падраду, каб людзі былі зацікаўлены ў выніках сваёй працы.

**А. Гарнак:** — Прадукцыйнасць працы ў сельскай гаспадарцы ў нас у 4—5 разоў ніжэйшая, чым у ЗША.

**Б. Андрыянаў:** — Мы не зменшым міграцыі сельскай моладзі ў горад без карэннага сацыяльнага пераўтварэння вёскі. Гэта будаўніцтва жылля, дарог, паляпшэнне медыцынскага і культурнага абслугоўвання і г. д. Пастаўлена задача на працягу 12-й пяцігодкі зменшыць міграцыю з вёскі ў горад да ўзроўню адваротнай міграцыі — з горада ў вёску. Дарэчы, апошнім часам дае сябе адчуваць і такая тэндэнцыя...

**Г. Каваленка:** — Вашы лічбы, Барыс Сяргеевіч, да канца не выяўляюць шкоды, якую наносіць вёсцы міграцыя ў горад. Вы сказалі, што зараз сельскай гаспадарцы не хапае 200 тысяч працаўнікоў. Гэта калі разглядаць сітуацыю з пункту гледжання канкрэтнай забяспечанасці рабочай сілы. Але ж 200 тысяч маладых людзей, калі б яны засталіся ў вёсцы, колькі б маглі стварыць сем'яў, нарадзіць дзяцей! Таварыш Андрыянаў гаварыў пра шляхі замацавання моладзі ў вёсцы, неабходнасць сацыяльнага яе пераўтварэння, павышэнне прадукцыйнасці працы. Усё гэта, вядома, правільна. Але мы часам забываем, што павышэнне прадукцыйнасці працы і ў прамысловасці карэнным чынам зменшыла б попыт на рабочыя рукі і, як вынік гэтага, — адток працоўных рэсурсаў з сельскай гаспадаркі. Але ж, скажам, таму ж МАЗу больш зручна вазіць рабочых з вёскі.

**А. Куўшыннікаў:** — На Мінскім аўтазаводзе механізавана, дарэчы, 87 працэнтаў вытворчых працэсаў.

**Г. Каваленка:** — У вас тысячы людзей заняты ручной працай. Могуць сказаць, што я зыходжу з інтарэсаў Дзяржаграпрома, які тут прадстаўляю. Справа, вядома, не ў ведамасных інтарэсах. Ніводная дзяржава ў свеце не можа трывала існаваць без дастатковай колькасці прадуктаў харчавання. Я лічу, што мы не павінны залежаць ад якой-небудзь краіны ў гэтай справе. Як жа можна справіцца з такой задачай, калі ў нашай вёсцы не застанецца маладых людзей? Чым прывабіць іх? Вядома ж, якаснымі зменамі ў вясковым жыцці. Даць людзям добрыя сучасныя кватэры, вадаправод, газ. Яны не павінны адчуваць сябе адарванымі ад культурнага жыцця краіны, ад кваліфікаванай медыцынскай дапамогі. У сацыяльнай сферы сяла ў нашай рэспубліцы робіцца нямала. Вось толькі адзін прыклад. У мінулым годзе ў вёсцы было пабудавана 2173 тысячы квадратных метраў жылля пры плане 1911 тысяч метраў. Мы можам пахваліцца і якасцю жылля. У асноўным гэта дамы сядзібнага тыпу, прывабнай архітэктуры, зручнай планіроўкі. Адзін з самых надзённых сацыяльных заказаў вёскі — дарогі. Вы ведаеце, што многія селішчы на год па чатыры месяцы адрэзаны ад раённых цэнтраў. Нават з брыгады ў брыгаду тут можна дабрацца толькі на трактары. У 1986 годзе было пабудавана і адрамантавана 3029 кіламетраў дарог з цвёрдым пакрыццём, гэта амаль на чвэрць больш плана.

**«ЛіМ»: — А колькі ўсяго трэба ў рэспубліцы пабудаваць і адрамантаваць дарог?**

**Г. Каваленка:** — Мяжы тут няма... У вёсцы не хапае дзіцячых устаноў, пральняў, лазняў, магазінаў, ёсць нямала хібаў у медыцынскім абслугоўванні. Напрыклад, адчуваецца востры дэфіцыт такіх урачэбных спецыяльнасцей, як гінеколагі, педыятры, стаматолагі. Як кажуць, не для друку, але ў вяскоўцаў, гэта паказалі абследаванні, вельмі дрэнныя зубы...

**А. Адамовіч:** — А чаму «не для друку»?

**Г. Каваленка:** — Няёмка неяк гаварыць пра гэта — зубы ж і ўсмешка недзе побач... Вёска вельмі адстае ў сферы бытавых паслуг. Вясковец атрымлівае такіх паслуг удвая менш, чым гараджанін. Далёка не ва ўсім нас задавальняюць сельскія школы.

**«ЛіМ»: — Выпускнікі гэтых школ, як паказвае статыстыка, здаюць уступныя экзамены ў інстытут звычайна горш, чым выпускнікі школ гарадскіх. Нам пра гэта пісалі.**

**Г. Каваленка:** — Чацвёртая частка выкладчыкаў замежнай мовы ў сельскіх школах не мае спецыяльнай адукацыі, у той час як у горадзе выпускнікі інстытутаў замежных моў па некалькі гадоў стаяць у чарзе, каб заняць месца выкладчыка ў школе.

**С. Алексіевіч:** — Мой тата — педагог, усё жыццё працуе ў сельскай школе і ён расказвае, што апошняе дзесяцігоддзе ў іх няма выдатнікаў вучобы. Гэта вельмі прыкрая прыкмета. Яна сведчыць, што самая здольная моладзь паехала з вёскі. Хто ж будзе працаваць на складанай тэхніцы тут?

**«ЛіМ»: — Першааснова ўсяго, відаць, усё-такі эканоміка. Як мы ведаем, з заможных калгасаў моладзь не едзе.**

**Г. Каваленка:** — Зусім нядаўна ў нас было 1600 гаспадарак, якія не мелі ніякага прыбытку, не маглі разлічыцца з дзяржавай, цяпер такіх гаспадарак толькі шаснаццаць. Гэта дае надзею на станоўчае вырашэнне пытання, якое мы сёння абмяркоўваем за «круглым сталом».

**«ЛіМ»: — І ўсё-такі не хлебам адзіным жывы чалавек. На студзеньскім Пленуме ЦК КПСС нямала гаварылася пра паляпшэнне псіхалагічнага клімату ў грамадстве. Гэта, вядома ж, мае дачыненне і да вёскі.**

**Г. Каваленка:** — Мы нямала робім, каб стварыць спрыяльны мікраклімат у кожнай гаспадарцы, пазбаўляемся ад кіраўнікоў - бурбонаў, якія з людзьмі грэбавалі гаварыць.

**А. Адамовіч:** — А дзе ўзяць добрых кіраўнікоў? Відаць, з нашай мастацкай літаратуры, дзе поўна станоўчых герояў...

**Г. Каваленка:** — Мне здаецца, што наша літаратура, наадварот, мала піша пра лепшых людзей вёскі. Я мог бы звярнуць іх увагу на дзесяткі выдатных калгасных важакоў...

Яшчэ некалькі думак на сённяшнюю нашу тэму. Мы прывыклі аперыраваць у сельскай гаспадарцы паняццямі толькі эканамічнымі — які атрыманы ўраджай, колькі надоена малака, адкормлена жывёлы і г. д. А дзе людзі? Якая яна, роля чалавечага фактару? Вось вам адна, я б сказаў, нечаканая прычына міграцыі моладзі ў горад. Якая? У многіх нашых вёсках паменшала дзяўчат. Недзе на сто хлопцаў іх — семдзесят пяць — восемдзесят. Такой бяды, — скажаце вы. Але каму хочацца халасцякаваць? Вось і пераязджае хлопец з вёскі ў горад у пошуках нявесты. Дзяўчаты ў горадзе маюць яшчэ, на яго погляд, і больш прэстыжную прафесію. Што можна ўсяму гэтаму супрацьпаставіць? Стварэнне ў вёсках цэхаў - філіялаў буйных прадпрыемстваў. Гэта шырока, напрыклад, практыкуецца ў Прыбалтыцы. Такі цэх шмат дае і ў сацыяльным плане. Растлумачу. Здаўна павялося ўжо, што маладыя людзі саромеюцца вясковых прафесій



В. КАЗЬКО: Няма духоўнасці без прыроды.



Б. АНДРЫЯНАЎ: Патрэбна сацыяльнае пераўтварэнне вёскі.



А. ГАРНАК: Наша сістэма дае народнай гаспадарцы штогод каля 90 тысяч кваліфікаваных рабочых.



Г. КАВАЛЕНКА: Ствараем спрыяльны мікраклімат у кожнай гаспадарцы.



В. АЛЬШЭЎСКІ: У нас 700 незапоўненых вакансій.



А. КАЗЛОВІЧ: Міграцыя — своеасаблівая хвароба вёскі і горада.



С. АЛЕКСІЕВІЧ: Бывае, в чалавечай годнасці здзекуюцца.



А. АДАМОВІЧ: Трэба глядзець на рэчы рэальна.



В. БАЧЫЛА: Выкарыстоўваеце на МАЗе вяскоўцаў на ручной працы?



Л. ТОЛКАЧ: Адчуваем на сабе вынікі «маятнікавай міграцыі».



А. КУЎШЫННІКАЎ: Мы забіраем у сяла працаўнікоў.

даяркі, свінаркі, пастуха. Іншая справа — працаваць у той жа вёсцы, напрыклад, мантажніцай ці кантралёрам. Пра гэта не сорамна і кавалеру сказаць. Ведаеце, пажэняцца і, глядзіш, праз якія два-тры гады ідуць працаваць на ферму, бо там зарабляюць у два-тры разы больш, чым у тым цэху. У нас шмат такіх прыкладаў.

**А. Адамовіч:** — Мы гаворым аб праблемах міграцыі і робім выгляд, што нічога летась не адбылося на поўдні Беларусі. Я маю на ўвазе катастрофу на Чарнобыльскай АЭС, якая моцна закранула і нас. Зараз там працуюць людзі. Дзяржава выдаткоўвае нямала сродкаў, каб насельніцтва не пакідала гэтых мясцін. Але ж трэба глядзець на рэчы рэальна. Няма сумнення, што людзі, у рэшце рэшт, адтуль паедуць, асабліва моладзь. Якая жанчына рашыцца нарадзіць дзіця ва ўмовах павышанай радыяцыі? Дык мо больш разумна было б даць людзям магчымасць перасяліцца з той небяспечнай зоны, скажам, на Віцебшчыну, дзе яшчэ не адноўлены даваенны ўзровень насельніцтва?

**Г. Каваленка:** — Я не медык, не радыёлаг і не магу даць кампетэнтнага адказу — можна ці нельга жыць, з пункту гледжання бяспекі для здароўя, на поўдні Гомельскай ці Магілёўскай абласцей.

**А. Адамовіч:** — Людзі самі ўсё вырашаць. Не дапаможам мы перасяліцца ім на тую ж Віцебшчыну, паедуць самапасам у Сібір, у Нарыльск. Вы ж, мабыць, чулі, што насельніцтва з тых паўднёвых раёнаў рэспублікі выязджае?

**Г. Каваленка:** — Так.

**В. Казько:** — Я быў летам у Хойніцкім раёне, дык там з 46 тысяч насельніцтва шмат выехала. Гэта акрамя арганізаванага перасялення. Некаторыя вёскі па тры разы перасялялі з месца на месца.

**А. Гарнак:** — У Хойніцкім раёне мы закрылі прафесійна-тэхнічнае вучылішча з-за высокай радыяцыі. Машыны, якія ішлі з небяспечнай зоны, занеслі тую радыяцыю ў двор вучылішча. Сапраўды, людзі з тых раёнаў едуць у іншыя месцы. Мы гэта адчуваем па сваёй сістэме. Напрыклад, у Нароўлі, дзе ў наша ПТВ раней паступалі па конкурсе, цяпер вялікі недабор. Але каб ставіць пытанне аб тым, што на поўдні рэспублікі нельга жыць і працаваць, патрабуецца адпаведнае медыцынскае заключэнне. Такога дакумента мы не маем.

**В. Харэўскі:**—Усё гэта сумна слухаць. Зноў чакаем, пакуль нехта здалёк дасць распараджэнне. Каб не было позна... Гэта таксама адна з праблем міграцыі ў горад. Тут шмат гаварылася пра тое, як яе стрымаць, прапанавалася нават ужыць забарону. Я лічу, што гэтага рабіць не трэба. Тры гады назад мы даследавалі дэмаграфічную сітуацыю ў раёне Мазырскага прамысловага вузла. Як толькі на прадпрыемствах абмежавалі прыём вяскоўцаў, адразу рэзка павялічыўся адток з сяла за межы рэспублікі. Паўтараю, забаронай нічога не даб'ешся.

**«ЛіМ»: — Гаворка ў нас ідзе не пра забарону міграцыі, а пра тое, што яе жывіць.**

**В. Харэўскі:** — Генадзь Герасімавіч Каваленка гаварыў пра сацыяльнае пераўтварэнне вёскі як пра адну з асноўных умоў стрымання міграцыі. Але мы забыліся, што маладому чалавеку хочацца выпрабаваць сябе на складанай працы, а не на ферме. І гэта трэба падтрымліваць.

**«ЛіМ»: — НТР не абмінае і сельскую гаспадарку. Нядаўна па Цэнтральным тэлебачанні паказвалі праўнука Льва Талстога, які жыве ў Італіі і трымае там адну з лепшых у Еўропе жывёлагадоўчых ферм, дзе ўсё камп'ютэрызавана. Такую ферму ён будуе па кантракце ў нас каля Яснай Паляны.**

**В. Харэўскі:** — Мы занядбалі не толькі многія вёскі, а і нашы малыя гарады, такія, скажам, як Петрыкаў, Тураў, Мсціслаў, Рудзенск і іншыя, адкуль таксама выязджае ў свет моладзь. Занядбанне гэтае — вынік няправільнай інвестыцыйнай палітыкі, памылак планавых органаў. Напрыклад, на добраўпарадкаванне такога горада выдаткоўваецца ўсяго ад 14 да 50 тысяч рублёў.

**«ЛіМ»: — Вы гаворыце, Васіль Якаўлевіч, што малыя гарады занядбаны з-за недастатковых асігнаванняў на добраўпарадкаванне. Але ж як, напрыклад, могуць развівацца тыя ж Рудзенск ці Смілавічы, калі яны знаходзяцца ў зоне так званай «маятнікавай міграцыі»?**

**А. Куўшыннікаў:** — Я б сабе не пазайздросціў, калі б за гэтым сталом сядзелі старшыні калгасаў. Я адзін з тых, хто забірае ў сельскай гаспадаркі яе працаўнікоў. А што нам рабіць, калі на МАЗе хранічны дэфіцыт такіх спецыяльнасцей, як фармоўшчыкі, штампоўшчыкі, кранаўшчыцы, станочнікі?

**В. Бачыла:** — Гэта там, дзе пераважае ручная праца? І колькі рабочых вы кожны дзень транспартуеце з вёскі?

**А. Куўшыннікаў:** — З Чэрвеньскага і Пухавіцкага раёнаў 830 чалавек.

**А. Гарнак:** — А на сельгасработы колькі завадчан пасылаеце?

**А. Куўшыннікаў:** — Каля тысячы чалавек. Але не з тых цэхаў, дзе працуюць нашы «маятнікавыя мігранты».

**В. Харэўскі:** — Хіба не прасцей пабудаваць свой цэх-філіял у тым жа Чэрвеньскім раёне? Вазіць жа рабочых абыходзіцца не ў малую капейку?

**А. Куўшыннікаў:** Гэта не так проста зрабіць.

**А. Гарнак:** — Чаму вы дрэнна выкарыстоўваеце выпускнікоў прафесійна - тэхнічных вучылішчаў? Наша сістэма штогод дае народнай гаспадарцы 88—90 тысяч рабочых.

**А. Куўшыннікаў:** — Я вам прывяду такія лічбы: у 1983 годзе мы прынялі 557 выпускнікоў ПТВ, у 1984-ым — 412, у 1985-ым — 354, у 1986 — 271. У чым справа? Юнакоў, якія ў час вытворчай практыкі на заводзе набываюць працоўную прафесію, не дазваляюць пасля заканчэння школы прымаць на работу. Іх абавязваюць скончыць ПТВ. Пакуль юнак скончыць вучылішча, яму трэба ўжо ісці ў армію. Вось чаму і шукаем выйсця ў вёсцы.

**Л. Толкач:** — Так, мы на сабе адчуваем сумныя вынікі гэтай «маятнікавай міграцыі». Сотні людзей з раёна кожны дзень з самага ранля адпраўляюцца ў няблізкую дарогу на МАЗ. І гэта ў той час, калі ў вёсцы цяжка знайсці чалавека на пасаду пастуха, даяркі, не хапае механізатараў. Так, сёння чалавек шукае не толькі вялікага заробку, а і добрых умоў працы, каб мець і выхадны дзень, і месяц адпачынку, і жыллё з усімі выгодамі. Тое-сёе ў гэтым напрамку мы робім. Рэканструявалі некалькі ферм, дзе жывёлаводам можна цяпер пераапранууца, памыцца, адпачыць, уводзім двухзменную работу, што дае магчымасць той жа даярцы, свінарцы ці цялятніцы паўдня займацца хатнімі справамі. Нас вельмі непакоіць, што многія нашы маладыя людзі не прывучаны да сялянскай працы, нават пагарджаюць ёю. Вінавата тут у многім школа, дзе вабілі нашых дзяцей «рамантыкай далёкіх дарог», а пра родную вёску ўспаміналі толькі тады, калі трэба было паўшчуваць вучня за дрэнную адзнаку: маўляў, будзеш дрэнна вучыцца, пойдзеш у даяркі ці ў пастухі. Вось і паўцякалі ў горад хлопцы і дзяўчаты ад такой «страшэннай» долі. Позна зразумелі мы, што не так як трэба мы іх выхоўвалі.

**А. Гарнак:** — У рэспубліцы 69 сельскіх прафесійна - тэхнічных вучылішчаў, якія штогод папаўняюць армію вясковых спецыялістаў на 88—90 тысяч чалавек.

**«ЛіМ»: — У вёску — 90 тысяч, а колькі іх застаецца праз год?**

**А. Гарнак:** — Так, цякучасць, на жаль, вялікая.

**А. Казловіч:** — І спецыялісты, бачыце, пакідаюць вёску... Святлана Алексіевіч у нарысе «Я паехаў з вёскі...» ўзняла вечную тэму. Яна назвала нямала прычын, якія ўплываюць на міграцыю сельскага насельніцтва ў горад. Можна было назваць іх яшчэ больш — і важкіх, і дробязных. Міграцыя — гэта своеасаблівая хвароба вёскі і горада. Калі я працаваў над кнігай аб калгасе «Рассвет» імя Арлоўскага, мне трапіла ў рукі перапіска Кірылы Пракопавіча Арлоўскага, дзе ён, дарэчы, скардзіўся на тое, што амаль уся моладзь пакідае калгас. Тым не менш, гаспадарка з кожным годам набірала сілы і стала славутай на ўсю краіну. Парадокс? Не. Затрымліваць моладзь нельга. Гэта не гуманна. Тым не менш, «Рассвет» не адчуваў дэфіцыту рабочай сілы — моладзь, якая некалі з'ехала адсюль, амаль уся вярнулася. Вярнулася ўзмужнелая, пабачыўшая свет, звedаўшая сапраўдную цану жыцця. Вярнулася, бо ў «Рассвеце» ў цэнтры ўвагі — чалавек. Усё робіцца для яго дабрабыту.

Як будзе развівацца далей міграцыя? Калі сельская гаспадарка будзе развівацца паспяхова, міграцыя, я думаю, замарудзіцца. У аповесці М. Гіля адзін з персанажаў — унучка, гарадская дзяўчынка, адчувае, як прачынаецца ў яе цёплае пачуццё да вёскі, дзе жылі яе бацькі...

**С. Алексіевіч:** — Вось мы гаворым пра міграцыю, пра тое, што селянін адвыкае ад зямлі, не даражыць вёскай, усім, чым жылі яго бацькі і дзяды. Мы іх асуджаем, сарамацім. А скажыце — за што? Я глядзела выдатны дакументальны фільм «Архангельскі мужык» і здзіўлялася, як уратавалася, засталося актыўным жаданне героя фільма працаваць, адчуваць сябе гаспадаром на зямлі. У нас шмат гавораць пра годнасць чалавека, пра тое, што гэта найвялікшая наша каштоўнасць. І ў той жа час з годнасці гэтай здзекуюцца. Дзесяцігоддзі людзі працавалі ў вёсцы за «птушачку», без выхадных, без права на аплачаны адпачынак. Цяпер мы здзіўляемся, куды зніклі ідэалы? Нам трэба радавацца, што, нягледзячы на ўсе выпрабаванні, засталося нямала людзей з высокім пачуццём гонару, з пастаянным імкненнем да праўды, да асабістай мужнасці.

**«ЛіМ»: — Прапануем увазе ўдзельнікаў «круглага стала» невялічкі ўрывак з нарыса С. Алексіевіч «Я паехаў з вёскі...»: «Сярко Галя, швачка, 20 гадоў: у нашым сяле нават клуба няма. Прыедзеш на выхадныя, не ведаеш, што рабіць, чым заняцца. Днём яшчэ можаш схадзіць у лес у ягады, у грыбы, а вечарам глядзіш тэлевізар і ўсё. Кіно толькі ў нядзелю пракруцяць у школе, сядзіць чалавек дзесяць, хто прыехаў з горада». Мы не возьмем на сябе смеласць гаварыць, што гэта тыповы малюнак, але, пагадзіцеся, узровень культурнага абслугоўвання вяскоўцаў, як правіла, пакідае жадаць лепшага. Давайце паслухаем думку на гэты конт Віктара Сцяпанавіча Альшэўскага.**

**В. Альшэўскі:** — У рэспубліцы 615 населеных пунктаў з колькасцю жыхароў больш за трыста чалавек не маюць клубаў. З наяўных 4,5 тысячы клубных устаноў фактычна можна выкарыстоўваць толькі трэцюю частку, астатнія памяшканні вельмі старыя, дыхаюць, як кажуць, на ладан. Дадамо, што 40 працэнтаў клубаў не маюць пакояў для гуртковай работы.

**«ЛіМ»: — Вы намалявалі даволі сумную карціну. Што ўяўляе сабой сённяшні сельскі культасветнік?**

**В. Альшэўскі:** — У вясковых клубных установах сёння 700 незапоўненых вакансій загадчыкаў клубаў, кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці, акампаніятараў. Цякучасць кадраў культасветработнікаў у вёсцы вельмі вялікая.

**«ЛіМ»: — Усё ўзаемазвязана. Калі з вёскі ўцёк у горад загадчык клуба ці бібліятэкі, дык чаму гэта не зрабіць маладой калгасніцы? Там, у горадзе, хоць на танцы пойдзе.**



В. ХАРЭЎСКІ: Мы занядбалі і малыя гарады.

**В. Альшэўскі:** — Іспус 150 відаў захаплення, кажучы сучаснай мовай, — хобі. Мы можам прапанаваць у клубе толькі восем — дзесяць. Але справы выпраўляюцца. У мінулай пяцігодцы выканалі план будаўніцтва сеткі клубных устаноў на 41,3 тысячы месц. У дванаццатай пяцігодцы будзе пабудавана ўдвая больш. Распрацавана схема развіцця культасветустаноў па тэрытарыяльна-вытворчых сістэмах з такім разлікам, каб да бліжэйшай клубнай установы было не далей, чым 7—8 кіламетраў. Пэўныя надзеі мы ўскладаем на аўтаклубы, якіх у нас 127.

**«ЛіМ»: — Вы спадзяецеся на аўтаклубы? А дарогі, па якіх вясной і восенню не праехаць? Ці не таму ў многіх мясцінах уся культработа адкладваецца на лета?**

**В. Казько:** — Тут прагучаў папрок літаратарам, чаму мы выхавалі спажыўца. Дык спажыўца акурат і выхавалі, калі стваралі ў літаратуры вобраз станоўчага героя, якому чытач не верыў.

Мы шукаем прычыны міграцыі вясковых людзей ў горад. Сярод гэтых прычын — і варварскае абыходжанне з прыродай, у выніку чаго зніклі сотні малых рэк, лясы, палі засыпаюць пяском пылавыя буры. Адным словам, вынішчаецца, кажучы па-руску, «среда обитания» чалавека. І мы хочам, каб ён на гэта ніяк не рэагаваў? Сёння ўзнікла вялікая пагроза Прыпяці. Без шырокага абмеркавання, на ўзроўні толькі дырэктыўных органаў прыняты праект пераўтварэння гэтай ракі. Яна будзе ўзята ў дамбы, што прывядзе да знішчэння нерасцелішчаў рыбы, навакольных гаёў, абязлюдзіць навакольныя вёскі, бо спакон веку зямля тут радзіла толькі дзякуючы прынесенаму Прыпяццю глею. Гэта замах не толькі на эканоміку краю, а і на духоўнасць, бо няма духоўнасці без прыроды. Няма без прыроды і культуры.

**«ЛіМ»: — На наш погляд, за «круглым сталом» адбылася жывая, вострая, цікавая дыскусія па праблемах вельмі важнай сацыяльнай з'явы — міграцыі сельскага насельніцтва ў горад. Рэдакцыя шчыра дзякуе ўсім яе ўдзельнікам.**

**Матэрыялы «круглага стала» падрыхтаваў М. ЗАМСКІ.**

ВІНШУЕМ

# Талент, праца, вопыт

**Народнаму артысту СССР Фёдару ШМАКАВУ — 70**



Зусім нядаўна мы адзначылі шасцідзесяцігоддзе Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа... Фёдар Шмакаў больш за 40 гадоў назад злучыў свой акцёрскі і чалавечы лёс з гэтай сцэнай, шмат памятных старонак упісаў у гісторыю старэйшага калектыву рэспублікі. Іх можна гартаць адну за адной—так прасцей прасачыць сталенне таленту мастака. А можна, скарыстаўшы юбілейную нагоду, адгарнуць тыя, што найбольш яскрава раскрываюць адметнасць яго даравання...

Старшыня калгаса Каравай («*Таблетку пад язык*» А. Макаёнка) — чалавек, улюбёны ў зямлю, заклапочаны лёсам і гаспадаркі, і лёсам кожнага чалавека, што жыве побач з ім... У кругазвароце штодзённых турбот, неспадзёвак, заданняў, праверак — звычайных спраў кіраўніка, Каравай Шмакава заўсёды знаходзіў час выслухаць аднавяскоўца, даць рады, разам пашукаць выйсце. Ён быў здатны на вясёлы жарт — і тады зіхацела ў вачах хітрынка. Не, ён не бездакорны герой—дзеля агульнай справы мог пайсці і на кампраміс... Увасабляючы макаёнкаўскі вобраз, акцёр надаваў яму рысы тых людзей, з якімі неаднойчы сустракаўся ў шматлікіх вандроўках, і сваю павагу да працы хлебароба выказваў у фінальным маналогу Каравая.

У сцэнічнай біяграфіі акцёра нямала характараў мужных, трывалых, сумленных, з дакладна акрэсленай сацыяльнай пазіцыяй. Жыццё іх не песціла, за свае перакананні ім даводзілася змагацца, пераадольваць перашкоды, выстойваць. З гэтых выпрабаванняў героі Ф. Шмакава выходзілі душэўна загартаванымі, прыгадайма Антанюка, Лемяшэвіча, Гаворку («Снежныя зімы», «Крыніцы», «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна), Левінсона («Разгром» А. Фадзеева)... Для іх такія паняцці, як грамадзянская і партыйная прынцыповасць, сумленнасць, адказнасць за свае ўчынкі — чалавечая сутнасць, стрыжань.

Старшына Васкоў («А досвіткі тут ціхія...» Б. Васільева) выглядаў вельмі сціплым, някідкім — звычайным. Дзяўчатзенітчыц ён апекаваў зусім пабацькоўску, хаваючы сваю трывогу за вайсковай строгасцю. Васкову было наканавана прайсці праз смерць кожнай дзяўчыны — і выжыць, і помсціць. Ён старэў і, здавалася, сівеў на нашых вачах. Але мацнела рука, налівалася сэрца нянавісцю да ворага — найвялікшая несправядлівасць вымагала помсты.

Пры ўсёй разнастайнасці акцёрскіх характарыстык нешта агульнае маюць усе персанажы Ф. Шмакава. Іх яднае верагоднасць, тая прастата, што «дарагога варта», душэўная мяккасць, абаяльнасць, нават «свойскасць»... Могуць запытацца, і досыць слушна: а як жа сатырычны струмень творчасці акцёра? Як пачуваюцца сярод высакародных герояў такія, напрыклад, персанажы, як Прысыпкін («Клоп» У. Маякоўскага) ці Альховік («Трывога» А. Петрашкевіча)? Менавіта пазітыўнае стаўленне да жыцця, жаданне не словам, а справай паляпшаць яго, выводзіць мастака на пашырэнне межаў сваіх *магчымасцей*.

Нават традыцыйныя, класічныя трактоўкі тых ці іншых вобразаў Ф. Шмакаў карэкціраваў па-свойму. Нагадаем прыклад ці не самы красамоўны — Несцерку з аднайменнай камедыі В. Вольскага. Ф. Шмакаў прыняў ролю, у якой да яго чараваў незабыўны А. Ільінскі, выдатны майстра і настаўнік. Калі Несцерка карыфея коласаўскай сцэны караніўся ў мастацтве скамарохаў, народных блазнаў, чые кпіны і смех развенчвалі багацеяў, сцвярджалі спрадвечны розум і кемлівасць простага чалавека, — вытокі шмакаўскага Несцеркі ў цяжкай долі селяніна-гаротніка. Не, і ягоны Несцерка кпіць і смяецца з паноў, нясе людзям надзею і веру. Але ў гэтай весялосці і гумары адчувальная і *драматычная нота*...

Выканаўчае майстэрства спялілася ў класічным рэпертуары. Ён сыграў Гарацыё, Эдгара («Гамлет», «Кароль Лір» У. Шэкспіра), Гаўрылу і Платона («Гарачае сэрца», «Праўда добра, а шчасце лепш» А. Астроўскага), Мурамскага («Вяселле Крачынскага» А. Сухаво-Кабыліна), Сонцава («Ворагі» М. Горкага)... Сярод гэтых роляў і такое выдатнае акцёрскае стварэнне, як Акім («Улада цемры» Л. Талстога).

Асаблівае месца ў сцэнічнай біяграфіі акцёра займае вобраз У. І. Леніна, з якім ён упершыню сустрэўся ў спектаклі «Сям'я» І. Папова ў 1950 годзе. «З таго часу, як мне прапанавалі сыграць Валодзю Ульянава, — сведчыць Ф. Шмакаў, — не пакідала мяне думка аб стварэнні на сцэне буйнога характару правадыра рэвалюцыі. І няхай немагчыма ахапіць увесь характар, «напісаць» завершаны партрэт, — стварыць грунтоўныя эскізы да яго стала маёй марай, справай жыцця. Вобраз Валодзі Ульянава—мой першы крок на гэтым шляху». Акцёр увасобіў вобраз правадыра ў спектаклях «Вечная крыніца» Д. Зорына, «Святло з Усходу» П. Глебкі, «Трэцяя, патэтычная» М. Пагодзіна. Найбольшы поспех напаткаў у спектаклі «Шостае ліпеня» М. Шатрова. *За гэтую ролю* Ф. Шмакаў (разам з рэжысёрам С. Казіміроўскім і мастаком Я. Ніколаевым) быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР.

Інтэрпрэтуючы самы розны драматургічны матэрыял у суладдзі з задумай пастаноўшчыка, Ф. Шмакаў заўсёды застаецца самастойным мастаком, чыя грамадзянская пазіцыя неаддзельная ад лёсу творцы, яго працы. І сёння, калі Ф. Шмакаў выходзіць на сцэну, у чарговы раз пачынае дыялог з гледачом, ён мае шмат чаго сказаць людзям. Напэўна, ёсць у яго мары. Напэўна, не заўсёды яны здзяйсняюцца... Але спадзяёмся, што адна з іх здзейсніцца абавязкова: тэатр мяркуе паставіць «Мяшчан» М. Горкага, а Ф. Шмакаў — сыграць Бессяменава. У юбілейны год гэта — *найлепшы падарунак* акцёру, які ў сваёй творчасці ўвабраў традыцыі беларускай выканаўчай школы, а сёння і сам узбагачае гэтыя традыцыі. Талентам. Працай. Вопытам.

**Клара КУЗНЯЦОВА.**

КАНЦЭРТНАЯ МАЗАІКА

# У зале на Залатой горцы



Дуэт А. ПРЫХОДЗЬКІ і К. ШАРАВА.

**Вечар інструментальных дуэтаў прайшоў у Камернай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Маладыя беларускія выканаўцы Вера Чараміцына (скрыпка) і Павел Кандрусевіч (альт) выканалі творы Г. Гендэля, В. Моцарта, М. Понсэ. Музыканты паказалі сапраўднае творчае суладдзе, глыбокае пранікненне ў стыль выкананых сачыненняў.**

**Канцэрт прадоўжылі салісты БДФ Аляксандр Прыходзька (габой) і Канстанцін Шараў (клавесін, арган). З філіграннай адточанасцю, своеасаблівай грацыяй прагучалі ў іх выкананні санаты Г. Гендэля, А. Карэлі, Ж. Лайе, «Пастараль» Ф. Куперэна, «Мелодыя» К. Глюка.**

Тэкст і фота А. ВАЙНШТЭЙНА.

# МЕЛОДЫІ ЖЫВАПІСНЫХ ПАЛОТНАЎ

На знакамітай карціне «Музыканткі» («Канцэрт») невядомага мастака першай паловы XVI стагоддзя намаляваны тры юныя дзяўчыны, якія музіцыруюць «над кнігай». Захопленыя дзівоснай прывабнасцю абаяльных музыкантак, гледачы і мастацтвазнаўцы, як правіла, не звяртаюць увагі непасрэдна на нотную партытуру, раскрытую перад выканальніцамі. Між тым, яна надзвычай цікавая.

Аказваецца, мастак выпісаў музычную лінію настолькі дэталёва, што мелодыю можна цалкам *прайграць... проста з жывапіснага палатна*. Устаноўлена, што на тым варыянце карціны, які захоўваецца ў Вене, музыканткі выконваюць песню «Табе я радасць падару». А вось мелодыя з эрмітажнага варыянта гэтай жа карціны доўгі час лічылася выпадковым наборам нотных знакаў. Карпатлівыя ж даследаванні паказалі, што і тут — тая ж самая песня «Табе я радасць падару», толькі запісана партыя не сапрана, а тэнара.

Дзякуючы такім расшыфроўкам у сучасных выканаўцаў з'яўляецца неспадзяваная магчымасць: сыграць на старадаўніх блокфлейтах (сапранавай і тэнаровай), пад акампанемент лютні або клавесіна, музыку «Канцэрта» ў поўным аб'ёме. Твор жывапісу атрымае, такім чынам, яшчэ адно, новае вымярэнне, і карціна загучыць!

Тры юныя выхаванкі вядомага савецкага арганіста, клавесініста, музыканта-даследчыка Аляксандра Майкапара А. Волкава, С. Фотава, М. Расцвятаева на чале са сваім настаўнікам сапраўды падарылі нам радасць дзівоснай сустрэчы з «гукавым светам» жывапісных палотнаў. «Музыка ў карцінах старых майстроў» — так называлася канцэртная праграма, якую нашы госці паказалі ў Камернай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Мы пазнаёміліся з унікальнай знаходкай — «Allegro molto» В. Моцарта, творам, які дайшоў да нас толькі ў адзіным, «жывапісным» варыянце: на партрэце чатырнаццацігадовага кампазітара ля клавесіна. Раскрылі тайну нот на карціне «Святы Іеронім у келлі»...

На белым экране, змяняючы адно аднаго, успыхвалі слайды; гучала старадаўняя музыка; асвятляючы ноты на пюпітры, трымцеў агеньчык свечкі. Гучаў захапляючы расказ А. Майкапара. Што гэта было? Канцэрт з каментарыямі і дэманстрацыяй слайдаў? Мастацтвазнаўчая лекцыя з музычнымі і выяўленчымі ілюстрацыямі? Сінтэтычная мастацкая праграма, якая аб'яднала музыку і жывапіс? Навукова-мастацкі ці чыста мастацкі эксперымент? Многае здавалася нязвыклым, нават сам падыход у вырашэнні тэмы «Музыка — жывапіс», прапанаваны ў гэты вечар. Ды, слухаючы «музыку старадаўніх карцін», мы пачыналі адчуваць сябе відавочцамі тых далёкіх часоў. Рознабаковасцю мастацкага мыслення вылучаліся тады не толькі людзі мастацтва, але і тыя, да каго яны звярталіся. Для іх, слухачоў і гледачоў, інкруставаліся шэдэўрамі жывапісу старадаўнія клавесіны і вёрджынелы. Для іх так скрупулёзна выпісваліся на карцінах папулярныя, добра знаёмыя тады многім, матэты і мадрыгалы.

І можна вось так, як гэта робіць музыкант-даследчык А. Майкапар, наблізіцца да выявы, *зірнуць на яе праз павелічальнае шкло навукі і паэзіі...* І з жывапіснага палатна, магчыма, загучыць праз стагоддзі яшчэ адна, забытая цудоўная мелодыя.

**В. ГАРТ.**

«ЛіМ» ВЫСТУПІЎ. ЯКі ВЫНіК?

# ПРЫЗНАЧАНЫ НОВЫЯ КІРАЎНІКІ

**У «ЛіМе» за 9 студзеня 1987 г. было змешчана калектыўнае пісьмо артыстаў Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР імя Р. Шырмы, дзе яны выказалі недавер да творчых магчымасцей свайго галоўнага дырыжора А. Шунтава («А мы мяркуем інакш»).**

**Як паведамілі нам у Міністэрстве культуры БССР, А. Шунтаў быў неўзабаве вызвалены ад абавязкаў кіраўніка калектыву. У Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу БССР нядаўна прызначаны новы галоўны дырыжор — Людміла Яфімава, вядомая як кіраўнік Камернага хору Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі. У капэле будзе таксама працаваць малады дырыжор Уладзімір Глушакоў.**

**Нам паведамілі таксама, што ў Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР прызначаны галоўны рэжысёр (гэтая пасада доўгія гады заставалася вакантнай) — Вячаслаў Цюпа, які дагэтуль працаваў у Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР. Факт немалаважны ў жыцці калектыву, які сёлета пачаў працаваць ва ўмовах тэатральнага эксперыменту. Спадзяёмся, што рэпертуарныя далягляды тэатра оперы і балета, нарэшце, акрэсляцца і стабілізуюцца і рэдакцыя атрымае рэагаванне на артыкул С. Штэйна «Радасці, трывогі і надзеі». З часу гэтай публікацыі (21 лютага 1986 г.) мінуў год! Заўвага аддзела музыкі з напамінаннем пра артыкул С. Штэйна была змешчана 5 верасня мінулага года. Час ідзе, а кіраўніцтва Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР на выступленні газеты не рэагуе. Ствараецца ўражанне, што ў галоўных спецыялістаў няма пэўнага рэпертуарнага плана, а значыць, няма чаго паведамляць газеце. Але ж адказ даваць трэба!**

**АДДЗЕЛ МУЗЫКІ.**

# Усе квартэты Д. Шастаковіча

**Летась ва ўсім свеце адзначалася 80-годдзе з дня нараджэння Дзмітрыя Шастаковіча. Калі музычная грамадскасць рыхтавалася да юбілею выдатнага кампазітара, на Беларускае радыё паступіла цікавая прапанова: правесці праграмы, прысвечаныя ўсім 15-ці квартэтам Д. Шастаковіча. Ініцыятарам і аўтарам цыкла перадач «Усе квартэты Д. Шастаковіча» стала вядомы беларускі музыказнавец Л. Мухарынская. Неўзабаве гэтая маштабная праца будзе завершана: у эфіры прагучыць заключная перадача.**

**С. БРАТУШЭНКА.**




піс «Родная прырода» таксама стаў штомесячны?

Увогуле, калі ўжо нагадаў пра часопіс «Паляўнічы Беларусі», дык не магу не сказаць, што матэрыялы, звязаныя з паляваннем — арганізацыя яго, гісторыя, сённяшні дзень,—пададзены аб'ёмна, ёсць шмат інфармацыі не толькі пазнавальнага плана, але і для роздуму.

Дарэчы, і саму «Энцыклапедыю прыроды Беларусі» патрэбна разглядаць у першую чаргу як своеасаблівы Звод разнастайнай інфармацыі аб усім, што мае непасрэднае дачыненне да прыроды. Інфармацыйная пазнавальнасць, вядома, добра, але — гэта ўжо мае заўвагі — відаць, няблага было б, калі б больш ставілася праблем, якія на сучасным этапе патрабуюць свайго неадкладнага ўмяшання, вырашэння. Скажам, пішацца пра адходную і безадходную вытворчасць. Але ж становішча склалася такое, што трэба гаварыць пра вытворчасць безадходную і малаадходную. Іншага выйсця няма, толькі такім чынам можна будзе вырашыць пытанне з захаваннем экалагічнай раўнавагі на зямлі.

Яшчэ адна заўвага. Добра, што змешчаны біяграфіі навукоўцаў, жыццё і дзейнасць якіх звязана з аховай прыроды. А пісьменнікі, мастакі?! У творчасці многіх з іх знаходзіць адлюстраванне тэма аховы прыроды, беражлівага стаўлення да яе багаццяў. Чамусьці пра гэтых людзей у «Энцыклапедыі прыроды Беларусі» ні слова;

**Валянцін ЖДАНОВІЧ**, фотакарэспандэнт часопіса «Маладосць», вядомы фотамайстра рэспублікі:

— Пагаджаюся, што «Энцыклапедыя прыроды Беларусі» вельмі патрэбнае і карыснае выданне, якое ўпершыню так поўна расказвае і пра саму прыроду, і ўсё, што звязана з ёй. Але не магу не зазначыць, што ў гэтым унікальным даведніку, на жаль, сустракаюцца недакладнасці, ёсць памылкі і нават грубыя. Напрыклад, у чацвёртым томе змешчана такая ілюстрацыя: «Дэкаратыўныя пасадкі каля палаца ў Грудзінаўскім парку (Шумілінскі р-н)».На самой жа справе парк гэты знаходзіцца ў Быхаўскім раёне. Прычыну недакладнасці лёгка растлумачыць, калі ўспомніць, што і ў Шумілінскім раёне ёсць вёска Грудзінава. Праўда, у ёй парку няма, але побач знаходзіцца Грудзінаўскае радовішча глін. Падабенства назваў увяло ў зман.

Наогул, ілюстрацыі часта выкананы аднастайна, асабліва гэта тычыцца каляровых здымкаў. Для прыкладу адгорнем першы том. У ім ёсць шмат матэрыялаў, якія расказваюць пра азёры рэспублікі. На каляровых уклейках прадстаўлены наступныя з іх: Абстэрна (Міёрскі раён), Атолава (Ушацкі раён), Бабровіцкае (Івацэвіцкі раён), Белдук (Мядзельскі раён), Баторын (Мядзельскі раён), Белае (Гродзенскі раён), Багінскае (Браслаўскі раён), Вішнеўскае (Вілейскі раён) і іншыя. Глядзіш на здымкі і адразу адчуваеш, што ўсе яны вельмі падобны між сабой. Выхаплены кавалак вады, неба... Хто не бываў у тых ці іншых мясцінах, чаго добрага і сапраўды падумае, што ўсе азёры ў рэспубліцы бы тыя блізнюкі...

На самой жа справе гэта зусім не так. Напрыклад, Атолава рэзка вылучаецца на ландшафце, выцягнутае, звілістае. На адным з берагоў ярка выражаны озы: «вузкія, валападобныя грады або ланцугі ўзгоркаў і валоў. Утварыліся ад намнажэння абломкавага матэрыялу ў рэчышчах і дэльтах, водных патокаў, што цяклі па паверхні, у шчылінах ледніка і пад ім», як тлумачыць гэтую назву сама ж «Энцыклапедыя прыроды Беларусі».

Не падкрэслены і характар гэтых азёр. Скажам, Белае ў Івацэвіцкім раёне знаходзіцца ў нізіне. На ілюстрацыі ж нічога гэта не заўважаеш. Больш таго, здымі подпісы — і ўсе азёры стануць аднолькавымі. Ды хіба толькі азёры! А возьмем рэкі?! Славуты Нёман каля Гродні мае своеасаблівы эпічны характар, ёсць месцы, дзе ён цячэ, як бы ў цясніне. На здымках жа рака адлюстравана аднолькава. Заходняя Дзвіна мае крутыя берагі, а цячэ быццам у... «гліняных ночвах». Тое ж самае можна сказаць і пра такія рэкі, як Обаль, Дзісна, Дрыса. Але здымак не адлюстроўвае гэтую своеасаблівасць.

Не пашанцавала Мазырскайградзе, Навагрудскаму ўзвышшу, Мінскаму ўзвышшу, Суражскай нізіне... Здымкі ландшафтаў атрымаліся на нізкім мастакоўскім узроўні, зроблены без уліку спецыфікі краявідаў. На многіх з іх адсутнічае неба.

Ёсць недакладнасці і ў артыкулах. Скажам, у першым томе на стар. 401 чытаем: «ВАЛАТОЎКІ, пашыраная ў шэрагу месцаў Беларусі назва курганоў і пагоркаў, звязаных паводле нар. паданняў і казак з існаваннем легендарных асілкаў-волатаў». Але ж гэта старажытныя курганы, чаму б не прывесці некалькі ілюстрацый, не паспрабаваць вызначыць этымалогію назвы. На жаль, ніводная геаграфічная назва сваёй этымалогіі не мае. А яна ж павінна быць, бо выдадзены не проста даведнік вузкага плана, а энцыклапедыя! Энцыклапедыя, у якой павінны быць усе звесткі.

Кідаецца ў вочы, што пры ілюстрацыі насякомых няма маштабу. Напрыклад, «хрушч мучны» — можна падумаць, што гэта вялізны жук. Чамусьці на ўклейцы не прадстаўлены жук-алень — самы вялікі на Беларусі, абмежаваліся толькі маленькім чорна-белым малюнкам. Дарэчы, пра малюнкі У іх таксама ёсць недакладнасці. Скажам, у нашай рэспубліцы сустракаюцца два віды вужоў. Намаляваны ж адзін з чырвонай плямай на галаве, чаго ніколі ў жыцці не бывае.

З цягам часу, калі ўзнікне неабходнасць перавыдання «Энцыклапедыі...», усё ж, відаць, спатрэбіцца больш дзейсная дапамога і кансультацыі спецыялістаў, якія б змаглі падказаць, дзе, што і як фатаграфаваць. Гэта дазволіць пазбегнуць выпадковых ілюстрацый, пэўнай аднастайнасці, якая пакуль што назіраецца ў афармленні тамоў.

**Інтэрв'ю ўзяў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

---

раёнаў, вуліц, плошчаў і магістраляў, раёнаў, гарадоў; афармленне цэхаў, ферм, палявых станаў, культурна-асветных устаноў, грамадска-палітычных цэнтраў, ленінскіх пакояў, чырвоных куткоў; афармленне святочных дэманстрацый, маніфестацый і мітынгаў, прафесійных святаў, народных гулянняў; дошкі гонару, стэнды і галерэі працоўнай і баявой славы; тэматычныя пано, выстаўкі, фотавітрыны, стэнды; палітычныя плакаты; лістоўкі, выданні ў дапамогу мастакам-афарміцелям і арганізатарам нагляднай агітацыі.

Тэксты ў нагляднай агітацыі могуць быць выкананы на беларускай або рускай мовах.

Агляд праводзіцца ў два туры: І тур праходзіць у лютым—жніўні, ІІ — у верасні—лістападзе 1987 года.

У ходзе першага тура праводзяцца агляды агітацыйна-мастацкага афармлення прадпрыемстваў і арганізацый, іх падшэфных школ і базавых ПТВ, прамысловых зон, вуліц і плошчаў, цэнтральных сядзіб калгасаў і саўгасаў, жылых мікрараёнаў, інтэрнатаў рабочай і вучнёўскай моладзі, грамадска-палітычных цэнтраў, агітпляцовак, месц арганізаванага адпачынку працоўных, клубных устаноў, музеяў, бібліятэк. У лютым—сакавіку г. г. рэкамендуецца арганізаваць у працоўных калектывах абмеркаванне эскізных варыянтаў комплекснага мастацка-палітычнага афармлення прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, гаспадарак, населеных пунктаў, а ва ўстановах культуры — выстаўкі макетаў нагляднай агітацыі. Трэба ўлічыць усе дзелавыя прапановы і крытычныя заўвагі пры канчатковай дапрацоўцы планаў афармлення. Завяршаецца першы тур адборам лепшых узораў нагляднай агітацыі для ўдзелу ў раённых і гарадскіх выстаўках.

У другім туры праводзяцца раённыя, гарадскія, абласныя (верасень — кастрычнік), рэспубліканская (лістапад) выстаўкі нагляднай агітацыі і палітычнага плаката. Абласныя аргкамітэты не пазней за 15 кастрычніка г. г. прадстаўляюць лепшыя работы на рэспубліканскую выстаўку.

Рэспубліканская выстаўка нагляднай агітацыі і палітычнага плаката адкрываецца ў г. Мінску ў Палацы мастацтваў 17 лістапада 1987 г.

На вопыце лепшых калектываў прадпрыемстваў і гаспадарак-пераможцаў агляду, а таксама на базе раённых, гарадскіх і абласных выставак праводзіцца вучоба ідэалагічнага актыву, арганізатараў нагляднай агітацыі, мастакоў-афарміцеляў. Па выніках рэспубліканскага агляду ў лістападзе г. г. адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя «Наглядная агітацыя — дзейсны сродак камуністычнага выхавання працоўных, мабілізацыі іх на выкананне рашэнняў XXVII з'езда КПСС». У 1-м паўгоддзі 1988 г. будзе выпушчаны фотаальбом лепшых узораў нагляднай агітацыі. У дапамогу ідэалагічнаму актыву з сакавіка 1987 года адкрываецца рэспубліканская тэлевізійная школа арганізатараў нагляднай агітацыі і палітычнага плаката.

Для заахвочвання пераможцаў агляду і аўтараў лепшых работ арганізацыйны камітэт рэспубліканскага агляду зацвярджае: 25 вымпелаў для ўзнагароджання гарадоў, раёнаў, сельскіх населеных пунктаў; 50 дыпломаў для ўзнагароджання працоўных калектываў, навучальных устаноў, культурна-асветных устаноў; 10 ганаровых грамат для ўзнагароджання выдавецтваў, мастацка-афарміцельскіх камбінатаў і майстэрань; 10 памятных прызоў для ўзнагароджання аўтараў лепшых работ, прадстаўленых на рэспубліканскую выстаўку.

Абкомы, гаркомы і райкомы партыі, мясцовыя савецкія, прафсаюзныя, камсамольскія і гаспадарчыя органы вызначаюць парадак матэрыяльнага і маральнага заахвочвання найбольш актыўных арганізатараў нагляднай агітацыі, пераможцаў агляду, прысвечанага 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

---

**НА ХВАЛЯХ ЭФІРУ**

# Тэма з варыяцыямі

**БТ: разам ля экрана**

...Пачну з пісьма. Інжынер з Полацка В. Ляхоўскі прыслаў у рэдакцыю «сярдзіты» ліст. Аўтара не задавальняе «ўзровень вытворчасці» БТ, работа каментатараў... І наогул, піша чытач «ЛіМа», рэспубліканская праграма не мае ўласнага аблічча, а пераймае знойдзенае Цэнтральным тэлебачаннем: «Калі, напрыклад, цётка Валя ў «Вечерней сказке» выступае з дзвюма лялькамі, цётка Таня ў «Калыханцы» — робіць гэтаксама. Альбо яшчэ. На ЦТ сталі паказваць «Анонс», адразу ж і на БТ да месца і не да месца сталі карыстацца гэтым прыёмам».

**Але найбольш хвалюе В. Ляхоўскага тое, што палова перадач БТ ідзе на рускай мове. «Бывае, шкада карэспандэнтаў тэлебачання, якія да тэлегледачоў звяртаюцца па-беларуску, але адразу пераходзяць на рускую мову, калі іх субяседнік—кіруючы работнік...».**

**Што і казаць, сапраўды прыкра за тэлерэпарцёраў, якім даводзіцца выступаць у ролі перакладчыкаў-талмачоў. Ды іх можна зразумець: звычайныя правілы ветлівасці вымагаюць размаўляць на мове субяседніка. Але ж і ліст В. Ляхоўскага ў рэдакцыю напісаны... па-руску...**

**Нельга не пагадзіцца: на БТ часам «грашаць» перайманнем, асабліва ў тым, што тычыцца знешняга боку перадач, так бы мовіць, вопраткі,—афармленне, інтэр'еры. Бывае, нашы дыктары ўслед за маскоўскімі нават прымаюць аднолькавыя позы, а тэлекамеры «запамінаюць» ракурсы і планы...**

**А вось наконт «уласнага аблічча» праграм нашага тэлебачання хачу запярэчыць аўтару пісьма. У перадачах мастацкага вяшчання гучыць, як правіла, добрая беларуская мова (акрамя хіба што «Кінамазаікі»). І свой твар яны маюць. Калі гэтага бракуе выяўленчым сродкам, зрокаваму раду, дык свая тэма, свая лінія прасочваецца досыць выразна.**

Большасць з убачаных ў лютым перадач была адметная зваротам да памяці народнай, яе каранёў, вытокаў. Думаю, не кожная рэспубліканская студыя распрацоўвае гэтую тэму так настойліва, паслядоўна і мэтанакіравана, як наша.

Вось прыклады. У «Сузор'і» вялася гаворка пра кавальства, традыцыйны народны промысел; чарговы выпуск часопіса «Літаратурная Беларусь» амаль цалкам быў прысвечаны праблемам адраджэння традыцый архітэктуры і рэстаўрацыі гістарычных каштоўнасцей, прынамсі, расказ пра Ракаўскі касцёл і зацікавіў, і ўсхваляваў. На гэтую ж тэму—як зберагчы духоўную спадчыну народа—гаварылі і ўдзельнікі семінара публіцыстаў, якія праходзілі у Доме творчасці «Іслач», у перадачы «Пісьменнік і сучаснасць». Пра вытокі творчасці, вытокі натхнення, што жывяць мастака, была лепшая, на маю думку, перадача тыдня — дыялог пісьменнікаў В. Іпатавай і А. Кудраўца. Сам інтэр'ер дома на Іслачы, здаецца, запрашаў да нетаропкай, грунтоўнай гаворкі. Раскавана, нязмушана пісьменнікі абменьваліся думкамі пра надзённыя праблемы сучаснай літаратуры, паступова ўцягваючы ў кола роздуму і нас, гледачоў.

Працягвалася гаворка пра памяць людскую і ў спектаклі «Апошняя ноч Алаізы» (паўтор), у сюжэце «Кінамазаікі», прысвечаным фільму «Сведка», у праграме «Шануйце песні свае», якая прывабіла шчымліва-пяшчотнай інтанацыяй. Нарэшце, прэм'ера «Космаса дабрыні» ў літаратурным тэатры (паводле «Бураннага паўстанка» Ч. Айтматава ў перакладзе М. Стральцова) — прагучала кульмінацыяй тэмы.

М. Стральцову былі прысвечаны перадачы «Роздум» (пра новую кнігу паэзіі «Свеце мой ясны») і «Вытокі натхнення» — да пяцідзесяцігоддзя паэта, празаіка і літаратурнага крытыка. І гэта не ўспрымалася перабольшаннем—таленту было аддадзена належнае.

**Асобна хочацца сказаць пра перадачы абласных студый тэлебачання — літаратурна-мастацкія часопісы «Дзвіна», «Буг», «На прынёманскіх прасторах». Калі б не апошні нумар «Дзвіны», гаварыць пра іх лютаўскія выпускі было б складана. Форма гэтых часопісаў, якія транслiруюцца па рэспубліканскім тэлебачанні ўжо гадоў пяць, не толькі састарэла, але нават закасцянела. З месяца ў месяц паўтараюцца расказы пра ўмельцаў, самадзейных спевакоў, а на заканчэнне — выступленне фальклорнага калектыву... Не скрашваюць агульны сумны настрой часопісаў вядучыя, прозвішчы якіх, дарэчы, не заўсёды называюцца. У апошнім нумары «На прынёманскіх прасторах» расказ пра паэта-перакладчыка стваральнікі перадачы вырашылі «ажывіць» кінакадрамі працы ў цэху, ля станка... Наўрад ці гэтыя здымкі дапоўнілі гаворку пра якасць перакладаў!**

**На лепшым узроўні робіцца часопіс «Буг»—і не ў апошнюю чаргу дзякуючы пастаяннаму вядучаму—паэту М. Пракаповічу. Яго чакаеш, і калі вядзе перадачу нехта іншы, здаецца, што нібыта страціў шчырага і разумнага субяседніка.**

**Звыклая і досыць сухаватая форма часопіса «Дзвіна», ды гэта кампенсуецца зместам перадач, узроўнем размовы з гледачом, адборам матэрыялу. Асабліва ўзрадаваў апошні нумар часопіса — надзённасцю ўзнятых праблем, разнастайнасцю тэлевізійных жанраў: дыялог, рэпартаж, інтэрв'ю, рэзананс на крытычны сігнал зрабілі часопіс не толькі значным па змесце, але і «глядзельным». Упрыгожылі часопіс віцебскія акварэлі Ф. Гумена—адмыслова знятыя, маляўнічыя, сакавітыя, яны прагучалі песняй без слоў...**

**Прыемнае ўражанне пакінулі два лютаўскія выпускі «У жывапісе, графіцы, скульптуры». Адзін з іх, прысвечаны рэспубліканскай выстаўцы акварэлі і малюнка ў Полацку, вызначаўся адметнай кампазіцыяй, нават драматургічнай пабудовай, што бывае нячаста, і дасведчаным, тактоўным каментарыем. Перадача пра мастачку Надзею Хадасевіч-Лежэ прагучала данінай павагі і памяці нашай славутай зямлячцы.**

Была ў лютым і вялікая пастановачная перадача — спектакль паводле рамана А. Кудраўца «Сачыненне на вольную тэму». Думаецца, гэта работа знойдзе свайго рэцэнзента і будзе разгледжана асобна. Адзначу толькі, што, на мой погляд, спектаклю не ставала драматургічнай напружанасці, спружыны. Прынамсі, гэта звыклыя хібы тэлеілюстрацый прозы.

**Р. БАКУНОВІЧ.**

**АД РЭДАКЦЫІ.** **Ліст полацкага інжынера В. Ляхоўскага — мабыць, залішне эмацыянальны, але вельмі зацікаўлены—сведчыць пра тое, што чытачы заўважылі нашу новую рубрыку. Спадзяёмся на працяг дыялогу. Чакаем вашых думак, меркаванняў, уражанняў і прапаноў — у рубрыцы «БТ: разам ля экрана».**

## ПЕРАКЛАДЫ

«Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага — выдатны помнік літаратуры XVI стагоддзя — заваявала ў нас шырокую вядомасць, увайшла ў наш культурны ўжытак дзякуючы перакладам Я. Парэцкага і Я. Семяжона на рускую мову, а потым Я. Семяжона — на беларускую.

Прапануем увазе чытача ўрывак з новага перакладу славутай паэмы на беларускую мову, які зрабіў Уладзімір Канстанцінавіч Шатон. Гэты пераклад можна назваць «філалагічным» — ён і па колькасці радкоў, і па метрыцы, і па сэнсе кожнай аўтарскай думкі не адхіляецца ад арыгінала. Аўтар перакладу працуе выкладчыкам лацінскай мовы ў Мінскім дзяржаўным інстытуце замежных моў. Пераклад «Песні пра зубра» — не першая спроба ў гэтай галіне У. Шатона. Для еўрапейскага лацінамоўнага часопіса «Vox lacina» ён перакладаў урыўкі з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Таксама яму належаць пераклады на беларускую мову лацінамоўных твораў дзеяча культуры Беларусі XVI стагоддзя А. Волана.

Мікола ГУСОЎСКІ

# ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА

Вецер калыша і гне касматую грыву нароскід,
Грозны і страшны цяпер гэты лясны велікан.
Гневам напяты увесь, шыбуе праз пень і калоду,
Прагнучы, як наталіць ярасць крывёю ахвяр.
Дзіваў нагледзеўся я. Але, прызнаюся, на ловах
Болей мяне узрушаў звера бушуючы гнеў.
Скокам пачварным ляціць, усё падмінае і трушчыць,
Покуль ударам рагоў не растрыбушыць кагось.
Як прыпыніўся крыху, наставіць раздзьмутыя ноздры,
Нюхае, каб мог учуць, дзе затаіўся бягляк.
Рынецца потым ізноў і нішчыць агулам жывое,
Лічыць, што кожны яму чыніць і раны і боль.
Некага знойдзе, пырне, высока падкінуўшы ў неба,
Ды шчэ рагамі затым ловіць скрываўлены кус.
Трапіцца хай чалавек, хай стрэнецца конь багатырскі,
Тут жа бадзе, і ўгары бачыш кавалкі ад іх.
Рве, падкідае ўвысь, і драбнеюць астанкі, а вецер
Дробным крывавым дажджом сее мясное шмаццё.
Верхніка разам з канём змясіць можа так, што з абоіх
Пырскае, толіць зямлю кроў невядома чыя.
Стрэчнага звера, які уцячы б захацеў і схавацца,
Хутка нагоніць, заб'е, толькі б заўважыў яго.
Бачыў тады часцяком у паветры дарослых аленяў,
Звер як падкідваў іх недзе на сцежцы лясной.
Ён яшчэ больш нападаў на дзікоў і сярдзітых мядзведзяў,
Можна б успомніць было мноства крывавых нагод.
Моцным ударам адным садане і павыпусціць шлунне —
Кверху вантробы ляцяць, сцелюцца ўроссып на дол.
Рэшткі шпурляе ізноў гэтак далёка, што нават
Верыць не хочаш вачам, хоць і на буйства глядзіш.
Птахі клююць на ляту атрэп'е ападу мяснога,
Прагна жарэ варанне труп'е на лапінах дрэў.
Верхніка неяк дагнаў і закінуў далёка на сучча,
Тым жа ударам каню ён растрыбушыў нутро.
Часам бывала і так, што абое ўзляталі адразу,
Верхнік аднак завісаў і заставаўся жывым.
Выпадкаў многа такіх, але шмат я прыводзіць не стану,
Мала карысці ад слоў, веры каторым няма.
Звера адчуе наўрад, хто не зведаў ягоную лютасць,
Хто не глядзеў, як рагач валіць ахвяру на дол.
Дзе б стрымгаловы ні бег, куды б не імчаў апантана,
Рушыць усё на шляху, быццам лавіна з гары.
Ровам рыкастым раве, пачварна сігае і скача,
Рады, калі ўцекача можа на рогі падняць.
Рэзкі, парыўны імпэт з'яўляецца ў рухах ягоных
Там, дзе ён хоча сквітаць буйствам рахункі свае.
Цёплая кроў ад ахвяр як хлыне на рогі, шалее —
Слоў не хапае ў мяне лютасць яго апісаць.
Так ён віруе наўкол, што ўрэшце заместа зубрыны
Клубяць густыя клубы снежнага пылу й зямлі.
Змеціць пагібель чыюсь узляцеўшае ўгору вантроб'е,
Снег, набрынялы крывёй, вызначыць месца бяды.
Гэта засведчаць не менш астанкі мясныя на веццi,
Што не апалі на дол з іншым крывавым рыззём.
Ўслед за кармільцам сваім, куды б ні хацеў ён падацца,
Лётае хцівец-груган, бегае звер-жывадзёр.
Бык жа знявечаны труп яшчэ доўга рагамі шматае,
Цалкам не можа ніяк злосці агонь патушыць.
З месца не сыдзе, пакуль косці не струшчыць ахвяры,
Цела пакуль не парве ды не затопча у снег.
Рэдкім крывым ланцужком наўкола ўжо верхнікі скачуць,
Звера гоняць усяк: пострахам, ганай, кляцьбой.
Кожны у гонах штукар. Але й тут не бывае без ліха,
Гіне, на жаль, і спрытняк, звыклы да розных нягод.
Дзе ёсць шырокі прастор, там бег свой працягваць лёгка.
Можаш з канём абхітрыць злейшага з лютых звяроў.
З гонам у лесе цяжэй. Упаўшае дрэва гнілое
Шлях адразае каню, збочвацца мусіць лавец;
Пасткаю будуць яму кратáмі ўскапаныя норы,
Слізкае месца ці лёд, якія пасыпаны снегам.
Цяжка і сук абмінуць, які над зямлёю звісае —
Безліч у смерці дарог, схопіць раптоўна зусім.
Конь або верхнік упаў, то зяруга рагамі іх порыць,
Міг — і высока ўгару звякшыя трупы ляцяць.
Зрэдку на момант, бадай, чалавек і ўхінецца ад звера,
Прыткія рогі аднак потым насцігнуць лаўца.
Тое, што помню цяпер, калі б я прыгадваць меўся
Дый пра звярыну пісаць разам усё захацеў,
Ледзьве закончыў бы сказ і нават не знаю дакладна,
Як бы разбухла тады сціплая кніжка мая.
Скажа сёй-той: на зуброў паляваць — безразважны занятак,
Ловы такія нясуць згубу для многіх людзей.
Ды пахвалу ці віну апраўдае зачынца суровы,
Храбрага мужа імя славяць і ў нашыя дні.
Гэтай задумай адной адважнага Вітаўта розум
Сілу радзіме вярнуў, княствам вялікім зрабіў.
Ловамі ў нашых лясах рыхтаваў ён ваяцкую моладзь
Ў тыя гады, калі быў князем літоўскіх зямель.
Вораг каб не шаламіў, літвін у зацішку між войнаў
Раці свае прымушаў цяжкасці перамагаць.
Любячы мір на зямлі, палымнеў ваяўнічым запалам,
Дзе ўжо клінок агаліць мусіў для бітвы на смерць.
Лук свой татарын зламаў і яго працягнуў пераможцу,
Долу схіліў галаву, страхам ахоплены ўвесь.
Хто шчэ нядаўна збіраў з фанабэрыстай пыхай здабычу,
Сам жа здабычаю стаў, ганьбай акрыўшы сябе.
Вітаўт ашчаджваў тых, каму дазваляў уладарыць,
Волю князя васал жыў або траціў жыццё.
Быццам нявольнік які, маскавіт яго зваў уладыкам,
Хоць і магутным царом быў сярод многіх цароў.
Турак, мацак і тады, прысылаў дарагія дарункі,
Сведчыў здалёку, што ён князю скарыцца гатоў.
Трое вось гэтых, што жах на цэлы сусвет наганялі,
Моўкнулі ўраз перад ім, рот баючыся адкрыць.
Воі адвагу і спрыт не толькі ў баях здабывалі,
Ўсюды і як толькі мог Вітаўт кагорты вучыў.
Зборні літвінаў калісь ажно віравалі ад войска,
Мірны для ратніка час быў нібы часам вайны.
Каб і страла і кап'ё пацэлілі трапна і моцна,
Воін удзень і ўначы працай сябе гартаваў.
Лукі з тугой цецівой спявалі ў нястрымным харале,
Гэтакі спеў азначаў меткае вока й руку.
Верхнікі, творачы круг, стралою дзіравілі з ходу
Шапкі-лямцоўкі, што ім шчодра кідалі уверх.
Часта ляцелі ўгару таксама і шапкі-кучомкі,
Зноў як валіліся ўніз, дзюрак на іх не злічыць.
Ў небе высока стралой крыло жураву падсякалі,
Падаў курлыка з нябёс, іншых не маючы ран.
Птаху ніяк не маглі ўратаваць ні дрэва, ні крылы,
Нават кудысь па вадзе ёй не схавацца было.
Вітаўту дзіч прынясеш, аддзячыць табе, абы толькі
Ты яму птушку дабыў лоўкай, умелай рукой.
Дужа хвалілі таго, хто ловамі стала займаўся, —
Так што ішлі на звяроў цэлыя процьмы ваяк.
Хмарышчы коп'яў і стрэл, галёканне, крыкі і посвіст
Збеглага ў самы гушчар гналі са сховы далей.

Пераклаў з лацінскай У. ШАТОН.




з 2 па 8 сакавіка

2 сакавіка, 20.10

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА.**

Канцэрт вакальнага ансамбля Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў імя Ільіча горада Мінска.

3 сакавіка, 19.00

**«СПАДЧЫНА»**

Гайцюнішскі замак — унікальны помнік пачатку XVII стагоддзя. Пачалася яго рэстаўрацыя. Як яна вядзецца і што чакае ў будучыні гэты славуты помнік? Аб гэтым разважаюць археолаг аб'яднання «Белрэстаўрацыя» А. Сухоцкі і мастак У. Басалыга.

3 сакавіка, 19.50

**МУЗЫКА МАЕЙ РЭСПУБЛІКІ**

А. Багатыроў. Канцэрт для віяланчэлі з аркестрам.

Выконвае сімфанічны аркестр Беларускага тэлебачання і радыё. Дырыжор — заслужаны артыст рэспублікі В. Сарока. Саліст — Я. Ксавер'еў.

3 сакавіка, 21.45

**«ЭКЗАМЕН НА ДЫРЭКТАРА»**

Аўтары У. Бутрамееў, Я. Міцько. Рэжысёр — А. Яфрэмаў. У ролях — С. Шкалікаў, М. Глузскі, Ю. Казючыц, Т. Мужэнка.

4 сакавіка, 18.10

**«ГОЛАС СУРОВАГА ПАКАЛЕННЯ»**

Перадача падрыхтавана да 75-годдзя з дня нараджэння У. Карпава.

У ёй прымаюць удзел А. Асіпенка і І. Шамякін.

6 сакавіка, 19.50

**ПАКАЗВАЕ БРЭСТ**

Літаратурна-мастацкі часопіс «Буг».

7 сакавіка, 10.30

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ**

Вы пазнаёміцеся з народным тэатрам Міёрскага раённага Дома культуры. Будуць паказаны фрагменты са спектакляў «Сымон-музыка», «Гісторыя з метранпажам», «Сусед з 34-й».

7 сакавіка, 11.10

**«САЮЗ МАСТАЦТВА І ПРАЦЫ»**

Сустрэча вакальна-інструментальнага ансамбля «Сябры» з працаўнікамі Берастаўіцкага бавоўнянага аб'яднання.

7 сакавіка, 13.05

**СЛОВА — ПАЭЗІІ**

Новыя вершы Раісы Баравіковай.

7 сакавіка, 14.20

**«ПРЫЗВАННЕ»**

Перадача прысвечана 70-годдзю з дня нараджэння народнага артыста Ф. Шмакава.

7 сакавіка, 18.10

**«СПЫНІЦЦА, АЗІРНУЦЦА»**

Адбудзецца сустрэча з публіцыстам Л. Жухавіцкім.

7 сакавіка, 19.50

**«ФАНТАЗІЯ»**

Прэм'ера дакументальнага фільма Беларускага тэлебачання. Фільм пра сувязі народных традыцый, народнага мастацтва з сучаснасцю.

Аўтар сцэнарыя А. Нікіціна. Рэжысёр — В. Жыгалка.

7 сакавіка, 23.25

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Музычная праграма з удзелам А. Пугачовай, А. Камбуравай, Я. Еўдакімава, групы «Форум».

8 сакавіка, 17.05

**«У СВЯТЛЕ РАМПЫ»**

Будзе расказана пра спектаклі «Ноч анёла» ў Рускім тэатры імя М. Горкага і «Дзед і Жораў» у тэатры лялек БССР. Аб гэтых работах расказваюць народная артыстка СССР А. Клімава і галоўны рэжысёр тэатра лялек А. Ляляўскі.

Вядучы — кандыдат мастацтвазнаўства Р. Смольскі.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 13590 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.